23 лютага 2018 | № 6 (569)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

«Навінкам» — дваццаць гадоў! стар. 19







# Хочацца, ды не даскочыцца

## Жаданне кіраўніка Беларусі выправіць ва Украіну корпус міратворцаў — хутчэй, толькі словы



Сяргей ПУЛЬША

Ці не ўпершыню ў выбарчай кампаніі Аляксандр Лукашэнка быў на другіх ролях. На яго звярталі ўвагі значна менш, чым на старшыню ЦВК Лідзію Ярмошыну. Што і дазволіла беларускаму кіраўніку выказаць пэўныя патаемныя (і не вельмі) жаданні.

Адно з такіх жаданняў — захаваць за сабою ролю міратворцы. Нягледзячы на тое, што беларускае кіраўніцтва любіць паўтараць: «Гэта не мы абралі нас як перамоўшчыкаў па канфлікце ва Украіне», такі статус прынёс нам багата выгодаў. І пажадана было б яго захаваць, калі не ўзмацніць.

Пасля галасавання на мясцовых выбарах Лукашэнка пракаментаваў нашы міратворчыя ініцыятывы. У прыватнасці, ён у чарговы раз заявіў пра магчымасць уводу ва Украіну беларускага міратворчага кантынгенту: «Я нават казаў двум прэзідэнтам, Парашэнку і Пуціну: вы не разлічвайце на тое, што я чыйсьці буду. Я буду дакладна выконваць тое, пра што вы, два прэзідэнты, дамовіцеся: стаць паміж — я стану, дамовіцеся ўвесці дзесяць тысяч узброеных сілаў Беларусі — мы паставім іх на мяжы, дзе вы скажаце».

«Сёння вярнуліся да палавінчатага варыянту таго, што я прапаноўваў: давайце і беларусаў уключым (гэта NATO прапануе), таму што ім нібыта давярае Расія», — дадаў кіраўнік краіны.

Дзіўна, але амаль адначасова з прамовамі беларускага правадыра на выбарчым участку ў Мінску, кіраўнік нашага МЗС Уладзімір Макей сустрэўся са спецпрадстаўніком Дзярждэпу ЗША па Украіне Куртам Волкерам у Германіі, падчас Мюнхенскай канферэнцыі па бяспецы. Без падрабязнасцяў паведамляецца, што яны «абмеркавалі ўрэгуляванне канфлікту ва Украіне». Але, калі ўлічыць, што напярэдадні з тым жа Волкерам сустракаўся прэзідэнт Украіны Пётр Парашэнка і абмяркоўваў з ім (і з міністрам абароны ЗША Джэймсам Мэцісам) увядзенне на Данбас міратворцаў ААН, няцяжка здагадацца, пра што сакрэтнічалі Волкер і Макей.

Сапраўды, увод міратворцаў дзеля пагашэння канфлікту ў Данбасе зараз даволі актыўна абмяркоўваецца ўдзельнікамі перамоўнага працэсу. Але абодва бакі непакоіцца, каб іх не «нажухалі». Масква настойвае, каб міратворцы былі на лініі фронту паміж ЛНР/ДНР і Украінай. Кіеў кажа, што трэба кантраляваць мяжу Украіны і Расіі, праз якую рэгулярна ідуць так званыя «гуманітарныя канвоі».

План прымянення на Данбасе міратворчага кантынгенту ААН у 20 тысяч вайскоўцаў і 4 тысячы паліцэйскіх прапанаваў былы генсек NATO (а зараз, што цікава, дарадца прэзідэнта Украіны) Андэрс Фог Расмусен. Суаўтар плана Рычард Гован, эксперт па справах ААН у Калумбійскім універсітэце, казаў: «Гэтая дзейнасць (увод міратворцаў на Данбас. — аўт.) запатрабуе прыцягнення шэрагу еўрапейскіх краін, такіх, як Швецыя; краін, якія маюць досвед міратворчых аперацый, такіх, як Бразілія; і краін, якім давярае Расія, такіх, як Беларусь».

Відавочна, што высновы сусветных экспертаў — бальзам на душу Аляксандра Рыгоравіча. Але, на шчасце, Беларусь не ў стане выканаць пажаданні свайго кіраўніка. І наўрад ці будзе здольная зрабіць гэта ў агляднай будучыні.

Айчынны міністр абароны Андрэй Раўкоў, канешне ж, аддаў салют свайму галоўнакамандуючаму і заявіў, што Сіняя каска гатовая накіраваць свае «блакітныя каскі» ў «гарачую кропку» ў адпаведнасці з міжнародным заканадаўствам. Але пры гэтым у Беларусі падрыхтаваных міратворцаў — адна рота колькасцю ў сто чалавек. Што на два парадкі менш, чым казаў Лукашэнка.




**На шчасце, Беларусь не ў стане выканаць жаданне кіраўніка**

Агульная колькасць беларускай арміі — каля 65 000 чалавек, з іх грамадзянскага персаналу — 14 500. Такім чынам, усяго ў краіне налічваецца каля 48 500 вайскоўцаў.

Наша армія — не прафесійная, не кантрактная. І наўрад ці ў "гарачую кропку" можна выправіць салдат тэрміновай службы. Хаця б таму, што, згодна з міжнароднымі нормамі, кожны жаўнер-міратворац павінен даць асабістую згоду на ўдзел у такой місіі. А пасля «справы Коржыча» да войска ў грамадстве вельмі вялікая ўвага. І, калі пасылаць жаўнераў на місію без іх згоды, беларусы адразу прыгадаюць Афганістан — акурат 15 лютага споўнілася 29 гадоў, як апошнія савецкія войскі пакінулі тую краіну.

У выпадку прыняцця валюнтарысцкага рашэння накошт выкарыстання ў якасці міратворцаў салдат тэрміновай службы, улада атрымае такую аддачу, што мінулагодніх «маршы недармаедаў» пададуцца кветачкамі.

Значыць, для размежавальнай місіі ў наяўнасці застаюцца толькі афіцэры і прапаршчыкі, якіх у беларускім войску разам усяго 21 350 (паводле дадзеных на 1 сакавіка 2016 года). Калі 10 тысяч з іх выслаць у суседнюю краіну міратворцамі — з чым застанецца ўласна Беларусь?

Аднамоманта знізіць абараназдольнасць краіны на 50% — ідэя, канешне, цікавая. Але наўрад ці разумная.

Таму пажаданні Лукашэнкі размежаваць ваюючыя ў Данбасе бакі беларусамі, хутчэй за ўсё, пажаданнямі і застануцца.

Адзінае, што цікава ў прамове Лукашэнкі, — фраза пра «мы паставім іх (беларускія войскі) на мяжы». Гэта даволі яскрава паказвае, якому варыянту размежавання — украінскаму ці расійскаму — аддаў бы перавагу беларускі кіраўнік, калі б ад яго нешта залежала.

# «Віна за сённяшні стан беларускай мовы ляжыць перадусім на патрыётах беларускай мовы»

Зміцер ДАШКЕВІЧ

**Гэты тэкст пад назвай «Зрабіць Беларусь Беларуссю» з'явіўся на асабістай старонцы Змітра Дашкевіча ў Фэйсбуку. Мы палічылі, што яго варта пачытаць не толькі карыстальнікам сацсетак, і публікуем з дазволу аўтара.**

«Дзень роднай мовы — добрая нагода паразмаўляць пра тое, хто вінаваты і што рабіць? Я прыхільнік таго, каб мы рэчы называлі сваімі імёнамі. Прыемна гэта ці не, паліткарэтна ці радыкальна, але так ёсць: сучасная беларуская дзяржава дваццаць тры гады здзяйсняе этнацыд беларускага народу. Адно тое, што ў Беларусі па-беларуску вучыцца 0,3% студэнтаў ВНУ, — адно гэта прысуд кіраўніцтву краіны.

Прыклады этнацыду беларусаў «беларускай» жа дзяржавай можна прыводзіць бясконца. Чаму ніводны дакумент у дзяржустанове не дублюецца па-беларуску? Чаму ніводны чыноўнік не размаўляе са мной па-беларуску, калі я да яго на мове звяртаюся? Чаму бацькі вымушаны ваяваць за беларускамоўныя садочкі? Чаму 10-мільённы беларускі народ не мае ніводнай беларускамоўнай ВНУ? А вы чыталі сведчанні пра беларускамоўных дзяцей, сабраныя Вадзімам Пракопчыкам і Аляксандрай Баярынай? Як назваць такую палітыку? Давайце прызнаемся — гэта этнацыд.

Але, з іншага боку, пра што мы размаўляем? Ці не пра дзяржапарат, які з 94-га будуецца на нянавісці да беларушчыны? Ці не пра тых, хто ў 95-м драў сцяг і нішчыў мову? Ці не глупства гэта — пра беларускую мову спытваць з ненавіснікаў беларускай мовы? Дык а з каго спытваць? — рэзонна запярэчыць чытач. А я вам скажу сваю версію. «Каму шмат дадзена, з таго шмат спытана будзе», — гаварыў Хрыстос.

Перакананне, да якога я ішоў гадамі, прагучыць для кагосьці жорстка, але я ў гэтым пэўны: віна за сённяшні стан беларускай мовы ляжыць перадусім на патрыётах беларускай мовы. Сітуацыя, калі прыхільнік мовы мову любіць, але на ёй не размаўляе, — гэта невытлумачальна, бо як можна любіць свайго дзіцёнка і даць яму камень замест хлеба? Сітуацыя, калі беларускамоўны чалавек беларускамоўны толькі ў публічнай прасторы (офісе, імпрэзе, з журналістамі і г.д.) — гэта невытлумачальна, бо разумны чалавек паводзіць сябе непаслядоўна. Я назіраю ці не штодня, як беларускамоўны ў краме кажа *«дайце, пажалуйста»*, дастаўшчыку піцы — *«спасіба бальшое»*, любому майстру — *«ізвініце, памагіце»*. Калі этнацыд беларусаў ворагамі Беларусі хоць неяк можна патлумачыць, як патлумачыць гэта?

Зразумейце мяне правільна, я нікога не хачу абвінавачваць: я ведаю, што такое раптам і паўсюль перайсці на мову — я сам у 20 гадоў праходзіў гэту ломку сваіх савецкіх комплексаў. Сядзіш ты такі ў маршрутцы і кажаш *«астанавіце, пажалуста»*, а потым выходзіш — і аж нешта баліць унутры, так млосна ад двудушша. У нейкі момант я зразумеў: кожнае маё *«пажалуйста»* і *«спасіба»* на крок набліжае да прадказанай ЮНЭСКА смерці беларускай мовы.

Тады я вырашыў пайсці супраць патоку. І як радасна, калі цягам гэтай хады заўсёды яшчэ нехта разварочваецца і праходзіць пару крокаў з табою: у лазні палова парыльшчыкаў імкнецца ўставіць пару словаў па-беларуску, калі я з моўнымі каментарамі паддаю пары; на прамзоне незнаёмыя людзі кажуць «Жыве Беларусь!» і «як прыемна», калі чуюць мову ад простых хлопцаў з піларамы (с). Бо мова мяняе свядомасць, а потым мяняе рэальнасць.

Дык гаманіце на мове заўсёды, з усімі і паўсюль — і вы адразу ўбачыце, як мяняецца рэчаіснасць вакол вас — гэта Беларусь становіцца Беларуссю».

# Як жывецца беларускамоўным дзецям

**Напярэдадні Міжнароднага дня роднай мовы мінскі дызайнер Вадзім Пракопчык сабраў сведчанні мам і бацькоў пра тое, як жывецца іх беларускамоўным дзецям.**

«Я прашу прачытаць гэта ўсіх сваіх фрэндаў. І ўявіць сябе на месцы гэтых людзей, гэтых дзяцей», — піша ён на сваёй старонцы ў Фэйсбуку.

І прапануе «рэальныя сведчанні рэальных бацькоў»:

«Вучыла дачку фігурам на пляцоўцы. Кажу: «Дачушка, глядзі, — гэта круг, а гэта квадрат, а вось гэта трохкутнік»... Да нас падыходзіць дзяўчынка гадоў 6–8 і кажа: «Вы неправильно говорите, это треугольник». Выдыхаю, адказваю: «Па-руску — треугольник, а па-беларуску — трохкутнік ці трохвугольнік яшчэ можна». Дзяўчынка: «Но такого слова нет!!! Она у вас вырастет тупая...» Я не буду закранаць, тое што маю дачку абразілі. Але, заўважым, што дзяўчынка ў сваім узросце, нават не ведала пра існаванне беларускай мовы, не чула беларускіх словаў, усё дзякуючы садку і, магчыма, школе (пра бацькоў не ўзгадваю)».

«Паліклініка. Сыну правяраюць слых. Хадзіла мая мама, папярэдзіла, што дзіцё беларускамоўнае. Але словы ўсё роўна рускія называюць. Доктар кажа: «Цветок». Сын маўчыць, задумаўся. Доктар пытаецца: «Он что, не слышит?». Мама ёй: «Слышит, просто думает, на каком языке вам отвечать». У адказ: «Вы с ума сошли, как вы его воспитываете?!»

«Уяўляеш, ты прыходзіш на пляцоўку з дзецьмі — і праз хвіліну іншыя дзеці збіраюцца ў групку і пачынаюць шаптацца і паказваць на вас пальцам. Твае дзеці звяртаюцца да іншых, каб пазнаёміцца, а ад іх моўчкі адварочваюцца, бо не разумеюць. І гэта добра, калі мама побач і можа штосьці паправіць, а калі тое ж у садку, дзе мамы няма? Як бы ты сябе адчувала?»

«А майму сыну акуліст 0,9 зрок паставіла замест 1, бо ён па-беларуску нейкую карцінку назваў. А доктар падумаў, што ён не бачыць, што там».

«Прыходзім да лагапеда. Сыну 3,5. Яму даюць рускамоўную метадычку і просяць называць прадметы па-руску, каб пачуць менавіта тыя гукі, да якіх малюнкі. Сын, натуральна, называе не ўсё, саромеецца. У выніку яму пішуць: «общее отставание в речевом развитии». І накіроўваюць на камісію! Муж пытаецца: «А нічога, што вы белмоўнаму дзіцяці паказваеце метадычку для рускамоўных і хочаце пачуць рускія гукі?» Адказ: «Это не имеет значения, языки одинаковые, идите на комиссию».

«Мяне пакуль толькі ў аўтобусе нейкія «разумніцы» перадпенсійнага ўзросту лячылі год таму, што я дзіцяці жыццё ламаю, і іх бедныя ўнукі праз беларускую мову ў школе паўночы хатнія заданні робяць. Выкінуць, кажуць, гэту мову з праграмы трэба».

«А колькі разоў на маіх дзяцей глядзелі як на рэдкіх жывёл у заапарку. «Ой, как он по-белорусски хорошо говорит, хи-хи-хи, а как смешно он цыпленка назвал — ха-ха-ха, Кастусь, скажи еще что-нибудь. Хи-хи-хи». А сын — даверлівы, шчыра пасябраваць хацеў. Сэрца кроўю аблівалася, калі я на гэта глядзела».

«Дачка да трох год беларускамоўная. Адна з выхавацелек прынцыпова не разумела па-беларуску. Нават былі пасылы: «Не разговаривай со мной по-белорусски». «Лучше уж по-английски, я его лучше знаю». Вынік: дзіцё перастала размаўляць па-беларуску часам нават дома, калі незнаёмыя звярталіся па-беларуску, усё адно адказвала па-руску, бо «а раптам не разумеюць».

«Ведаю, што беларускамоўных дзяцей з лагапедычнымі праблемамі накіроўваюць у рускамоўную лагапедычную групу, дзе ўсе заняткі па-руску і дзецям ставяць рускую фанетыку: мяккае «ч», «щ», «р'». Калі мая знаёмая адмовілася дзіцё з беларускай групы ў рускую пераводзіць, але папрасіла, каб на заняткі да штатнага лагапеда дзіцё вадзілі, адміністрацыя адмовілася. Альбо рускамоўная група, альбо шукайце лагапеда ў іншым месцы».

«Садкоўскі дэфектолаг паказвае карткі і просіць іх назваць. Дзіцё кажа: «Парасон». Яго выпраўляюць: «Зонт!».

«Сын Кастусь. Выхавацелька беларускамоўнай групы ігнаруе гэта і ўпарта кліча «Косця», Дзіцёнку — 4 гады, ён толькі пачаў хадзіць у групу і не разумее, што Косця — гэта пра яго. У выніку на сына насварыліся, што не адгукаецца, калі клічуць. Мы ў выніку наступным дзецям такія імёны давалі, якія на рускую не перакруціш. І то Ясіка адзін раз Ванечкам назвалі».

«Балючая тэма, калі дзеці саромеюцца мовы бацькоў, бо хочуць быць, як усе, бо з іх смяюцца рускамоўныя аднагодкі, бо не бяруць у гульню, бо не разумеюць. Толькі на пляцоўцы мы можам сысці, а вось у садку дзіцё вымушанае прыстасоўвацца».

«У мяне ў транспарце пыталіся: а ці разумее вас ваш сын?! З якім я не разлучалася ні на дзень да трох з паловай гадоў! Не, я яму перакладаю — і смешна, і сумна».

«Мой сын, тады яшчэ 5-гадовы, пайшоў на пляцоўцы з дзяўчынкай знаёміцца. Ён ёй: «Прывітанне». А яна ў адказ: «Я не Аня!»

Я прашу выказацца аўтарытэтных асоб, творцаў, палітыкаў, філосафаў, юрыстаў, проста неабыякавых да гэтага невыноснага становішча. З гэтым трэба нешта рабіць», — заклікае Вадзім Пракопчык.

# Жыхары Слуцка: Ад візітаў Лукашэнкі адны страты

Зінаіда ЦІМОШАК

**Візіт кіраўніка краіны ў Слуцк актыўна абмяркоўваўся гараджанамі. Узгадалі і раптоўны рамонт вуліц, і абяцанні наладзіць працу цукраварні ды дражджавога завода, а таксама павысіць заробкі настаўнікам.**

Вось што напісаў карыстальнік з нікам «За справедливость!»:

«Причина гораздо прозаичнее. Большинство членов избирательных комиссий — педагогические работники, и участки расположены в большинстве своем в школах. Моргнуть не успеем — а уже придут парламентские и президентские выборы. Правильно, их проведут только преданные члены комиссии. Им надо поднять зарплату — т.е. дать взятку».

«За деревообработку брался, за заводы брался, даже за слуцкий пивзавод брался. Где оно все?» — піша другі каментатар.

Ездзіць на аўтамабілях па гораду было небяспечна праз вялікагрузныя самазвалы і трактары. Работа кіпела паўсюль.

Падобна, што прыезд кіраўніка краіны для слуцкай «вертыкалі» стаўся нечаканасцю, бо горад упарадкоўвалі на працягу некалькіх дзён, і нават па начах. Апрача мясцовых камунальшчыкаў чысціў горад ад снегу і латалі яміны супрацоўнікі ЖКГ з суседніх раёнаў. Ці засталіся жыхары горада задаволены ямачным рамонтам?

— Нічога добрага ад раптоўнага добраўпарадкавання няма, бо асфальт клалі наўпрост у ваду і бруд, ён жа растане разам са снегам! — абураецца мужчына, які жыве на вуліцы Галавашчанкі. — А пасля будуць гаварыць, што ў іх няма грошай. Вось яны — грошыкі, закапаныя абы-куды. Абрыдла ўсё гэта...

Пенсіянер распавядае, чаму так мала людзей на вуліцах: жыхары былі папярэджаныя аб тым, што не трэба швэндацца паблізу камбіната, а дзверы падвальных сутарэнняў на вуліцы Галавашчанкі апячатаны міліцыянтамі. Усе падыходы і пад'езды да цукровага камбіната падчас прыезду кіраўніка дзяржавы былі перакрыты супрацоўнікамі ДАІ і міліцыянтамі ў цывільным.

— Мой сусед хацеў схадзіць у краму камбіната — яго туды не пусцілі. Дачка патэлефанавала, што на абед не прыйдзе, бо іх не выпускаюць з тэрыторыі завода, а яшчэ адзін сусед дадатковыя паўтары гадзіны прасядзеў у халодным гаражы — туды трапіў да прылёту Лукашэнкі, а назад яго не выпусцілі, — распавёў Мікалай Іванавіч. — Камбінат зараз прастойвае, у большасці не ацяпляецца, дык каб парфарбаваць жалезныя трубы работнікам патрэбна было збіваць з іх лёд.

Невядома, ці стануць на ногі слуцкія заводы пасля прыезду кіраўніка краіны. А вось жыхарам праблемных вуліц, якія ўжо даўно патрабуюць добраўпарадкавання і асфальтавання, давядзецца зноў чакаць, калі ў раённым бюджэце з'явяцца грошы на рамонт.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Размаўляйце на нармальнай мове!

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Шмат хто з беларускамоўных грамадзян чуў ад менш адукаваных асобаў: «Гаварыце на нармальным языке!» Але шчыра радуе тое, што такіх невукаў усё менш і менш. 21 лютага краіна адзначыла Міжнародны дзень роднай мовы.**

Гэтае адзначэнне было, з аднаго боку, даволі дзіўным, а з іншага — даволі прыемным. Першае, здзіўляючае, — усё ж гэта быў «міжнародны» дзень. Прыемнае — тое, што зараз ён адзначаўся ледзь не на дзяржаўным узроўні. Які яшчэ міжнародны дзень у нас займеў такі статус? Хіба 8 сакавіка — але гэта традыцыя.

Канешне, парадавалі нас беларускія тэлеканалы, якія нарэшце ўзгадалі, што яны беларускія. 21 лютага беларускамоўнымі сталі праграма ОНТ «Наша раніца», выпускі «Нашых навін», «Навіны спорту» і надвор'я. У сераду ўсе інфармацыйныя праграмы на Сталічным тэлебачанні выходзілі выключна на беларускай мове.

Прыемна, што такім чынам беларуская мова паступова вылузваецца з «інфармацыйнага гета». Але, канешне, узнікае пытанне: чаму б беларускім тэлеканалам не прыгадваць, што яны беларускія, ва ўсе іншыя дні, а не толькі ў моўнае свята? І ўвогуле, чаму беларускія тэлеканалы грэбуюць моваю ва ўсе астатнія дні? Можа, атрыманы ва ўсіх гэтых эфірах досвед падштурхне да змянення мовы вяшчання не толькі па адметных днях?

У любым выпадку, тэлеканалы зараз упэўніліся, што нічога страшнага ў беларускамоўным вяшчанні няма. Праўда, такі досвед у іх быў — яшчэ ў часы СССР і перабудовы, калі айчыннае тэлебачанне таксама было больш беларускамоўным. Але гэты досвед, пэўна, ужо забыты.

Падтрымалі ініцыятыву і іншыя дзяржаўныя інстытуцыі. Напрыклад, дырэктар Інстытута мовазнаўства імя Коласа Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі Ігар Капылоў на прэс-канферэнцыі, прысвечанай Міжнароднаму дню роднай мовы, падзяліўся планамі мовазнаўцаў на 2018 год. У прыватнасці, для папулярызацыі роднай мовы. Навукоўцы плануюць стварыць партал, які пакуль умоўна называецца «Правапіс. бай». «Мы адчуваем сёння вострую неабходнасць у стварэнні электроннай даведачна-інфармацыйнай службы Правапіс. бай на ўзор расійскага партала «Грамота.ру» для папулярызацыі роднай мовы», — заявіў Капылоў.

«Грамота.ру» — зручны партал, на якім кожны ахвочы можа задаць любое пытанне па функцыянаванні мовы і атрымаць кваліфікаваны адказ ад лепшых моўных спецыялістаў. На сайце таксама шмат слоўнікаў, даведнікаў, зручны пошук.

Планы беларускіх навукоўцаў, канешне, можна толькі вітаць. Але гэтыя ініцыятывы нагадваюць мне стары бандэраўскі анекдот. Пра тое, як устаў мужык-беларус зранку, худобу пакарміў, есці згатаваў, шмат спраў перарабіў, каня запрог, паехаў у поле араць. Арэ, арэ, стаміўся, сеў, люльку запаліў... Чуе, як недзе ўдалечыні зайграла радыёкропка: «Московское время — шесть часов!» І кажа сабе ў вусы: «О! Маскалікі прачнуліся!»

Менавіта гэтых «прачнуўшыхся маскалікаў» і нагадвае мне Інстытут мовазнаўства. Яны зараз пачнуць дубляваць тое, што ўжо дзясяткі гадоў як зроблена грамадскімі актывістамі на сайтах «Слоўнік.орг», «Беларуская палічка», «Камунікат» і іншых. А група «Беларускі N-corpus» увогуле распрацавала ўбудоўваемую ў Word праверку беларускай арфаграфіі. «Корпус мае больш за 50 тысяч тэкстаў (прыкладна 30 мільёнаў словаўжыванняў) мастацкай літаратуры (проза і вершы) і публіцыстыкі з граматычнай разметкай і пашпартызацыяй (аўтар, назва твора і г.д.)», — пішуць стваральнікі праекта.

**«Мяккая беларусізацыя» рухаецца ў слушным кірунку. Яна збольшага ідзе знізу, з ініцыятывы грамадзян. Галоўнае, каб грамадзяне прымусілі ўладу зразумець, што мова — гэта каштоўнасць. І што дзяржава павінна клапаціцца пра гэтую каштоўнасць таксама**

Так што хіба не ўвесь «Правапіс.бай» ужо зроблены і даступны — праўда, на розных рэсурсах, але тым не менш. І што немалаважна — зроблены на голым энтузіязме, без засвення дзяржаўных сродкаў.

Шырэйшы распаўсюд беларускай мовы адзначыла і Міністэрства антыманапольнага рэгулявання і гандлю. «Беларуская мова ўсё больш выкарыстоўваецца ў рэкламе. Мы бачым, што кампаніі робяць з беларускай мовы «фішку», паколькі некаторыя словы маюць настолькі арыгінальнае і цікавае гучанне, якое, абгульваючы ў рэкламе, прыцягвае вялікую ўвагу спажыўцоў», — сказала начальнік сектара па рэкламе ўпраўлення абароны правоў спажыўцоў і кантролю за рэкламай міністэрства Іна Гаўрыльчык.

Гаўрыльчык выказала здагадку, што часцей выкарыстоўваць беларускую мову ў рэкламе кампаніі падштурхнула ў тым ліку нарастаючая цікавасць да краіны з боку замежнікаў. «Турыстам цікавая аўтэнтычнасць, ім хочацца бачыць нейкія рысы краіны, якія вылучаюць яе на фоне іншых», — адзначыла яна і выказала спадзяванне, што тэндэнцыя «выкарыстання прыгажосці, мілагучнасці і пэўнай нестандартнасці беларускай мовы» будзе расці.

Аднак дзе была б гэтая тэндэнцыя без кампаніі «Будзьма беларусамі!» і іх фестывалю беларускамоўнай рэкламы «Adnak!»? Будзем казаць шчыра — менавіта яны, замаўляючы даследаванні на рэкламным рынку, пераканалі бізнес, што беларускамоўная рэклама — больш заўважная, больш прываблівая, а значыць, больш эфектыўная, чым стандартная рускамоўная. Што бізнес на беларускай мове — больш адметны, а значыць, больш запамінальны, больш прыцягвае ўвагу.

Так што «мяккая беларусізацыя», як гэта часцяком называецца ў прэсе, рухаецца ў слушным кірунку. Яна збольшага ідзе знізу, з ініцыятывы грамадзян, але, у прынцыпе, так і павінна адбывацца. Галоўнае, каб грамадзяне прымусілі ўладу зразумець, што мова — гэта каштоўнасць. І што дзяржава павінна клапаціцца пра гэтую каштоўнасць таксама.

Пакуль яшчэ ёсць такія дырэктаркі школы і старшыні ўчастковых камісій, як Галіна Юрцэвіч, якая заявіла, што не абавязаная ведаць беларускую мову. Але намеснік дырэктара Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры Акадэміі навук Аляксандр Лукашанец ужо выказаў думку, што іх трэба звальняць за прафесійную непрыдатнасць. «У нас ёсць Канстытуцыя і ёсць закон аб мовах, дзе сказана, што кожная службовая асоба павінна валодаць абедзвюма дзяржаўнымі мовамі для выканання сваіх службовых абавязкаў», — перадае БелаПАН словы прафесара на круглым стале ў Акадэміі навук.

І менавіта ж дзяржава павінна сачыць за тым, каб законы выконваліся, праўда?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Міхаіл Жамчужны



**Палітвязень, заснавальнік праваабарончай арганізацыі «Платформ Інавэйшн», які адбывае пакаранне ў калоніі №9 у Горках, папрасіць пераводу ў іншую калонію.**

Намер Жамчужнага звяртацца ў ДВП наконт свайго пераводу выкліканы стаўленнем да яго адміністрацыі папраўчай установы. Адміністрацыя размеркавала яго ў атрад зняволеных з «нізкім сацыяльным статусам», з чым вязень не згодны. А таму за адмовы перайсці ў гэты атрад Жамчужны не вылазіць з ШІЗА і ПКТ. 8 лютага скончыўся яго месячны тэрмін утрымання ў ПКТ, і ў гэты ж дзень ён атрымаў чарговае спагнанне — 10 сутак змяшчэння ў ШІЗА. Прычына ранейшая: адмова пераходзіць у атрад, сфармаваны са зняволеных з «нізкім статусам». Гэта ўжо 19-е спагнанне, накладзенае на Жамчужнага са жніўня 2017 года пасля пераводу ў горацкую калонію.

Падчас знаходжання Жамчужнага ў ПКТ яго двойчы наведваў прадстаўнік Магілёўскай абласной пракуратуры, рэагуючы на скаргі аб непрадастаўленні адміністрацыяй калоніі бяспечных умоваў утрымання, а таксама на скаргі аб пагрозах з боку спецкантынгенту, якія, па меркаванні палітвязня, арганізаваны адміністрацыяй. Праверка яшчэ не завершаная.

Няма пакуль і вынікаў праверкі фактаў, звязаных з некалькімі эпізодамі харчовага атручвання Жамчужнага. 12 лютага па гэтых эпізодах з палітвязнем сустракаліся прадстаўнікі санэпідэмстанцыі пасля атрыманых скаргаў ад праваабаронцаў. Зараз Жамчужны пастаўлены медыкамі на чаргу на правядзенне рэнтгену страўніка.

Адстойваючы сваю годнасць і змагаючыся за бяспеку жыцця і здароўя, Міхаіл Жамчужны мае намер бліжэйшым часам звярнуцца ў Дэпартамент выканання пакаранняў аб пераводзе яго з ПК №9 Горак у іншае месца адбыцця пакарання.

## Святлана Алексіевіч



**Нобелеўская лаўрэатка па літаратуры, выдавецтва «Логвінаў» і платформа «Улей» запусцілі краўдфандынгавую кампанію ў падтрымку выдання пяці кніг з цыклу «Галасы Утопіі».**

Як напісала Алексіевіч, абгрунтоўваючы такі крок, яе творы выходзілі ў розных краінах свету і былі перакладзеныя на розныя мовы, а гэта каля 270 выданняў. Былі таксама пераклады і на беларускую мову, "але не было добрых", адзначыла яна. Зараз жа "ўпершыню над цыклам «Галасы Утопіі» працавалі яскравыя прафесіяналы, на мой погляд, лепшыя сучасныя пісьменнікі і паэты Беларусі: Валянцін Акудовіч, Уладзімір Арлоў, Сяргей Дубавец, Андрэй Хадановіч, Барыс Пятровіч", напісала Святлана Алексіевіч.

Прычым, гэта зусім не азначае, што ад Нобелеўскай прэміі ў лаўрэаткі не засталося грошай — гэта для яе, хутчэй, эксперымент і «вельмі важны праект». «Як пісьменніца я з удзячнасцю стаўлюся да ідэі, што абсалютна любы чалавек можа ўзяць удзел у выданні гэтых кніг», — адзначае Алексіевіч.

Агулам на выданне кніг збіраецца 40 тысяч рублёў — каля 20 тысяч долараў. Прычым, у даволі сціслы тэрмін — да 20 красавіка гэтага года. Плануецца, што кнігі выйдуць на беларускай мове ў адзіным афармленні і без цэнзуры.

## Сяргей Міхалок



**Экс-лідар гурта «Ляпис Трубецкой» і кіраўнік праекту «Brutto» ўрэшце саспеў да сольнага альбому, які будзе мець назву «Дрэздэн».**

«Цяпер я знайшоў час і найталенавітых паплечнікаў для ўвасаблення мары, — распавёў Сяргей Міхалок на старонцы «Brutto» ў сацыяльных сетках. — Мы заканчваем працу над першым альбомам «Дрэздэн». Я нарадзіўся ў гэтым горадзе ў 1972 годзе, калі ўвесь рух толькі пачынаўся, таму назва не павінна нікога здзіўляць».

Для новага праекта Міхалок сабраў інтэрнацыянальную каманду: гітарыста ўкраінскага калектыву «Океан Ельзы» серба Уладзіміра Апсяніцу і ўкраінскага саўндпрадзюсара Віталя Цялезіна. Выхад альбома і прэзентацыя праекта запланаваныя на верасень.

«Мы не прэтэндуем на глабальны ахоп і ўсеагульную любоў, але, баюся, гэтага не пазбегнуць», — кажа Міхалок.



# Чаму будаваць новыя заводы ў вёсках шкодна для эканомікі

Наталля КАЛЕСНІЧЭНКА

**Чым можна ўтрымаць на зямлі сельскіх жыхароў? Аляксандр Лукашэнка прапаноўвае ствараць у маленькіх гарадах і ў сельскай мясцовасці перапрацоўчыя і прамысловыя прадпрыемствы, каб людзі не хацелі выязджаць адтуль у вялікія гарады.**

«Калі будзе добрая зарплата, жыллё, то гэта стане галоўным аргументам для людзей пры вырашэнні пытання, ці заставацца ім жыць на месцы, ці ж з'язджаць у вялікі горад», — перакананы кіраўнік дзяржавы.

Але не ўсё так проста. 7,4 мільёна беларусаў пражываюць у гарадах, і крыху больш за 2 мільёны — у вёсках. У 1997 годзе гараджан у краіне было 6,9 мільёна, а сельскіх жыхароў — 3,2 мільёна.

У Беларусі скарачаецца насельніцтва ўсіх раёнаў, за рэдкім выключэннем, пацвярджае старшы даследчык «CASE Belarus» Дзмітрый Бабіцкі. Адбываецца адток насельніцтва з сельскай мясцовасці ў гарады, а з гарадоў — у сталіцу.

Людзі з'язджаюць у пошуку лепшай працы, інфраструктуры і большых магчымасцяў. Утрымаць сельскіх жыхароў на малой радзіме, нават калі пабудаваць там па ініцыятыве дзяржавы новыя заводы, не атрымаецца — так лічыць эксперт.

### На буйных заводах працаваць не будзе каму

Будаўніцтва вытворчасці са знешнімі інвестыцыямі, часцей за ўсё, аказваецца малаэфектыўным. І гэта досыць рызыкоўны падыход да развіцця прадпрымальніцтва ў вёсцы або ў невялікім горадзе, нягледзячы на прыток добрых інвестыцый у раён.

— Калі не гадаваць і не развіваць мясцовую бізнес-актыўнасць, а насаджаць яе зверху, то паўстануць вялікія праблемы з працоўнымі рэсурсамі. Бо створаныя на новым прадпрыемстве працоўныя месцы не супадуць з характарыстыкамі рабочай сілы, — лічыць Дзмітрый Бабіцкі.

У той час, як новую вытворчасць лагічна ствараць з сучасным абсталяваннем, тэхналогіямі і адпаведнымі патрабаваннямі да работнікаў, даследаванне эканомікі сельсаветаў паказвае, што, па розных прычынах, мясцовыя жыхары не здольныя працаваць на падобных працоўных месцах.

— Практыка паказвае: калі пабудаваць новае прадпрыемства не ў раённым цэнтры, а на перыферыі, тады да 80% працоўнай сілы трэба завозіць з раённага цэнтра, высокаспецыялізаваных супрацоўнікаў, тэхнолагаў і інжынераў давядзецца наймаць з іншых гарадоў. А мясцовым жыхарам на ім так і не знойдзецца прымянення, — тлумачыць Дзмітрый Бабіцкі.

Атрымліваецца, што навязанае зверху стварэнне новых вытворчасцей у сельскай мясцовасці або маленькіх гарадах не паляпшае жыццё мясцовага насельніцтва.



**Дзмітрый Бабіцкі: Якасны эканамічны рост адбываецца на ўнутраных інвестыцыях, там, дзе бізнес вырастае знізу**

Калі ствараць прамысловасць з нуля па ўказцы зверху, то карысці маленькім гарадам і раёнам не будзе практычна ніякай. Але на бюджэтных кантрактах па стварэнні прадпрыемстваў заробяць зацікаўленыя кампаніі — аптовыя пастаўшчыкі, будаўнічыя фірмы.

— Існаванне праграмы мадэрнізацыі выклікае занепакоенасць. Кіраўніцтва выбірае, куды інвеставаць грошы грамадзян. Але добра вядома, што некаторыя з такіх інвестыцыйных праектаў аказваюцца правальнымі, — адзначае эксперт CASE.

Прыцягненне прыватных інвестараў для буйных праектаў таксама можа апынуцца правальнай ідэяй. Кожнаму перапрацоўчаму прадпрыемству, у першую чаргу, сельскагаспадарчаму, спатрэбіцца свая сыравінная база.

Ці зможа такое прадпрыемства канкураваць з дзяржаўнай кампаніяй?

Эканаміст перакананы, што прыватнаму інвестару, які рашыў стварыць у раёне вытворчасць або перапрацоўчы завод, могуць перашкаджаць мясцовыя манапалісты і патэнцыйныя прамыя або ўскосныя канкурэнты.

— Калі гэта перапрацоўчая вытворчасць, трэба забяспечыць доступ да рэсурсаў такі ж, як у дзяржпрадпрыемстваў. А ў прыватнага сектара і дзяржаўнага зараз няроўныя правы доступу да сельскагаспадарчых і лясных рэсурсаў, — кажа Дзмітрый Бабіцкі.

### Стымуляваць малы бізнес, а разам з ім і сельскае жыццё

Прыватная ініцыятыва мясцовых жыхароў была б больш паспяховай, лічыць Дзмітрый Бабіцкі.

— Я больш веру ў поспех прадпрыемстваў, якія будуць арыентавацца на здольнасці сям'і бізнесоўца, мясцовай супольнасці. Гэта будзе мець станоўчы ўплыў на эканамічнае развіццё, — падкрэслівае эксперт.

Роля дзяржавы — у тым, каб спрыяць арганічнаму росту бізнесу, створанага мясцовымі прадпрымальнікамі. Яму можна даць пэўныя льготы, распрацаваць праграмы развіцця і крэдытавання такога бізнесу, стварыць бізнес-інкубатары. У той жа час забяспечыць доступ мясцовага насельніцтва і прадпрымальнікаў да зямлі, капіталу, ведаў.

**»Навязанае зверху стварэнне новых вытворчасцяў у сельскай мясцовасці або маленькіх гарадах не паляпшае жыццё мясцовага насельніцтва**

— Якасны эканамічны рост адбываецца на ўнутраных інвестыцыях, пры выкарыстанні ўнутраных рэсурсаў і там, дзе бізнес вырастае знізу. Тады ён вельмі ўстойлівы да розных шокаў. Такі рост заснаваны, як правіла, на сямейным падыходзе. Такі бізнес можа быць дастаткова канкурэнтаздольным і інавацыйным. Як паказваюць даследаванні ў розных краінах, такія кампаніі займаюць лідзіруючыя пазіцыі па цэлых галінах эканомікі, — распавядае эканаміст.

Паколькі ў сельскай мясцовасці попыт абмежаваны, вытворчаму бізнесу, які ствараецца ў раёнах, застаецца арыентавацца на больш шырокі рынак — рэгіён, усю Беларусь або іншыя краіны. Для такіх кампаній у некаторых краінах выкарыстоўваюць механізмы падтрымкі ў выглядзе крэдытавання пад экспартныя кантракты. Гэта падтрымлівае рэгіянальныя прадпрыемствы і адначасова стымулюе экспарт.

Падтрымаць сельскую мясцовасць і маленькія гарады можна, ствараючы для ўсёй краіны аднолькавыя сацыяльныя стандарты ці забяспечваючы доступ да наяўнай інфраструктуры.

— Калі ў сельскай мясцовасці няма басейна, гэта не азначае, што трэба яго будаваць. Замест гэтага можна забяспечыць доступ да бліжэйшага басейна, — прапаноўвае Дзмітрый Бабіцкі.

Але ў першую чаргу, людзям і бізнесу важная свабода, каб яны маглі самастойна арганізавацца і расці, лічыць эксперт. Тады ў людзей будзе больш ініцыятывы, якая разам з вольнымі рэсурсамі дазволіць засноўваць мясцовы бізнес. Пасля гэтага ўладам застанецца вывучыць механізмы падтрымкі, у тым ліку менш паспяховых раёнаў.

Дарэчы, дэпапуляцыя ў сельскай мясцовасці адбываецца не толькі ў Беларусі. Гэта натуральны сусветнай феномен, звязаны з тым, што расце ўзровень тэхналогій. Калі раней у вёсках трэба было шмат працоўнай сілы для сельскагаспадарчых работ — асноўнага занятку ў сельскай мясцовасці, то сёння з большасцю задач спраўляецца тэхніка. У выніку ўсё меншая колькасць фермераў і жыхароў вёсак здольная пракарміць усё большую частку гараджан.

На вёсцы важна мець людзей з сярэдняй або вышэйшай аграрнай адукацыяй. Пры добрых умовах для развіцця бізнесу і фермерства, гэтыя людзі самі паедуць у сельскую мясцовасць, адзначаюць эксперты.

**Паводле «Заўтра тваёй краіны»**

# Зоркі і церні Галіны Сямдзянавай

Аляксандр КУР'ЯНОВІЧ

**Украінка па нацыянальнасці, яна нарадзілася ў польскай Гдыні, але пераехала ў Беларусь — і раз і назаўжды палюбіла яе. 24 жніўня 1991 года менавіта яна ўнесла ў зал пасяджэнняў Вярхоўнага Савета бел-чырвона-белы сцяг. 28 лютага 2018 года Галіне Георгіеўне Сямдзянавай споўнілася б 71 год.**

## Шлях у парламент

Падчас тэлевізійных трансляцый пасяджэнняў сесій Вярхоўнага Савета Беларусі 12 склікання, а таксама на мітынгах і шэсцях побач з Зянонам Пазьняком і іншымі вядомымі сябрамі БНФ часта можна было бачыць прыгожую і стыльна апранутую жанчыну з разумнымі вачыма з-пад акуляраў. Яе прамовы і выступленні вызначаліся палымянасцю.

Галіна Сямдзянава з'яўлялася адной з нешматлікіх прадстаўніц лепшай паловы чалавецтва, якім пашчасціла стаць дэпутатамі на выбарах у Вярхоўны Савет 12 склікання, што прайшлі ў сакавіку 1990 года. На той момант кампаніі яна жыла ў былой славутай сталіцы ВКЛ і займала даволі сур'ёзную ў СССР пасаду інспектара Навагрудскага камітэта народнага кантролю.

Праз шмат гадоў у інтэрв'ю вядомаму журналісту, аўтару выдання «Женщины», Аляксандру Тамковічу Сямдзянава распавяла, што яе вылучэнне кандыдатам у дэпутаты — ініцыятыва прафсаюза працаўнікоў дзяржаўных устаноў і калектыву гарадскога аўтапарка №5. Па словах Сямдзянавай, гэта была своеасаблівая падзяка за яе прынцыповасць і сумленнасць на пасадзе інспектара ў часы татальнага дэфіцыту.

Яе кандыдатура была зарэгістравана па Навагрудскай гарадской выбарчай акрузе №262. Па гэтай акрузе былі зарэгістраваны яшчэ сем кандыдатаў — усе мужчыны. Фаварытам лічыўся загадчык дзіцячага аддзялення Навагрудскай райбальніцы Георгій Конюх, самы старэйшы (1930 года нараджэння) з прэтэндэнтаў. Менавіта яго актыўна піярыла мясцовае выданне: орган Навагрудскага гаркама КПБ «Новае жыццё». На старонках газеты на адрас Конюха друкаваліся нават вершы кшталту: «Ночь звёздная шагает по дороге,// Укутан город светлой тишиной,// И только Вы встаёте по тревоге,// Заслышав в чьём-то сердце перебой».

Іншыя канкурэнты таксама былі «цяжкай артылерыяй». Дастаткова ўзгадаць дырэктара Навагрудскай швейнай фабрыкі, дырэктара Навагрудскага масларобчага камбіната, дырэктара аўтапарка №10, галоўнага інжынера завода газавай апаратуры...



Галіна Сямдзянава на пасяджэнні сесіі Вярхоўнага Савета 12-га склікання, 1991 год. Злева па цэнтры ў другім шэрагу — будучы кіраўнік прэзідэнцкай адміністрацыі ў 1994–1995 гадах Леанід Сініцын. Крайні злева на версе (з падпёртым рукой падбародкам) — Дзмітрый Булахаў.
Фота: www.vytoki.net.



Фота www.svaboda.org

Вярхоўны Савет Беларусі, 24 жніўня 1991 года.

На сустрэчах з выбаршчыкамі Сямдзянава не баялася гаварыць радыкальныя па тых часах рэчы, што магло адштурхнуць мясцовы электарат. У найбольш канцэнтраваным выглядзе свае погляды Галіна Георгіеўна выказала ў інтэрв'ю «Новаму жыццю» ў лютым 1990 года. На думку Сямдзянавай, дэпутат перш за ўсё павінен быць палітыкам, бачыць не дробязі, а перспектыву. Народны абраннік, працягвала яна, можа быць прафесіяналам сваёй справы, можа быць добрым гаспадарчым кіраўніком, але, калі не стане палітыкам, эфект ад яго дзейнасці будзе нулявым.

А перспектывы, лічыла Сямдзянава, былі такія: карэнны перагляд нацыянальна-дзяржаўнага ладу СССР, пераход на самакіраванне, роўнасць усіх партый (у тым ліку і КПСС) перад законам, спыненне дапамогі краінам «трэцяга свету», што дазволіць, хай і часткова, вырашыць праблему дэфіцыту.

Аднак галоўнае, па словах Сямдзянавай, — тое, каб чалавек меў пачуццё ўласнай годнасці. У сваю чаргу, такое магчыма толькі на моцнай сацыяльна-эканамічнай глебе.

Па выніках галасавання 4 сакавіка 1990 года Сямдзянава разам з Георгіем Конюхам выйшла ў другі тур: з 18451 выбаршчыка, які ўзяў удзел у галасаванні, Сямдзянаву падтрымалі 5186 (Конюха — 5354).

Напярэдадні другога тура да Сямдзянавай пачалі прыглядацца ўсё больш жыхароў, якіх прываблівала рашучасць прэтэндэнткі, яе здольнасць развесці як дробныя, так і стратэгічныя пытанні. Цяпер ужо «Новае жыццё» друкавала вершы, прысвечаныя Галіне: «Каб магла мая краіна// Чым дужэй на ногі ўстаць,// За Сямдзянаву Галіну// Я іду галасаваць!»

17 сакавіка 1990 года Сямдзянава перамагла Конюха: з 17 439 выбаршчыкаў, якія ўзялі ўдзел у галасаванні, Галіне Георгіеўне аддалі свой голас 10 009.

## Першы бой у Вярхоўным Савеце

Сямдзянава звычайным дэпутацтвам не абмежавалася і вырашыла пазмагацца за пасаду старшыні пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета па справах жанчын, аховы сям'і, мацярынства і дзяцінства. Тая пасада была вельмі ганаровай. Да таго ж старшыня камісіі з'яўляўся членам Прэзідыума Вярхоўнага Савета, які ў перапынках паміж сесіямі парламента быў вышэйшым органам улады.

Высветліць асобу, якая вылучыла кандыдатуру Сямдзянавай, на жаль, немагчыма, бо прапанова паступіла з месца, і прозвішча дэпутата адсутнічае.

Парламенцкая кансерватыўная большасць бачыла старшынёй камісіі галоўнага ўрача Смалявіцкага раёна Пятра Міцько. Была прапанавана і кандыдатура Інэсы Драбышэўскай, галоўнага ўрача Гомельскага абласнога анкадыспансера. Драбышэўская, спаслаўшыся на занятасць, сваю кандыдатуру зняла і заклікала галасаваць за Сямдзянаву. Па словах Драбышэўскай, такой камісіяй павінны кіраваць толькі жанчыны. Маўляў, мужчыны 70 гадоў казалі толькі прыгожыя словы, але нічога не рабілі. Кандыдатуру Сямдзянавай падтрымала і Вольга Галубовіч, загадчык аддзела «Настаўніцкай газеты»: казала, мужчыны згадваюць жанчын адзін раз на год — 8 сакавіка.

Канешне, у Сямдзянавай быў істотны мінус: па адукацыі яна была інжынерам-хімікам, а не доктарам ці педагогам. Яна скончыла Куйбышаўскі політэхнічны інстытут, і нават падрыхтавала дысертацыю па пытаннях выбуховых рэчываў, аднак абараніць яе не змагла па сямейных абставінах.

Выступ Сямдзянавай 6 чэрвеня 1990 года быў найбольш удалым. Яна літаральна ўзварушыла дэпутацкі корпус. Галіна Георгіеўна казала, што жанчына з'яўляецца самым неабароненым чальцом грамадства і паўсюль зазнае дыскрымінацыю: па выбары працоўнага месца, па заработнай плаце і іншым. Большасць жанчын, казала Сямдзянава, занятыя на самай цяжкай працы, у іх няма часу, каб не толькі даглядаць дзяцей, але нават сачыць за знешнім выглядам. Такую сітуацыю, гаварыла Сямдзянава, карэнным чынам трэба мяняць.

Можна без перабольшвання сказаць, што ў частцы выступу, прысвечанай жанчынам, Сямдзянава (прычым, на дзяржаўным узроўні) агучыла тэзісы сучаснага фемінізму ў беларускім варыянце: роўныя правы жанчын і мужчын на працу і яе аплату.

Шмат казала Сямдзянава пра дзяцей, іх высокую смяротнасць, высокі ўзровень цяжарных паталогій. Тыя бацькі, якія аддаюць дзяцей у інтэрнаты («как кукушки, которые оставляют свои гнёзда»), павінны несці жорсткую адказнасць. Да адказнасці, лічыла Сямдзянава, трэба прыцягваць і дзяцей, якія здаюць сваіх бацькоў у дамы састарэлых. Выступ Сямдзянавай быў сустрэты апладысментамі.

Адны дэпутаты падтрымалі Сямдзянаву, іншыя — не. Першым выказаў падтрымку Пётр Садоўскі — адзін з заснавальнікаў БНФ, дацэнт Мінскага педагагічнага інстытута, які на выбарах перамог сусветна вядомага спартсмена Аляксандра Мядзведзя. На карысць Сямдзянавай выказаўся і карэспандэнт «Гродзенскай праўды» Мікалай Маркевіч, які на выбарах перамог сумнавядомага будучага лукашэнкаўскага губернатара Барыса Батуру (на той час — намеснік міністра жыллёва-камунальнай гаспадаркі).

Супраць Сямдзянавай выступіў Віктар Ганчар, які заявіў, што ёй (як і Міцько) бракуе ведаў, перш за ўсё юрыдычных, каб кіраваць камісіяй. Пад апладысменты Сямдзянава парыравала выпад Ганчара: маўляў, мы, калі што, будзем звяртацца за кансультацыяй да такіх прафесійных юрыстаў, як вы.

Калі Мікалай Жураўлёў спытаў Сямдзянаву, як яна будзе кіраваць камісіяй, калі сама не стварыла сям'ю, Галіна Георгіеўна годна адказала: «Я ведаю, што такое шлюб і што такое развод». Баляслаў Сушкевіч вымушаны быў выбачацца за пытанне Жураўлёва.

Пётр Скарабагацька шчыра прызнаўся Сямдзянавай: «Мне нравится ваше духовное начало, нравится ваша кипучая энергия, которая исходит из ваших ответов. Бурлит она по сравнению с мужской».

Тым не менш за Сямдзянаву прагаласавалі 87 дэпутатаў з 295, што ўзялі ўдзел у галасаванні. За Міцько — 219 з 297.

## З Народным — назаўсёды

Пасля няўдалай спробы ўзначаліць камісію Сямдзянава імпэт не страціла. Менавіта на першай сесіі парламента яна нарэшце вызначыла тое, чаго ёй не хапала, — ідэйны арыенцір, які б дапамог у дзейнасці і быў у гармоніі з сумленнем. Галіна Георгіеўна пазнаёмілася з прадстаўнікамі БНФ і са здзіўленнем адзначыла, што менавіта праграма «Народнага фронту» найбольш адпавядае сучаснаму становішчу рэспублікі з яе русіфікацыяй, нераўнапраўным становішчам у Савецкім Саюзе і Чарнобыльскай навалай.

Праз шмат гадоў Сямдзянава казала, што спачатку адносіны яе да БНФ былі выключна негатыўныя. І гэта не дзіўна. Камуністычныя сродкі масавай інфармацыі зрабілі з сябраў «Народнага фронту» пачвараў і ледзь не прыхільнікаў Гітлера. Аднак прапаганда нямоглая, калі хочацца ва ўсім разабрацца асабіста і паглядзець на тых, каго вінавацяць ва ўсіх грахах. І ўжо 16 ліпеня 1990 года — праз два месяцы пасля пачатку першай сесіі парламента — Сямдзянава падпісала заяву аб стварэнні дэпутацкай групы БНФ, а 27 ліпеня стала сябрам парламенцкай апазіцыі БНФ. 28 ліпеня 1990 года Сямдзянава заклікала калег-парламентарыяў прыняць рашэнне аб афіцыйнай рэгістрацыі БНФ.

Працяг на стар. 6 »

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 5

Пасля заканчэння першай сесіі ў інтэрв'ю «Новаму жыццю» ў жніўні 1990 года Сямдзянава заявіла збянтэжанаму журналісту, што выйшла з кампартыі і назаўсёды скончыла з камунізмам. На пытанне, што паўплывала, Галіна Георгіеўна адказала: знаёмства з БНФ і кніга Аляксандра Салжаніцына «Архіпелаг Гулаг».

З таго часу лёс Сямдзянавай амаль да самага яе сыходу аказаўся звязаным з «Беларускім народным фронтам». Подпіс Сямдзянавай стаіць амаль на ўсіх зваротах і заявах парламенцкай апазіцыі БНФ: ці гэта была Паўлаўская грашовая рэформа 1991 года, ці сумніўнае даабранне 22 красавіка 1992 года пяці чальцоў, у тым ліку Лідзіі Ярмошынай, у Цэнтральную выбарчую камісію, ці адмова Лукашэнкі ў лютым 1995 года знішчаць звычайныя ўзбраенні. Галіна Георгіеўна брала ўдзел амаль ва ўсіх больш-менш значных акцыях БНФ.

У Вярхоўным Савеце Сямдзянава выступала па ўсіх прынцыповых пытаннях, важных для жыцця Беларусі. Напрыклад, 17 кастрычніка 1990 года пры абмеркаванні праекта Кодэкса аб зямлі, прапанавага апазіцыяй БНФ, Сямдзянава даводзіла, што прыватная ўласнасць на зямлю, фермерства — жыццёвая неабходнасць і што праект Кодэкса ад апазіцыі ўзнік не на пустым месцы: было вывучана шмат прац, у тым ліку Сталыпіна і Чаянава.

Асабліва небяспечным для Беларусі яна лічыла само існаванне СССР як нацыянальна-дзяржаўнага арганізма, называла яго спрутам, прыводзіла ў прыклад Фінляндыю, якая вырвалася з савецкіх абдымкаў і стварыла годнае жыццё. Яна рашуча асудзіла рэферэндум 17 сакавіка 1991 года (пры абмеркаванні гэтага пытання ў Вярхоўным Савеце 29 студзеня 1991 года нават адмовілася пакінуць мікрафон, бо пастанова аб парадку правядзення рэферэндуму ў БССР была прынятая Прэзідыумам ВС: само пытанне ў парламенце не набрала неабходнай колькасці галасоў). Аднак Прэзідыум прыняў (да таго ж пазначыўшы папярэднімі днямі) пастанову ў час працы Вярхоўнага Савета, што было парушэннем. 12 чэрвеня 1991 года Сямдзянава рашуча выступіла супраць праекта новай Саюзнай дамовы, лічачы яе маскоўскай авантурай.

## Зорны час

Сапраўдная зорка Сямдзянавай, канешне, узышла ў драматычныя жнівеньскія дні 1991 года. Даведаўшыся пра спробу дзяржаўнага перавароту, дэпутатка перарвала адпачынак, паляцела ў Мінск і апынулася ў віры падзей. 24 жніўня 1991 года Сямдзянава разам з іншым сябрамі парламенцкай апазіцыі БНФ ва ўласных руках унесла ў залу пасяджэнняў Вярхоўнага Савета бел-чырвона-белы сцяг. Здымак Галіны на фоне нацыянальнага бел-чырвона-белага сцяга і дзяржаўнага сцяга БССР абляцеў айчынныя і замежныя СМІ і навечна ўвайшоў у гісторыю Беларусі.



Галіна Сямдзянава на святкаванні 75-х угодкаў БНР, 25 сакавіка 1993 года. Крыніца: Менская грамада (1993). Справа ад яе — дэпутаты ад апазіцыі БНФ Валянцін Голубеў (у акулярах) і Сяргей Навумчык. Злева ад яе — Васіль Быкаў і Ніл Гілевіч. Крайні злева — Зянон Пазьняк.

З тых часоў бел-чырвона-белы сцяг (які, як і герб «Пагоня», 19 верасня 1991 года быў зацверджаны ў якасці дзяржаўнага сімвала) стаў часцінкай душы Галіны Георгіеўны, якая з болем публічна звяртала ўвагу на непавагу да дзяржаўных сімвалаў. 10 лістапада 1992 года Галіна Сямдзянава заявіла, што абраза бел-чырвона-белага сцяга і «Пагоні» існуе асабліва на мясцовым узроўні. І яна мела рацыю. Напрыклад, апазіцыйная газета «Свабода» ў верасні 1992 года ў артыкуле «Сцягі знікаюць апоўначы...» зазначала, што ў Драгічыне бел-чырвона-белы сцяг быў сарваны з будынка раённага суда напярэдадні 27 ліпеня 1992 года. У Баранавічах на адной з цэнтральных вуліц усе дзяржаўныя сцягі зніклі ў ноч з 30 красавіка на 1 мая 1992 года.

25 жніўня 1991 года, у дзень надання Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце статусу канстытуцыйнага закона, Сямдзянава разам з паплечнікамі сагнала з трыбуны Анатоля Малафеева. Збянтэжаны першы сакратар, напэўна, ніяк не мог уцяміць, што сямідзесяцігадоваму панаванню камунізму ў Беларусі прыходзіць канец.

**24 жніўня 1991 года Сямдзянава разам з сябрамі парламенцкай апазіцыі БНФ унесла ў залу пасяджэнняў Вярхоўнага Савета бел-чырвона-белы сцяг. Здымак Галіны на фоне гэтага сцяга і дзяржаўнага сцяга БССР навечна ўвайшоў у гісторыю Беларусі**

Сямдзянава патрабавала прыцягнення да адказнасці тых службовых асоб, якія падтрымалі путчыстаў.

## У авангардзе барацьбы

Пасля краху СССР Сямдзянава працягнула дзейнасць у складзе парламенцкай апазіцыі БНФ, крытыкавала кансерватыўную парламенцкую большасць, Вячаслава Кебіча за яго імклівае збліжэнне з Расіяй у вайсковай і грашовай сферах, Станіслава Шушкевіча — за няздольнасць стварыць вакол сябе надзейную парламенцкую групоўку. Увесь 1992 год яна жыла надзеяй на рэферэндум па роспуску Вярхоўнага Савета і на датэрміновыя выбары паводле закона ад апазіцыі БНФ. Яна была сябрам адпаведнай ініцыятыўнай групы па зборы подпісаў.

Нягледзячы на тое, што ўсе фармальнасці ініцыятыўнай групай былі выкананы, Вярхоўны Савет 29 кастрычніка 1992 года адмовіўся праводзіць усенароднае галасаванне.

У 1993 годзе для Сямдзянавай пытаннем нумар адзін стала далучэнне Беларусі да Дагавора аб калектыўнай бяспецы. У артыкуле «Гульні з бяспекай вельмі небяспечныя», надрукаваным 5 мая ў «Народнай газеце», яна абвінаваціла прыхільнікаў калектыўнай бяспекі ў тым, што яны за расійскую нафту і сыравіну гатовыя плаціць жыццямі беларускіх хлопцаў.

Як жонка вайскоўца, Сямдзянава балюча ўспрымала праблемы арміі, актыўна выступала за вяртанне беларусаў з «гарачых кропак». Пры непасрэдным уплыве парламенцкай апазіцыі 12 сакавіка 1992 года была прынята пастанова Вярхоўнага Савета «Аб адкліканні з Азербайджанскай Рэспублікі, з Рэспублікі Арменія, Рэспублікі Грузія і Рэспубліка Малдова ваеннаслужачых тэрміновай службы, прызваных з тэрыторыі Рэспублікі Беларусь». Аднак Сямдзянава лічыла, што праца па вяртанні з боку дзяржструктураў вядзецца марудна. І 9 кастрычніка 1992 года яна стала на чале грамадскага камітэта «Вяртанне».

Сямдзянава выступала за беларусізацыю арміі, выхаванне ў ёй сапраўднага беларускага патрыятызму. Яна публічна разам з калегам па Вярхоўным Савеце Леанідам Дзейкам асудзіла звальненне з Узброеных Сіл лідара Беларускага згуртавання вайскоўцаў Мікалая Статкевіча.

## Насустрач выбаршчыку

Пры гэтым Сямдзянава не забывалася на тых, каму была абавязана сваім дэпутацтвам. У Наваградку яна вяла прыём грамадзян кожны першы чацвер месяца. Менавіта тады Галіна Георгіеўна ўбачыла неэфектыўнасць мясцовай улады, райкамаў, выканкамаў і саюзаў. Яны павінны былі вырашаць тыя пытанні, якія ў кампетэнцыю дэпутата парламента ўвогуле не ўваходзілі. Свае погляды на праблему Сямдзянава выклала ў артыкуле «Пад маскай дэпутата...» («Новае жыццё», 30 лістапада 1991 года), у якім рэзка крытыкавала шэраг мясцовых народных абраннікаў за іх нежаданне ці няўменне вырашаць праблемы людзей: ці то капітальны рамонт дамоў па вуліцы Міцкевіча (на гэтай вуліцы жыла сама Сямдзянава), ці то атаварка чэкаў «Ураджай-90» і іншае.

Аднак былі і пытанні, на якія вымушана была рэагаваць сама Сямдзянава. 10 лістапада 1992 года, выступаючы ў парламенце, яна звярнула ўвагу, што Міністэрства сацыяльнага забеспячэння выдаткавала дырэктару Навагрудскага дома-інтэрната для састарэлых 400 тысяч рублёў... для будоўлі ўласнага дома.

## Было і такое...

Пасля ўступлення ў БНФ у Сямдзянавай не маглі не з'явіцца праблемы з выбаршчыкамі. Неўзабаве ў «Новае жыццё» пасыпаліся лісты з абвінавачаннем Сямдзянавай у тым, што яна хоча аддзяліць Беларусь ад СССР і выступае супраць савецкай улады. А 20 чэрвеня 1991 года сход камуністаў завода газавай апаратуры прыняў і апублікаваў заяву, у якой выказваўся недавер некаторым дэпутатам, а Вярхоўны Савет заклікалі як мага хутчэй прыняць закон аб адкліканні дэпутата. З заявай была вымушана разбірацца камісія. На сустрэчы з чальцамі камісіі з боку камуністаў было і такое пытанне: «Что представляет собой в белорусском парламенте деятельность Галины Семдяновой?»

Але Сямдзянава не паддавалася на правакацыі, настойліва прапагандавала сярод сваіх выбаршчыкаў ідэі БНФ. 18 сакавіка 1993 года яна прывезла ў Навагрудак Зянона Пазьняка і Уладзіміра Заблоцкага. На сустрэчы, на якой прысутнічалі ў асноўным работнікі аграпрамысловага комплексу, прадстаўнікі апазіцыі БНФ цярпліва тлумачылі цвердалобым старшыням калгасаў карысць прыватнай уласнасці на зямлю, прыватызацыі, наяўнасці ўласнай валюты і г.д.

5 лютага 1994 года ў Навагрудак па запрашэнні Сямдзянавай завіталі Зянон Пазняк і Юрый Беленькі, а таксама старшыня аб'яднання свабодных прафсаюзаў Генадзь Быкаў. На сустрэчы ў запоўненым мясцовым Доме культуры, якая доўжылася чатыры гадзіны, былі закранутыя самыя злабадзённыя пытанні.

## Супраць Лукашэнкі

Пасля прыходу да ўлады Аляксандра Лукашэнкі Сямдзянава разам з калегамі-сябрамі па парламенцкай апазіцыі стала яго непрымірымым крытыкам і мужна пераносіла першыя ўдары: збіццё дэпутатаў апазіцыі ў Авальнай залі парламента ў ноч з 11 на 12 красавіка 1995 года, дзяржаўную прапаганду ў выглядзе «Дзяцей ілжы», паразу дэмакратычных сілаў на рэферэндуме 14 мая 1995 года і выбарах у Вярхоўны Савет 13 склікання ў маі 1995-га. Тады ў парламент не прайшоў ні адзін прадстаўнік ад БНФ, большасць мандатаў атрымалі камуністы і аграрыі. У Наваградку 28 мая 1995 года ў Вярхоўны Савет была абрана прадстаўніца Партыі камуністаў Беларусі Тамара Манукова.

Менавіта на гэтыя выбары разлічвала Сямдзянава. У студзені 1995-га яна казала: «Мы против президентства, будет новый Верховный Совет, мы внесём поправки в Конституцию, и наш народ будет жить без Батьки во главе».

На паўторных выбарах у Вярхоўны Савет 13 склікання 29 лістапада 1995 года Сямдзянава нават выйшла ў другі тур з камуністам Міхаілам Радкевічам па сталічнай Каліноўскай выбарчай акрузе №23 (Сямдзянава — 5873, Радкевіч — 7784). Аднак выбары не адбыліся з-за нізкай яўкі.

У наступныя гады Галіна Сямдзянава пачала паступова сыходзіць з публічнай палітыкі і канцэнтравацца на руцінных справах. Канешне, яна глыбока перажывала заняпад і раскол БНФ — руху, якому яна аддала столькі гадоў, і які завяваў незалежнасць Беларусі. Яна абрала Партыю БНФ і працавала ў ёй намеснікам старшыні, кіравала Рэвізійнай камісіяй і займалася ў асноўным мясцовымі выбарамі.

Апошняя актыўнасць Галіны Сямдзянавай звязана з трагічнай кампаніяй 2010 года, калі ад Партыі БНФ яна была накіравана ў Мінскую выбарчую камісію і зазнала на сабе ціск «кампетэнтных» органаў.

Галіна Сямдзянава засталася прынцыповай да канца і не падпісала выніковы пратакол, а падрабязна апісала ўсе парушэнні ў часе выбараў у Мінску і патрабавала прызнаць іх вынікі па сталіцы несапраўднымі.

Сямдзянава гаварыла праўду ў вочы не толькі сваім палітычным апанентам, але і паплечнікам па партыі. У лютым 2011 года яна і яшчэ некалькі дзясяткаў чалавек у знак нязгоды з кіраўніцтвам партыі пакінулі яе. Пакінула, каб у хуткім часе стаць неад'емнай часткай нацыянальнага руху, сімвалаў і незалежнасці.

Літаратурная Беларусь

Выпуск №2 (138) (люты)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas.by

Змест



# Людміла Паўлікава-Хейдарава: «Мяне выхоўвала класіка...»

***— Шаноўная Людміла Фёдараўна, у выдавецтве «Кнігазбор» у серыі «Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»» выйшла Вашая новая кніга «Прыступкі да Храма Святога Духа». Чым яна адметная?***

— «Прыступкі да Храма Святога Духа» — вынік майго 35-гадовага творчага шляху ў паэзіі. Такую кнігу немагчыма было ўвасобіць ні ў адным з маіх ранейшых зборнікаў паэзіі. Увогуле, да гэтай кнігі мне патрэбна было дажыць і дарасці. Патлумачу. Шлях, даўжэйшы ад узросту Хрыста, мае быць асэнсаваны. У часе гэтага асэнсавання мне адкрылася, што шмат вершаў з маіх папярэдніх зборнікаў паэзіі маюць працяг або развіццё ў часе, думцы, настроі, месцы дзеяння... Праца над новай кнігай вымагала зрабіць гэта відавочным і для чытача. Таму кніга «Прыступкі...» не ўтрымлівае раздзелы, якія б адпавядалі храналагічнай паслядоўнасці выхаду папярэдніх зборнікаў і напісання новых вершаў. Яна як бы падзеленая па светах, у якіх паралельна жыве душа. Сама я ўспрымаю «Прыступкі...» як плоць дыялектыкі паэзіі і часу ў маім жыцці. Думаю, што так і павінна было стацца, бо гэтая кніга — вынік не толькі мастацкага, але і духоўнага пераасэнсавання...

***— Каго Вы лічыце сваімі настаўнікамі ў літаратуры, творчасць якіх пісьменнікаў найбольш паўплывала на станаўленне Вас як творцы?***

— Найперш выхоўвала класіка. Сусветная. Яна фармавала густ, не забіваючы штампамі маю галаву, шчыльна занятую задачамі сістэмнага праграмавання і электронікі. Дарэчы, асаблівасць класікі якраз у тым, што яна не карыстаецца штампамі, хаця спараджае іх. Класіка адчыніла акно майго жыцця ў краіну высокай Паэзіі. Але дзверы ў гэтую краіну мне адчыніла мая першая публікацыя ў часопісе «Маладосць», якая адразу атрымала прэмію часопіса за год. На тую пару аддзелам паэзіі ў часопісе загадваў Пятрусь Макаль. Я працавала тады вядучым канструктарам у адным з беларускіх НДІ, мела навуковыя працы ў галіне прыкладной матэматыкі і яшчэ не мела намеру мяняць напрамак прафесійнай дзейнасці. Але ўрокі прыгожага пісьменства, падараваныя мне выбітным паэтам, сталіся неацэннымі ў маім лёсе. Я адкрывала для сябе зіхоткае, жывое слова Барадуліна. Неўзабаве ён, малады, усмешлівы, чупрыністы, запрасіў мяне пачытаць вершы для тэлепраграмы «Літаратурная Беларусь», якую потым вяла і я. Захапляла, несла па прасторах Радзімы трывожная, глыбокая, як цёмная плынь, паэзія Караткевіча, якога заспела пабачыць і паслухаць на ягоным 50-годдзі. А яшчэ нечакана сучасныя, мудрыя паэтычныя пошукі і знаходкі Максіма Танка, які праз некалькі гадоў павіншуе мяне з уступленнем у Саюз пісьменнікаў... Я пачувала сябе накшталт Алісы ў Краіне цудаў. Далей была самаадукацыя, якой паспрыяў пераход на працу ў высокапрафесійны склад супрацоўнікаў літаратурна-драматычнай рэдакцыі БТ. На чале Дзяржтэлерадыё тады стаяў Генадзь Бураўкін. Зайздрошчу сабе ў тым часе. Адкрыццё за адкрыццём! Гутаркі і праграмы з пісьменнікамі, мастакамі, артыстамі, рэжысёрамі, гісторыкамі... Кніг на маім пісьмовым стале было вышэй ад галавы...



**ТАЯМНІЦА СПАКОЮ, або КОЖНЫ МАЕ СВАЁ МЕСЦА Ў КОЛЕ ЖЫЦЦЯ**

*Гараць пісьмёны вогненных разлогаў —*
*нябёс вячэрніх патаемны сказ.*
*Не ўчуць, не разгадаць яго падчас.*
*Каму ён? Што ў ім? Жальба ці наказ?*
*О, як жа зразумець патрэбна многа,*
*каб нехта потым зразумеў і нас.*

***— Распавядзіце, калі ласка, што ў Вашых найбліжэйшых творчых планах?***

—...Недзе бліз сярэдзіны XVII-га стагоддзя адбываюцца падзеі рамана, над якім зараз працую. Гэта новы для мяне напрамак творчасці. Не зважаючы на тое, што раман у першую чаргу прыгодніцкі, прывязка да XVII-га стагоддзя абавязвае. Магчыма, гэта адзін з самых лёсавызначальных для нашай зямлі перыядаў гісторыі. Калі зважыць на тое, што цяпер мы знаходзімся на адлегласці прыблізна ў 360 гадоў ад таго часу — лічба, якая ўвасабляе поўнае кола, лічба завершанасці, — дык маем быць сведкамі таго, што перыяд залежнасці ад вынікаў тагачасных падзей губляе моц. Але гэта матэрыял ужо для ўвагі прафесійных гісторыкаў і нават астролагаў. А мая шматгадовая праца над раманам пакуль што недзе на сярэдзіне, хаця касцяк ужо складзены. Магчыма, гэты касцяк будзе прапанаваны на публікацыю ў якасці аповесці, каб зацікавіць спонсараў на выданне рамана. Трэба загадзя думаць і пра гэты бок сучаснай рэчаіснасці...

І ўсё-ткі прыярытэт паэзіі ў маёй творчасці непахісны. Некалькі гадоў таму ў часопісе «Маладосць» былі надрукаваныя ўрыўкі з рукапісу маёй кнігі іцзін-секстэтаў «Вечаровае веча». У 2012 годзе на маім творчым вечары Алесь Разанаў зрабіў слушнае даследаванне яе матэрыялу, што натхніла мяне на далейшую працу над кнігай.

Нядаўна часопіс «Роднае слова» змясціў цікавы навуковы артыкул Таццяны Барысюк «Варажбітныя «іцзін-шасціпрадковікі» Людмілы Паўлікавай-Хейдаравай як новая форма верша». Кніга, сапраўды, атрымалася нечаканай не толькі ў беларускай літаратуры, бо іншых прыкладаў такой працы невядома. Калі ўсе ведаюць, што такое вянок санэтаў, дык бінарную аперацыю з дзвюма рыфмамі ў шасціпрадковым вершы наўрад ці хто браў за мэту ў паэзіі. Атрымалася 64 шасціпрадковікі (секстэты), што адпавядае 64-м гексаграмам Кнігі Пераменаў (Іцзін), дзе шэсць рысаў кожнай гексаграмы ўтрымліваюць адзін або два тыпы: разрывістую (жаночую) і суцэльную (мужчынскую). Так прыйшла ідэя скласці паэтычную кнігу іцзін-секстэтаў, дзе кожны шасціпрадковік мае дзве або адну рыфму, якая адпавядае, да таго ж, мужчынскаму або жаночаму канчатку слова на рыфме.

Кніга «Вечаровае веча» ўжо мае сваіх прыхільнікаў, пабачыць цалкам выданне поўнай кнігі іцзін-секстэтаў можна будзе ў наступным годзе. Але хто ведае тое? Галоўнае — творчасць. Яна патрабуе натхнення, спакою і працы, калі ведаеш, што ўсё, назбiранае вопытам, назапашанае ў думках і ў душы, аддаецца без астачы...

**Алесь Сачанка**
**Фота www.lit-bel.org.**

# Дзмітрый Бугаёў: з архіву СБП

**Вядомы крытык і шмат каму памятны выкладчык-літаратуразнаўца адышоў у вечнасць перад новым годам на 89-м годзе жыцця. Каб прыгадаць Дзмітрыя Якаўлевіча, прапануем некалькі старонак з яго даўнішняй асабовай справы, што захоўваецца ў архіве Саюза беларускіх пісьменнікаў, сябрам якога ён быў амаль 60 гадоў...**



Адкрывае «справу» аўтабіяграфія, уласнаручна напісаная Дзмітрыем Бугаёвым 20 мая 1961 года.

«Нарадзіўся 12 студзеня 1929 г. у в. Сычык Крычаўскага раёна Магілёўскай вобласці ў сям'і селяніна. У 1936 годзе пайшоў у школу. Да Айчыннай вайны скончыў 5 класаў Губіншчанскай школы. У час нямецкай акупацыі знаходзіўся ў роднай вёсцы, памагаў маці па гаспадарцы.

Пасля вызвалення нашай мясцовасці Савецкай Арміяй зноў працягваў вучобу і ў 1945 г. скончыў сямігодку. У 1945-1948 гг. вучыўся ў Магілёўскім педвучылішчы. Потым працаваў настаўнікам пачатковых класаў Крытышынскай школы (Іванаўскі раён, Брэсцкая вобласць) і завочна вучыўся на факультэце мовы і літаратуры ў Магілёўскім педінстытуце. У 1949-м перайшоў на стацыянар і ў 1952-м скончыў Магілёўскі педінстытут. У 1952–1955 гг. займаўся ў аспірантуры пры Мінскім педінстытуце імя А. М. Горкага. З 1955 па 1959 г. працаваў у якасці старшага выкладчыка кафедры літаратуры ў Мазырскім педінстытуце. Летам 1959 г. перайшоў на працу ў Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР, дзе працую і цяпер.

20 мая 1961 г. Д. Бугаёў»

Як і было прынята, у Саюз пісьменнікаў Дз. Бугаёва рэкамендавалі калегі па цэху, а менавіта творцы літаратурнай крытыкі. У дадзеным выпадку імі сталі Алесь Адамовіч, Рыгор Бярозкін і Янка Казека. Усе тры дакументы (што было не заўсёды) належаць да аднаго часавага прамежку: мая 1961 года.

*«Рэкамендацыя.*

Бугаёў Д. Я. — адзін з тых, для каго літаратуразнаўства, крытыка — прызванне. У яго працах і артыкулах аб творчасці М. Лынькова, І. Шамякіна, аб стылі прозы 20-х гг., аб манаграфіях і зборніках літаратуразнаўцаў заўсёды прысутнічае пафас сцвярджання ці адмаўлення, ні ў адным сваім слове ён не абыякавы. Пры гэтым ён дастаткова эрудыраваны, каб судзіць аб літаратурных з'явах у іх гістарычнай сувязі з іншымі з'явамі, у ацэнцы літаратурных твораў заўсёды зыходзіць з патрабаванняў самога жыцця, прынцыпова адмаўляючы кан'юнктуршчыну і неаб'ектыўнасць у літаратурным жыцці. Тав. Бугаёў Д. Я. валодае добрым эстэтычным густам, піша жыва, цікава, ён закаханы ў мастацкае слова свайго народа.

Лічачы тав. Бугаёва Д. Я. ідэйна і па таленту сталым літаратарам, рэкамендую яго ў члены Саюза пісьменнікаў.

Член Саюза пісьменнікаў Алесь Адамовіч.

Членскі білет №4025.

14 мая 1961 г.»

*«Рэкамендацыя.*

Дзмітрый Бугаёў з'яўляецца адным з найбольш таленавітых прадстаўнікоў маладой беларускай крытыкі. Упершыню выступіўшы ў рэспубліканскім друку некалькі год таму назад, Дзм. Бугаёў адразу звярнуў на сябе ўвагу як удумлівы, кваліфікаваны літаратар. Яго артыкулы і рэцэнзіі па самых розных пытаннях беларускай савецкай літаратуры вылучае глыбокая павага да фактаў, добрае веданне іх, умельства разглядаць кожную літаратурную з'яву ў перспектыве агульнага развіцця літаратуры.

Дзм. Бугаёў піша жыва, зацікаўлена, эмацыянальна, мінаючы збітыя формулы літаратуразнаўчага жаргона. Ён — крытык-чытач у лепшым сэнсе гэтага слова, г.зн. крытык, які актыўна і непасрэдна ўспрымае кнігу, умее зрабіць гэта сваё чытацкае ўспрыманне твора неад'емнай часткай яго аналізу, зыходным пунктам аналізу.

Лічу, што Дзмітрый Бугаёў заслугоўвае таго, каб быць прынятым у члены Саюза пісьменнікаў, бо ён — чалавек з талентам і будучыняй.

Бярозкін Рыгор Саламонавіч,

Член ССП з 1939 года, членскі білет №4036.

25-V-1961 г.»

*«Рэкамендацыя.*

Бугаёў Д. Я. выступае з крытычнымі артыкуламі і літаратуразнаўчымі працамі на старонках рэспубліканскіх часопісаў і газет з 1957 года. За гэты час ён апублікаваў шэраг цікавых, змястоўных артыкулаў, прысвечаных галоўным чынам сучаснай беларускай прозе. Артыкулы гэтыя сведчаць аб добрым эстэтычным гусце і тэарэтычнай падрыхтоўцы аўтара, аб яго прынцыповасці ў ацэнцы літаратурных з'яў і вострым адчуванні сучаснасці.

Аналізуючы мастацкія творы, Д. Бугаёў шмат увагі аддае пытанням літаратурнага майстэрства, раскрыццю стылявых асаблівасцей творчасці беларускіх празаікаў (артыкулы аб творчасці М. Лынькова, І. Шамякіна, В. Быкава і іншых беларускіх пісьменнікаў). Крытык актыўна ўдзельнічае ў літаратурным жыцці рэспублікі.

Ведаючы Д. Бугаёва як таленавітага, прынцыповага крытыка, рэкамендую яго для прыёма ў члены Саюза пісьменнікаў.

Член Саюза пісьменнікаў, членскі білет № 4091,

Я. Казека (Іван Дарафеевіч Казека)

10 мая 1961 г.»

14 красавіка 1961 года кандыдатура Дзмітрыя Бугаёва абмяркоўвалася і на паседжанні секцыі крытыкі і літаратуразнаўства СП БССР. Апошняя таксама дала сваю станоўчую рэкамендацыю Праўленню Саюза пісьменнікаў.

Са справы, якую пасля выгнання з Дома літаратара (і яго архіваў) захавалі супрацоўнікі Саюза беларускіх пісьменнікаў, становіцца відавочным, што «галоўным хросным бацькам» Дзмітрыя Якаўлевіча Бугаёва пры прыёме ў Саюз быў Алесь Адамовіч. На секцыі крытыкі ён выступіў з дакладам пра кандыдата, а 12 чэрвеня Алесь Адамовіч прадставіў Дзмітрыя Бугаёва на Прэзідыуме Праўлення СП, якія паставіўся да таленавітага і прынцыповага крытыка станоўча і прыняў Дзмітрыя Бугаёва ў творчую арганізацыю.

**lit-bel.org**

# Уладзімір Някляеў: на ўсякім свеце

**«На ўсякім свеце» — так называецца новая кніга прозы Уладзіміра Някляева.**




У ёй адзінаццаць апавяданняў і дзве прыпавесці. Хаця падзел на гэтыя жанры даволі ўмоўны, асабліва калі казаць пра такога літаратара, як Уладзімір Някляеў. Ён дэбютаваў вершамі і шырокае прызнанне займеў за паэтычныя зборнікі. Але проза не адпускае Някляева ўжо не першы год...

«Што б ні казалі, ні плялі, мы не ў зямлі, а на зямлі!» — напісаў Уладзімір Някляеў у адным з вершаў. У яговых творах увогуле як бы няма памерлых. Усе — жывыя. Не Ў зямлі, а НА зямлі, не Ў небе, а ПАД ім. І гэта не толькі дае чытачу адчуванне цэласнасці свету, але і дазваляе аўтару ствараць неверагодныя, фантастычныя — і ў той жа час на дзіва рэальныя сюжэты, што і стала зместам кнігі «На ўсякім свеце».

Светаў, як вядома, два — гэты і той. У прыпавесці, якая дала назву кнізе, яны злучыліся ў адзін. Усе памерлыя на Дзяды прыйшлі жывымі да сваёй роднае хаты, і галоўны герой зусім не дзівіцца, пабачыўшы гэткую фантасмагорыю...

У адным з інтэрв'ю аўтар сказаў, што гэтым творам ён хацеў сабраць у адным месцы ў адным часе ўсю сваю сям'ю. «...ма́ю на ўвазе сям'ю з дзядамі, прадзедамі, прапрадзедамі і так далей у глыбіню стагоддзяў. Гэта спроба праз аб'яднанне маёй крэўскай сям'і (Уладзімір Някляеў родам з Крэва) аб'яднаць у адну сям'ю ўсю Беларусь».

Фантазійнага ў новай кнізе шмат. Чаго варты хаця б шчымлівы сюжэт пра тое, як намаляваная на капоце машыны малпа ў крытычны момант ажывае і ратуе з-пад колаў дзіця («Што да чаго?»).

Ці спрадвечная гісторыя братазабойства, наноў пераказаная праз дачыненні катоў, якая так і называецца — «Каты». Альбо шчымлівы сюжэт пра каханне й нянавісць акторкі і палкоўніка ў «Школе танцаў».

Гэтыя ды некаторыя іншыя апавяданні можна назваць паэтычным рэалізмам, але ўсялякія намёкі на паэтычнасць знікаюць у творах, заснаваных на нядаўнім суровым жыццёвым досведзе аўтара. Асабліва суровым у апавяданні «Змены сувязяў», якое напісана пад час хатняга арышту, якім яму замянілі турэмнае зняволенне ў гэтак званай «амерыканцы», куды Уладзіміра Някляева звязенілі ў дзень прэзідэнцкіх выбараў-2010.

Актыўныя допыты — так, аказваецца, называюцца катаванні, якімі з вязня следчыя спрабуюць здабыць патрэбныя прызнанні. Парог болю — таксама мяжа паміж гэтым светам і тым. Паміж ахвярай і катам. Паміж праўдзівым і злачынцам. Паміж жыццём і літаратурай.

Кніга выйшла ў бібліятэчцы часопіса «Дзеяслоў». І яна ўжо ёсць у незалежных кнігараспаўсюднікаў ды некаторых мінскіх кнігарнях.

**Валянціна Аксак, Радыё Свабода.**

# Фестываль духоўнай песні і паэзіі ў Гародні

**Вечарына духоўнай песні і паэзіі прайшла ў Гародні з удзелам літаратараў, музыкаў, як мясцовых, так і гасцей з Менска.**

Імпрэза прайшла менавіта тады, калі ў Гародні распачынаўся Міжнародны XVII фестываль праваслаўных пяянняў «Каложскі дабравест».

— Чым не нагода паказаць духоўныя здабыткі сучасных беларускіх паэтаў, — адзначыў паэт Юрка Голуб: — Паэзія і рэлігія — яны ў наш час ідуць нeяк у адным рэчышчы, я так гэта разумею і ўсведамляю. Гэта стала фактам. Але фактам духоўным. Асабліва прыемна, што і моладзь пацягнулася вось у гэтым рэчышчы ў сваёй творчасці. І чытач гэта заўважыў і ацаніў. І паэтычныя кнігі, асабліва моладзі, не залежваюцца на кніжных паліцах.



Ад імя Саюза беларускіх пісьменнікаў намеснік старшыні Усевалад Сцебурака павіншаваў з адкрыццём Міжнароднага фестывалю і паэтычнай імпрэзай усіх слухачоў, якія запоўнілі залу па вуліцы Акадэмічнай, 2.

— Свята, па-першае, перад доўгім велікодным постам. Цяпер такія дні, калі можна хадзіць у госці, можна запрашаць сяброў, можна ўзгадаць нешта вясёлае. І гэты час для натуральнай весялосці чалавечай. Таму я віншую вас з такім святам у Гародні, што вы такія ёсць, што сёння ўвечары гэтая вялікая зала напоўнілася людзьмі.

Па чарзе выступілі са сваімі творамі Павел Касьяровіч, Анатоль Брусевіч, Данута Бічэль, Усевалад Сцебурака, Юрка Голуб, Алесь Камоцкі і Алесь Разанаў.

**Якуб Сушчынскі, racyja.com.**

**Фота аўтара**

# «Кожны паэт схільны да афектаў»




Фота Алеся Аркуша

**19 студзеня споўнілася пяць гадоў, як беларускі паэт Юры Гумянюк пайшоў з жыцця. Яму было 43 гады. Гавораць, што час лечыць, але сябры паранейшаму згадваюць Юру з адчуваннем балючай страты...**

***Таццяна Будовіч-Барадуля: — Які характар быў у Юры Гуменюка?***

***Алесь Аркуш:*** — Гумянюк быў эпатажным і багемным паэтам. Жыў выключна паэзіяй і літаратурай. Меў толькі адно пазалітаратурнае захапленне — акварыюмныя рыбкі. Біяграфія Гуменюка неаддзельная ад дзейнасці Таварыства Вольных Літаратараў. Гэтую літаратурную прастору ён ствараў, у ёй творча існаваў, у ёй рэалізаваўся як паэт.

***Анатоль Брусевіч:*** — Характар яго вызначаўся неверагоднай супярэчлівасцю, аднак некаторыя дамінантныя рысы можна назваць: геданізм, шляхетнасць, якая часта перарастала ў прэтэнцыёзнасць і нарцысізм, нонканфармізм з немалым дамешкам цынізму, шчырасць, якая межавала з любоўю да пляткарства. Юра быў чалавекам адкрытым, але мог неўзабаве замыкацца, гатовы быў разбіцца ўшчэнт і дапамагчы чалавеку, а мог здзіўляць скрайняй абыякавасцю. Цікава, што пераход да падобных скрайнасцяў адбываўся незаўважна, што магло шакаваць выпадковых людзей. Непрадказальнасць — ці не самая адметная рыса характару Юры Гуменюка.

***Ігар Сідарук:*** — Юры быў чалавек адметна-інтэлігентны, адукаваны, франтаваты. Заўсёды модна апранаўся, але, будучы крыху скупаваты, ніколі не шкадаваў грошай на самыя модныя чаравікі, паліто, шалік ці яшчэ якую трэндавую рэч. Любіў кампанію і любіў вылучацца з усяе кампаніі, быць, што называецца, яе душой. Любіў пахваліцца, з задавальненнем выслухоўваў кампліменты. Пры гэтым сам мог вельмі добра і цёпла выказацца пра чалавека, і ў вочы, і за вочы. Мог падзяліцца з табой нейкай таямніцаю, часцяком пераходзячы на паўшэпт, які было амаль не разабраць. Любіў вострыя сітуацыі, добры гумар, мог пасмяяцца і з самога сябе. Хоць заўсёды трымаў нейкую дыстанцыю ад людзей прасцейшых за яго, не з ягоных шэрагаў. Яшчэ меў нейкую напаўдзіцячую наіўнасць — і гэтая наіўнасць іншым разам гучала ў словах, у тым, што ён рабіў, моцна верачы, што менавіта так правільна, што іначай і не можа быць. Выступаючы яшчэ за Саветамі супраць гэтых Саветаў, рыхтуючы і ствараючы з усімі намі, будучымі тэвээлаўцамі, гэтае самае Таварыства Вольных Літаратараў...

**Т.Б.-Б.:** ***— Ці ствараў ён уражанне чалавека, схільнага да афектаў?***

**А.А.:** — Так, ён быў эмацыйным, крыўдлівым, але не злапомным. Прызнаваў чужы талент. Любіў, напрыклад, Славаміра Адамовіча — як эпатажную асобу і паэта.

**А.Б.:** — Кожны паэт схільны да афектаў: жарсці, эмоцыі — лепшыя стымулятары творчага працэсу. Гумянюк не можа быць тут выключэннем. Аднак ён заўсёды трымаўся спакойна, годна, нязмушана ў любых сітуацыях. Рэдка, вельмі рэдка можна было ўбачыць яго ў стане нейкай экзальтацыі.

**І.С.:** — Маё асабістае меркаванне: не. Да эфектаў — так, да афектаў — не. Выхаванасць не дазваляла.

**Т.Б.-Б.:** ***— У чым была трагедыя Гуменюка як чалавека, асобы, творцы?***

**А.А.:** — Не думаю, што ў адносінах Гуменюка трэба казаць пра нейкую трагедыю. Ён цалкам рэалізаваўся як паэт. Выканаў сваю творчую місію.

**А.Б.:** *— Ёсць некалькі трагедыйных момантаў, пра якія я ведаю і якія ў многім вызначалі хаатычны накірунак жыццёвага і творчага шляху Юры Гуменюка. Па-першае, ён так і не змог стварыць сям'ю, хоць вельмі гэтага жадаў... Па-другое, Юры Гумянюк не рэалізаваўся як навуковец, хоць былі ўсе для гэтага падставы...*

**І.С.:** — Мы шмат чаго ў той час хацелі, у многае верылі, спадзяваліся, што вось, яшчэ крыху — і будзе ў краіне вольна і лёгка як для творцаў, так і для ўсіх. Аднак вядомы рух палітычных падзей, спаўзанне грамадства ў таталітарна-дыктатарскую сутнасць шмат што перакрэсліў. Ці многім, калі разабрацца, былі патрэбныя тады і патрэбныя цяпер «Твар Тутанхамона», «Рытуал», «Вуліца тыгровых архідэй»? Толькі знаўцам ды аматарам нацыянальнай літаратуры. А Юры, магчыма, хацелася большага. У тым і была трагедыя.

**Т.Б.-Б.:** ***— Юры Гумянюк быў экстра- ці інтравертам? Любіў пагаварыць ці больш маўчаў?***

**А.Б.:** — Думаю, Гумянюк быў экстравертам. Не зусім тыповым, безумоўна. Так, яму бясконца падабалася бурлівае жыццё, ён меў неверагодна шмат знаёмых, але ўмеў кантраляваць свае эмоцыі, а гэта ўжо рыса інтраверта. Пагаварыць любіў вельмі. Але больш пра сябе. Моўкнуў, калі яго асоба пераставала быць цэнтральнай тэмай гаворкі. Дарэчы, яшчэ адной трагедыяй для Юры стала ўсведамленне, што сярод вялікай колькасці знаёмых сяброў у яго амаль няма.

**Т.Б.-Б.:** ***— Ці верыце Вы асабіста, што 19 студзеня 2013 года адбылося самазабойства, а не няшчасны выпадак па неасцярожнасці?***

**А.А.:** — Цяжкае пытанне. З аднаго боку, Юра не быў такім смельчаком, каб сігануць з дзявятага паверха. Магло нешта здарыцца, каб яго розум «замуціўся» і ён вырашыў завершыць жыццё. Але, па-мойму, не было нейкіх сур'ёзных перадумоваў. Для яго былі цяжкімі папярэднія 2–3 гады: 2007–2009, калі ён судзіўся са стрыечнай сястрой за бацькоўскі дом... Нават лячыўся ад залежнасьці ад алкаголю. Але ў 2010 годзе ўсе яго праблемы пазітыўна вырашыліся. Ён меў шмат розных творчых планаў. Незадоўга да трагедыі ўкладаў новую кнігу, нават вершы перадаў мастаку Сяргею Грыневічу, каб той вокладку намаляваў... З іншага боку, Юра скардзіўся сябрам у Гародні, што нібыта яго шантажавалі спецслужбы. Відавочна, хацелі завербаваць (як журналіста замежных СМІ). Такая прычына ягонай смерці цалкам магчымая. Дапускаю, што мог быць нейкі псіхічны шок, але гэта ўжо блізка да забойства.

**А.Б.:** — Ніхто не ведае, што адбылося: няшчасны выпадак ці самазабойства. І не даведаецца. Зрэшты, амаль любое самазабойства — і ёсць няшчасны выпадак, бо рэдка хто плануе такія рэчы. Усё адбываецца сапраўды выпадкова, любая дробязь можа падштурхнуць на такі крок. Асабліва паэта...

**І.С.:** — Гэта той самы момант, калі не змагу адказаць ні станоўча, ні адмоўна. Смерць заўсёды прыходзіць нечакана. Думаю, нават да тых, хто чакае яе штохвілінна ці сам набліжае, набліжаецца да яе. Адзінае — шкада, што ў нашай краіне да высноў нават дакладнага і яснага расследавання часцяком такі ж давер, як і да здагадак, амаль нічым не падмацаваных. Калі ў нас можа быць у прынцыпе такое расследаванне.

**Т.Б.-Б.:** ***— Чаго ён баяўся (і ці баяўся ён чаго ўвогуле)?***

**А.А.:** — Баяўся старасці. Дакладней, застацца сам-насам пасля смерці маці. Пра гэта я чуў ад яго асабіста.

**А.Б.:** — Найбольш Юры Гумянюк баяўся страты цікавасці да сваёй асобы. Яму не было важна, хто і што пра яго кажа, — галоўнае, каб гаварылі. Апынуцца раптам па-за цэнтрам увагі (сяброў, блізкіх, калегаў па літаратурным цэху, медый і г.д.) — бадай найстрашнейшая фобія Гуменюка. Яшчэ ў апошнія гады баяўся некалькіх знаёмцаў, якіх лічыў ледзь не крымінальнымі аўтарытэтамі, хоць насамрэч гэта былі звычайныя алкаголікі. Калі і меў нехта з іх якую ходку на зону, то, напэўна, прасядзелі яны там «шасцёркамі». Але Юра баяўся іх, баяўся, што калі, напрыклад, не дасць ім грошай на бутэльку, а пашле на тры літары, то яны яго могуць забіць. Аднойчы я нават хацеў развянчаць міф пра так званых «аўтарытэтаў» — банальна надаваць пад гандэлкам выспяткаў гэтым забулдыгам, але Юра вельмі перапалохаўся і катэгарычна адмовіўся ад маёй прапановы.

**І.С.:** — Баяўся шмат чаго. Што не будуць прызнаваць як творцу. Што мама перастане любіць. Што не выдадуць чарговую кніжку. Што не атрымае адказ на чарговы ліст. Што незнарок пакрыўдзяцца сябры. Вельмі баяўся гэбістаў, з якімі сутыкаўся насамрэч. Баяўся, што яго ўсе забудуць і ён застанецца ў абсалютнай адзіноце. Урэшце, звычайныя страхі, якіх шмат у кожнага з нас. І многія з іх Юры не хаваў. Магчыма, тым самым рабіў іх крыху слабейшымі, не такімі вялікімі, як магло б здавацца яму, калі хаваў іх унутры сябе...

**Т.Б.-Б.:** ***— Чаму ў апошнія гады ён зусім мала пісаў? Прынамсі, вершаў у друку за апошні перыяд зусім мала ў параўнанні з ранейшымі гадамі...***

**А.А.:** — Практычна ўсе ягоныя кнігі былі выдадзеныя Таварыствам Вольных Літаратараў, а напрыканцы 90-х яно моцна занепала. Пачаўся агульны крызіс у беларускай літаратуры. У той час многія перасталі пісаць...

**А.Б.:** — У апошнія гады Юра сапраўды пісаў і друкаваў менш мастацкіх твораў у параўнанні з тымі ж дзевяностымі, альбо пачаткам нулявых. Галоўная прычына такой раптоўнай «сціпласці», думаю, у тым, што змяніліся часы, а з імі стратэгіі ўзаемаадносін паміж выдаўцом літаратуры і аўтарам, аўтарам і чытачом, чытачом і выдаўцом. Раней выдавец шукаў аўтара і ствараў камфортную атмасферу для яго дыялогу з чытачом. Але неўзабаве ўжо аўтар быў вымушаны шукаць і выдаўца, і чытача, і пра камфорт для іх дбаць. Такія змены, вядома, былі для Юры непрымальнымі, яны не «вязаліся» з яго чыста рамантычным усведамленнем месца і ролі мастака ў свеце: узвышацца над сціпланым натоўпам, чаруючы магіяй слова. Зрэшты, не адзін Гумянюк, але многія іншыя яркія беларускія творцы ў такіх дзікіх варунках сыйшлі са сваіх п'едэсталаў, саступіўшы месца бяздарным літаратурным рамеснікам і менеджэрам, якія апошнім часам запаланілі айчынную вербальную прастору.

**І.С.:** — Не думаю, што можна напісаць нешта вартае ў час дэпрэсіўна-зацяжных запояў. У такія дні знайсці-датэлефанавацца да яго было немагчыма. Я не ведаю, што з ім тварылася і дзе ён быў у такія хвіліны; але потым Юры сам перажываў і нерваваўся, што на яго шмат хто пакрыўдзіўся, што яго звольняць, што не вытрымае ціску з усіх бакоў... А запоі гэтыя ў апошнія гады ягонага жыцця надараліся часта. Некалькі разоў ён тэлефанаваў мне, прасіў даць адрас аднаго з цэнтраў, які працуе з хворымі на алкагалізм, аднак, наколькі мне вядома, так туды і не звярнуўся.

**Т.Б.-Б.:** ***— Не сакрэт, што творчыя асобы часцей, чым іншыя, пакутуюць на дэпрэсіі...***

**А.А.:** — Беларуская літаратары традыцыйна змагаюцца з дэпрэсіяй з дапамогай гарэлкі і віна. Юра не быў выключэннем.

**А.Б.:** — Кожны чалавек, тым больш творчы, схільны да дэпрэсіі. Было і ў Гуменюка мноства падстаў упадаць у дэпрэсіўны стан. Аднак знешне гэта слаба праяўлялася: Юра заўсёды стараўся выглядаць аптымістам. Антыдэпрэсантам выступаў алкаголь. Па-мойму, дрэнна ад яго бывае толькі тады, калі дэпрэсія зацягваецца.

**Т.Б.-Б.:** ***— Магчыма, пра нешта істотнае я не запыталася. Ці маеце што дадаць?***

**І.С.:** — Хацеў бы падкрэсліць, якое стаўленне ў Юры было да маці. Своеасаблівае, цёплае і ў той жа час нейкае раўнівае, з глыбінным клопатам пра яе і нявіннымі капрызамі, як у сынулі-пястунчыка. Ён дзяліўся з ёю многімі сваімі думкамі, планамі, шмат распавядаў ёй пра сяброў, знаёмых літаратараў. Мама адказвала Юры тым жа: усёпаглынальнай цеплынёй і любоўю. Яна памятала ўсіх, хто хоць раз бываў у іх дома, і, зусім не раскашуючы, імкнулася разам з сынам выказаць у такія хвіліны максімальную гасціннасць.

**А.Б.:** — Вядома, усё сказанае вышэй ні ў якім разе не можа лічыцца вычарпальным адказам на пытанне «Што гэта за постаць — Юры Гумянюк?» — усяго толькі некалькі высноў, зробленых на падставе нашага амаль дваццаціпяцігадовага знаёмства-сяброўства-прыяцельства. За такі кароткі тэрмін усе таямніцы душы паэта ніхто не спасцігне, тым болей іншы паэт.

**Гутарыла Таццяна Будовіч-Барадуля**

# Сон-сюр з Някляевым у Брэсце

## Амаль рэпартаж з элементамі эсэ

**Бывае ж такое, здараецца, — каб і хацеў прыдумаць, дык не, не атрымаецца. Так і гэтым разам было.**


Мікола Пракаповіч і Уладзімір Някляеў

Нядзеля. Першае ў гэтым годзе пасяджэнне Рады Берасцейскага аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў адбываецца ў рэдакцыі «Брэсцкага кур'ера». З'явілася тэхнічная праблема: адключылі батарэі, і ў памяшканні тэмпература вуліцы, некалькі градусаў цяпла. Таму ўсе ў паліто, кажушках, — адно што не ў пальчатках.

Але праз кароткі час антураж мяняецца. З'яўляецца госць — Уладзімір Някляеў. І разгортваецца ён, гэты найначай сон пад Далі, — цалкам сюррэалістычная дзея. Някляеў сядзіць крыху збоку ад плыні сходу, падпісвае кніжкі. Напачатку добра знаёмым прысутным — а такіх многа. Найперш Міколу Пракаповічу, — з ім знаёмы яшчэ з савецкіх часоў. Потым менш знаёмым прысутным. Паколькі паэт-пчаляр Мікола Папека «чапляе» госця на палітычныя тэмы, то яму пакуль — нічога. Між тым «праважаты» Някляева Язэп Янушкевіч, паказваючы на чарговую кнігу, падымае градус: «Дык гэта ж бібліяграфічная рэдкасць, 1976 года! Рарытэт!» І Папека (калекцыянер!) не вытрымлівае: вочы яшчэ спрачаюцца, але міміка выдае, як ён хоча кнігу, аб'яўленую апошняй. Дарэчна падключаецца Мікола Пракаповіч, нагадвае, што гэта Папекаў мёд мы прыносілі не так даўно нашаму калегу і паплечніку ў Брэсцкую гарадскую бальніцу, дзе той ляжаў з гіпертанічным крызам і перасследаваны пэўнымі цэрберамі.

Някляеў выяўляе на аблічы барацьбу пачуццяў, але бачна таксама, што ён унутрана згодзен. Супраць аргумента салідарнасці — як супраць лома... І кніга («...тут не я, тут пра мяне») адыходзіць Міколу Папеку. Някляеў «корпаецца» ў ноўтбуку, «дастае» адтуль верш, чытае. Верш энергетычны, падабаецца прысутным. Адкуль ён такі? А з медыцынскага бланка! Аўтар згадвае, што ў брэсцкай бальніцы, калі яго затрымалі на мяжы, не было патрэбных лекаў, доктар адно выпісала рэцэпты, на адным з іх ён пачаў запісваць верш, а потым аддаў з ахвотнаю схадзіць у аптэку, і бланк з вершам застаўся там. «Але аптэкарка немаведама як даведалася, што гэта мой накід, здолела праз некага перадаць мне, і верш быў дапісаны», — кажа ён. Рэдактар Мікалай Аляксандраў парываецца запісаць гісторыю для публікацыі, але тут умешваецца шматведны Мікола Папека. «У «Новым часе» пагартайце, там пра гэта ёсць»...

Заадно прысутныя даведваюцца, калі і каму будзе ўручана наступная 17-я Мядовая прэмія. Але пастаўленая і ўмова: імя лаўрэата не раскрываецца! Затое з налёту і адразу прымаецца рашэнне пра Мядовую прэмію 2018 года (!) Гучыць і імя лаўрэата. Яна будзе прысуджана рускамоўнаму паэту Аляксандру Рызо, які рызыкнуў прачытаць прысутным свой чатырохрадковік на беларускай мове. Верш спадабаўся, паэту сказалі, што ягоныя ранейшыя вершы ўсе прайгралі, і калі напіша і выдасць за гэты год па-беларуску кнігу, то аўтаматычна атрымае пуд мёду ад Папекі.

Гэты, калі зважаць на фабулу і яе напаўненне, сюррэалістычны сон у духу Далі меў працяг. І ён даволі рэалістычны. Прысутным даводзіцца інфармацыя, што заявіў пра сваё жаданне ўступіць у Саюз беларускіх пісьменнікаў Петэр Бараш. Інжынер паводле адукацыі, ён яшчэ з савецкіх часоў жыве ў Брэсце, але мае радзімай Венгрыю і перакладае на венгерскую (вугорскую) мову творы беларускіх пісьменнікаў. І ўжо зусім без эфекту сну а la Далі, цалкам рэальна Уладзімір Някляеў выходзіць перад сходам і падтрымлівае свайго перакладчыка рэкамендацыяй (Бараш пераклаў і выдаў адну кнігу Някляева, цяпер працуе над другой)...

Пры такім міжнародным павароце падзей у Брэсце хачу абнародаваць наступную ідэю. Яна метадалагічная.

Вядома, што любую справу можна рабіць некалькімі спосабамі (часам прынцыпова адрознымі), і яны будуць мець розны каэфіцыент карыснага дзеяння. Дэталізую далей. У Беларусі працуе Брытанская Рада. Нягледзячы на тое, што ўчынілі імені класіка на радзіме (маю наўвазе фільм «FACK JU GÖHTE», які карыстаецца ў Нямеччыне шалёным поспехам), вельмі вынікова і даўно працуе Інстытут імя Гётэ. З нядаўняга часу надзвычай актывізаваліся ўсходнія суседзі, і нават у абласных гарадах там-сям адкрыліся Цэнтры расійскай навукі і культуры.

А мы, выходзіць, нямоглыя, босыя і голыя?

Але гляньма: ёсць Петэр Бараш. Другую ўжо кнігу «зараджае». А берасцеец Мікола Аляхновіч пераклаў, у сваю бытнасць у Венгрыі, каля дзесяці венгерскіх паэтаў на беларускую і выдаў кніжкаю «Такая тонкая размова ніць».

Ёсць у Нямеччыне перакладчык з беларускай на нямецкую Томас Вайлер. У Англіі і ЗША тоесных ім людзей маем, некаторыя ўваходзяць у Саюз беларускіх пісьменнікаў. У Іспаніі такі чалавек — Анхела Эспіноса Руіс. І з беларускімі вершамі высокія месцы ў спаборах тут займае, і нашы вершы на іспанскую перакладае.

Дык чаму не рабіць гэта больш паяднана, пад эгідаю Янкі Купалы? Яго, дарэчы, таксама «коцалі» тут, як і Гётэ ў Германіі, але «...каб Сонца засланіць...», вядома. Гэта імя-брэнд.

Натуральна, грошай на тое, каб адчыняць за мяжой установы, падобныя да Інстытута імя Гётэ ды іншых названых устаноў, у Беларусі пакуль няма і доўга яшчэ не будзе. Але ніщто не замінае, пры цяперашняй глабалізацыі, мець віртуальны Інстытут імя Янкі Купалы, які там-сям падтрымліваў бы вартыя культурніцкія пачынанні і праекты, збольшага за мяжою краіны.

Дзяржава ў гэтым зацікаўленая найперш. Бо малымі высілкамі можна рабіць важную і вялікую іміджавую працу, так неабходную за мяжою.

Сканцэнтраваўшы высілкі, мы ў «ключавых» краінах свету дапаможам увайсці ў грамадскі дыскурс найперш нашым класікам, — як тым, каго ўжо няма з намі, так і жывым (Алексіевіч, Разанаў). Але і Някляеў, напэўна, мусіць фігураваць таксама. І не таму, што так арганічна «прысніўся» брэсцкім літаратарам напрыканцы студзеня. А таму, што шматкаратны, як кажуць немцы, паэт ды прадстаўнічая фігура.

**Яўген Бяласін. Фота аўтара**

# Праўда пра «дзявяты кіламетр»

**Колькі іх — страшных таямніц, звязаных са злачынствамі сталінскага рэжыму? Адна з іх была раскрытая ў нашы дні пад Гомелем: стала вядома месца, дзе ў 30-я гады «спецыялісты» з НКУС распраўляліся з ахвярамі, якія трапілі ў сталінскую мясарубку. Забівалі і закопвалі ў адной вялікай яме... Успамінае бабруйчанка Яўгенія Ігнацьеўна Маскаленка:**

— У 1933 годзе я жыла ў Жлобіне, вучылася ў шостым класе. Наша школа стаяла побач з будынкам НКУС. Аднойчы падчас урока мой бацька прыадчыніў дзверы ў клас і папрасіў настаўніцу адпусціць мяне з заняткаў. Калі я выйшла ў калідор, ён сказаў мне, што яго па позве выклікаюць у НКУС, але, напэўна, не арыштуюць.

Гэта быў ужо другі выклік, і мой бацька спадзяваўся, што і на гэты раз яго адпусцяць пасля допыту...

Чакаючы яго, я стаяла каля будынка НКУС да самага вечара. І вось яго выводзяць пад канвоем. Ён толькі паспеў сказаць мне, што яго арыштавалі, папрасіў дапамагаць маці, у якой тады было маленькае, год і два месяцы, дзіця, — мой брат.

Пасля гэтага вечара бацькі я больш не бачыла. Ён, машыніст лакаматыўнага дэпо станцыі Жлобін Ігнат Банькоўскі, стаў ахвярай тэрору, ад якога ў 1933 годзе пацярпелі многія мужчыны з нашай «каталіцкай» вёскі Чарцёж.

Пасля заканчэння сямі класаў я паступіла ў Бабруйскі лесатэхнікум. Не прызнаўшыся, што мой бацька рэпрэсаваны, што ён, як тады казалі, «вораг народа».

Але з тэхнікума зрабілі запыт у Чарцёжскі сельсавет і, атрымаўшы адказ, адразу й выключылі мяне.

Пазней я змагла паступіць у ФЗВ (школу фабрычна-завадскога вучнёўства), скончыла яе і была накіравана ў Навабеліцкі дрэваапрацоўчы камбінат (цяпер раён Гомеля).

Вось там і адбылася гісторыя, якая так узрушыла мяне і не перастае хваляваць да гэтага часу...

1 траўня 1936 года калектыў нашага цэха выехаў на традыцыйную маёўку. У кузаве грузавіка, побач са мной, сядзела мая сяброўка, аднавяскоўка Франя Закрэўская. Яна гэтак жа, як і я, пасля заканчэння ФЗВ была накіраваная на Навабеліцкі дрэваапрацоўчы камбінат.

Насупраць Франі размясціўся ўпакоўшчык нашага цэха Мікалай Кандрацьеў, які, думаю, быў таемна ў яе закаханы. Але мы з Франяй ставіліся да яго з асцярогай: на працы «хавалі», што нашы бацькі рэпрэсаваныя, казалі ўсім, што раней жылі на станцыі Чырвоны Бераг, якая была кіламетраў з пяць ад нашай вёскі, а Мікалай пастаянна вёў з намі нейкія дзіўныя гутаркі, распытваў аб нашым мінулым, цікавіўся нашымі думкамі... Акрамя таго, ён вылучаўся сярод працоўных добрай, дарагой вопраткай, белымі выпешчанымі рукамі...

І вось калі машына, выехаўшы за Навабеліцу, пад'язджала ўжо да дзявятага кіламетра, Кандрацьеў звяртаецца да нас і нечакана заяўляе:

— А вы мяне падманулі.

— У чым гэта?

— Родам вы не з Чырвонага Берага...

— З Чырвонага Берага, з Чырвонага Берага, — паспяшалася адказаць напалоханая Франя.

— Не, з Чарцяжа! І не трэба вам баяцца: дзеці за бацькоў не адказваюць.

Ён закурыў, павярнуўся да лесу і сказаў:

— Дарэчы, што вы ведаеце пра лёс сваіх бацькоў пасля іх арышту?

Мы, здзіўленыя і бязмерна напалоханыя, маўчалі.

— Бачыце, гэта дзявяты кіламетр. Вунь там, за ляском, яны і ляжаць, — прашаптаў ён, нахіліўшыся да нас.

Праўду ён нам сказаў пра нашых бацькоў ці не, — гэтая думка не дае мне спакою... Да гэтага часу...

А ў тую хвіліну, пасля слоў Кандрацьева, я з жахам глядзела на паказаны ім невялічкі лес, пакуль мы не праехалі тое месца...

Увосень 1936 года я звольнілася з камбіната, вярнулася ў родны Чарцёж, уладкавалася на працу рахаўніком. У 1937-м наша вёска яшчэ больш апусцела; фактычна ўсе мужчыны, нават 18–19-гадовыя хлопцы былі арыштаваны НКУС...

А расказаная мной гісторыя на гэтым не скончылася.

У 1944 годзе, калі Чырвоная Армія ўжо вызваліла Бабруйск, я прыехала да мамы, якая жыла ў свайго брата. На адной з гарадскіх вуліц я заўважыла прыгожага, падцягнутага афіцэра НКУС. Ён павярнуўся да мяне, і я са здзіўленнем пазнала ў ім Мікалая Кандрацьева!

Не пабаялася, падышла да яго. Ён не адразу мяне ўспомніў. Потым пачаў распытваць пра маё жыццё, пра Франю. Я нагадала яму пра дзявяты кіламетр...

— Не думай больш пра гэта. Я проста так тады збалбатнуў, — сказаў ён. І мы перавялі размову на іншую тэму...

...Пасля таго, як пахаванні ў Курапатах перасталі быць таямніцай, мой сын прапанаваў мне напісаць пра «гомельскія Курапаты» ў якую-небудзь з рэспубліканскіх газет, але я тады пабаялася.

А потым, у «Советской Белоруссии» (на пачатку 90-х гадоў) з'явіўся матэрыял. І ў ім усё пацвердзілася...

**Запісаў Анатоль Санаценка**



# Прыцягненне



Юрка ГОЛУБ

## Ранкам

*Зямля на далоні ляжыць*
*У Бога — высока.*
*Над ёю сусветна блішчыць*
*Падкова вясёлкі.*

*Жыццё таямніцу вядзе:*
*Не значыцца прорва.*
*Хто колісь замёрз у будзё,*
*Вылазіць па дровы.*

*Займае на зоры ізноў*
*Над борам і вокам.*
*Калі пачынаеш з азоў —*
*Світае навокал.*

*Зязюлін абудзіцца сон.*
*Адчыніцца брама.*
*А зораў нязлічаны сойм*
*На свечкі забралі.*

*Не здолелі дню замінаць*
*Ні колды, ні падлы.*
*І расплясканa мана*
*Молатам на кувадле.*

## Прыцягненне

*Дрымучыя дрэмлюць лясы.*
*Задымлены шлях небакраю.*
*І чорта з прырэчнай лазы*
*Вунь блешняю вуда карае.*

*Красае каменне раса.*
*Ракі выпінаюцца рэбры.*
*Нябескае слова «краса»*
*На хвалі гайдаецца срэбрам.*

*Сякеру бабёр навастрыў:*
*Арудаваць падкі на зрубе.*
*Яму тут уласны Гальфстрым:*
*Блішчаць яго футра і зубы.*

*Шукацьме прастору кажан:*
*З гарышча — а самы відушчы.*
*І казань гатова казаць*
*За душы лятучыя пушча.*

*Пацягнуцца гужам грамы*
*Праз нетры калючых маланак.*
*Грамы да халодных грамніц*
*Ніколі шляхоў не мыляюць.*

*І човен хінецца вяслом*
*К зацішнаму лону затокі...*
*Завязаны дужым вузлом*
*Нябёсы,*
*лясы*
*і вытокі.*

## Сказы

*Школа. Чытальня. Метро.*
*Старонкі зацёртыя. Кніга.*
*Цішком да кампутарных стром*
*Даводзіцца слоўніку клыгаць.*

*За поўнач. А свечка гарыць.*
*Радкі апавітыя воскам.*
*...І валіцца свет дагары.*
*...Разбітае падае войска.*

*Здубелай пакрыты карой*
*Шынэлак шурпаты, як дрэва.*
*...Храпе безнадзейна кароль.*
*...Рыхтуе замах каралева.*

*...Сцякае крывёй партызан.*
*...Шугаюць агеньчыкі бэзу.*
*...Хаваецца золата ў збан.*
*...Ляціць у паветры жалеза.*

*У вокладкаў броні нямаш —*
*За імі прычасце да шчасця.*
*Стаіць для любові шалаш*
*У сказа мінулага часу.*

## Нёман. Пад лёдам

*Ахінулі Нёман сасьнякі.*
*Завіруха зашпіліла лёдам.*
*А раней: сачылі з-пад рукі*
*За яго размахам і палётам.*

*Ды паўстаў над светам*
*снежны знак,*
*Дзе закон зімы — зусім не дышла.*
*Павярнуўся жыццяпіс няўзнак:*
*Неабходна руху перадышка.*

*Замярзае ўлегцы цеплаход:*
*Ледавік нідзе мядоў не зычыць.*
*І ў бядзе заведама ліхой*
*Цеплаходу, ведама, нязвычна.*

*Серабрыцца берага канва:*
*Ён сябе высока падтрымае.*
*І не дасць ён Нёману сканаць:*
*Берагі — як лейцы для трамвая.*

*Заірдзела позвы далячынь,*
*Вунь ільды затоена знікаюць.*
*А хацелі Нёман заручыць*
*Там, дзе мора мачты замыкае.*

## Зіма. Вечар

*На хрыбетніку бору*
*Трэ мароз пазванкі.*
*І звіняць, як на здоры,*
*Каляда і званкі.*

*Неаглядны дагэтуль*
*Палымнеў небасхіл.*
*Сведчаць моўчкі пра гэта*
*Ледзяшы з-пад страхі.*

*На вачах таямніцы*
*Загуляла зіма.*
*У чырвонай спадніцы,*
*Як гандлярка сама.*

*Месца ёсць адагрэцца*
*Да паўночы ў карчме.*
*Полаз, з холадам грэшны,*
*Свішча, быццам, карцеч.*

*На пазёме ваколіц,*
*Дзе завеі зігзаг,*
*Месяц коціцца колам,*
*Як Венеры пасаг.*

*Далучыцца да свята —*
*Абавязак стары.*
*Хоць не едзем у сваты,*
*А імчымся з гары.*

## З былога

*Заладзілі фэст звездары.*
*Зайздросна рагочуць.*
*Вядома, што ўсё да пары:*
*І птушкі пра тое свіргочуць.*

*Адсюль не спяшаліся ў рай:*
*Той сам набліжаўся.*
*Ірдзела з зазубраных ран*
*Ад зброі крыжацкай.*

*Быльнёг і пакутнікаў след*
*Прытулім паглядам.*
*Таго, хто пры бойках аслеп,*
*Праменне пагладзіць.*

*Ахутаў туман хутары.*
*Іржа з рэвальвераў.*
*Не могуць яны паўтарыць*
*Легенду рыўеры.*

*Цісненне рудых каляін*
*На кніжыцу лезе.*
*А выраю велічны клін*
*Не збіты жалезам.*

## На беразе

*Раку распірае катэр:*
*— Цімошка! — Ды так і быць!*
*Рака, што ў аерным спраце,*
*Раскручваецца, як бінт.*

*Ляцяць берагі з стрыжамі.*
*Над плёсам ляціць будан.*
*Агонь.*
*Першабыт.*
*Скрыжалі.*
*Праглядваюцца бадай...*

*Зязюля — гадоў лічылка —*
*Вандроўніку зычыць плён.*
*Вытокі яго лячылі,*
*А вусце бярэ ў палон.*

*Тут не патрэбны вёслы.*
*Заначка: і хлеб, і соль.*
*Не штука на водах гойсаць:*
*Далоні здабыць мазоль.*

*А хвалі — мора старонкі.*
*Гадзіннік — даведнік спраў.*
*...Сачыў аддалёк старонні:*
*Катэр раку распіраў.*

## Сом (Быліца)

*Ходзяць вусішна самы*
*На рачных глыбінях.*
*Мабыць, з поўнае сумы*
*Паплавок згубілі.*

*А драпежны паплавок*
*Не дыхне ў затоцы.*
*Хто яго сюды валок*
*І кручкі ў заточцы?*

*Закруціў вусішчы сом, —*
*Не кажы — вяроўкі!*
*І нырнуў навечна ў сон*
*З рыбнае віроўні.*

***

*У кухарні дым — не чад —*
*Пах прыпраў наўсцяжны.*
*Спрэчка йдзе, каму пачаць:*
*Як сама засмажыць?*

*Кажа Гандзя: — На алей*
*Трэба плазам класці!*
*— Але перш адскрэбсці глей! —*
*Удакладняе Насця.*
*— Але лепш за ўсё на тлушч*
*Бразнуць гэту глыбу! —*
*Уздымае бровак плюшч, —*
*Гладзіць Волька рыбу.*

*Зося вынік падвяла:*
*— Ну, а дзе ж патэльня? —*
*Без яе і да стала*
*Сом не дойдзе, пэўна!*

*Так прысуды слухаў сом,*
*Вельмі азадачаны.*
*Дзе віруе зорак сойм,*
*Хвост сама пабачылі.*

## Азарт

*З шалёным лётам лот,*
*Збялелы, нібы ў тынку.*
*І хруснуў лёд,*
*Як шыбіна ў будынку.*

*А з берага гульні*
*Яе віры — што ў бездань:*
*Або капшук гані,*
*Або шукай бязбедна.*

*Падпёр вунь стол ілбом,*
*Трымае — і не слаба!*
*Да Гінэса ў альбом*
*Грабуць такіх за жабры!*

*А макрахвосты хлыст*
*Шарнірнай шыяй сочыць:*
*Ці блісне туз, як ліст,*
*Народжаны ў сарочцы.*

*Расшпілены па пуп,*
*Цыгару нездар гвалціць:*
*У жарсці шалапут*
*Не больш шасцёркі значыць.*

*Паквапіўся валет —*
*І дама запішчала.*
*Пачулася б вальней —*
*Нахабнік не пушчае!*

*Не падкаваў блыху —*
*Такой бяды — не страціў.*
*Калі б абвал дыхнуў*
*Над каркам — вось дзе страшна!*

*Сляпы — і ў картах крот.*
*Празорца ў іх — відушчы!*
*Заткнуць ануча́й рот*
*Пачуе рэха ў пушчы.*

*Аднак праз гак атак*
*За горла — хап карата!*
*Бо ім цішком праз гак*
*Падспудна карта ўзята!*

## Рэфрэн

*У пралесках неба*
*У аблоках лес.*
*Тут гадаць не трэба,*
*Хто куды залез.*

*Тут бязмен без хлеба*
*Важыць жытку — без.*
*У пралесках неба,*
*У аблоках лес.*

*Слова просіць нема:*
*Зашчапіце стрэс.*
*У пралесках неба,*
*У аблоках лес.*

*Дзе і свет вялебны,*
*І літаніі спрэс,*
*У пралесках неба,*
*У аблоках лес.*

*Сэрца, днём не грэбуй,*
*Дзе асфальт ці весь.*
*У пралесках неба,*
*У аблоках лес.*



«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 2 (138) | 23 лютага 2018 | № 6 (569) Новы час

# Нічыпаравы боты

Наталля САЎРЫЦКАЯ

Было гэта вось толькі ўчора. Сядзеў я ўвечары на сваім пагорку ў хмызняку ды слухаў, як шумяць дрэвы. Сяджу я вось так, значыць, ды нікуды не рыпаюся, бо босы. А пайсці ў вёску вельмі ж хочацца. Я б да Гэлькі б зайшоў, бо даўно яе не бачыў. А мо і да брата б зазірнуў. Але ж не магу. Сяджу тут як прыклееныя, зоркі лічу ды босыя пяткі чухаю. Эх, чалавечая жорсткасць...

Раптам чую чыесьці крокі... Я, значыць, разгарнуў ціхенька хмызняк ды гляджу, хто там. Хоць час ужо позні, але светла, бо якраз поўня. Дык я адразу пазнаў Сцяпана Паўлава з нашай вёскі. І хоць ён з іншага канца, але добра мне вядомы, бо я не раз яго ратаваў. Аднойчы залом у яго жыце выдраў, а другім разам яго кабыле капыта загаварыў, як закульгала. Ды яшчэ там дробязі розныя: зелле, каб жонка любіла, настой ад болю ў жываце...

І вось, цяпер, я бачу таго самага Сцяпана. Нясе ён нейкі вузел на плячы, і шыбуе, відаць, з мястэчка, дадому. Незразумела толькі, чаму так позна і чаму гэтай дарогай? І тут я пагледзеў яму на ногі і аж знямеў ад здзіўлення, бо ён быў у ботах. І справа не ў тым, што для ботаў занадта горача і амаль ніхто ў іх цяпер не ходзіць, а ў тым, што нават у святле месяца я ўбачыў, што яны — жоўтыя.

Святочныя жоўтыя боты. На ўсю акругу — у нашым Лыскаве, і ў суседняй Дубніцы, і нават у Петрыкаве, такія былі толькі ў аднаго Нічыпара Чарадзея, гэта значыць, у мяне...

Я так зніякавеў, што нават не паспеў раззлавацца. А Сцяпан якраз параўняўся са мной. І я, не падумаўшы як след, вылез з-за кустоў ды гукаю: «Здароў, Сцяпан». Ён убачыў мяне і стаў, як укопаны.

— Сцяпане, — кажу, — а ці не мае на табе боты?

Я і раней ведаў, што гэты Сцяпан не вызначаўся розумам, а тут ён і зусім здурнеў. Пералякаўся, відаць, ад нечаканасці. Нешта замармытаў сабе пад нос ды як пульне мне ў грудзі гэтым вузлом, што нёс на плячы, і давай уцякаць. Толькі мае жоўтыя боты замільгацелі па дарозе.

Такая мяне агарнула крыўда, што хоць плач. Вось так бы і зароў на ўвесь лес, як ранены лось. Але тут я ўспомніў, што ў маіх руках застаўся Сцяпанаў вузел.

Вузел быў цяжкі, і ў мяне з'явілася надзея, што я там знайду якісь абутак, мо боты, мо саламянкі, мо хоць жаночыя шнуроўкі. Усё роўна што, абы налезла на ногі. Разгарнуў я, значыць, посцілку і дастаю спачатку ваўняную шапку-магерку, услед за ёй жаночы каптурык з вушкамі і кветцістую хустку. І ўсё, як на злосць, для галавы, а не для ног. Але ж там было яшчэ нешта цяжкае? Гляджу... Гэта газавая лямпа з тоўстага шкла. Эх, не пашчасціла...

Памераў я тады з роспачы шапку. Але навошта, думаю, мне тая шапка? Потым каптурык нацягнуў, сяджу, як дурань, галавой матаю. Каб хто ўбачыў, вось бы здзівіліся, — гэта ж нельга мужыку ў жаночым уборы фарсіць... І тут я падумаў: а што калі на адну нагу магерку, а на другую каптурык уздзець? Ногі ўжо не босыя — можна і ў вёску чухаць. Але так мне стала нешта брыдка ад гэтай думкі, што я скруціў усе Сцяпанавы рэчы ў вузел ды і шпурлянуў яго са злосці на дарогу. Каб табе, думаю...

І тут толькі я сцяміў, што можна было з хусткі анучы зрабіць. Але вузел ужо на дарозе, і мне яго не дастаць.

Можа, паспрабаваць паўзці, як той гад?

Я паглядзеў на свае рукі, пачухаў патыліцу і памкнуўся ўжо кульнуцца ў траву, як пачуў нейкія дзіўныя гукі. Спачатку мне здалося, што скавыча сабака. Але праз хвіліну я зразумеў, што гэта чалавек. І ён спявае нешта самотнае. Але ж каб мяне чэрці на кавалкі рэзалі, я б усё роўна не сказаў, што гэта за песня. Мусіць, Гэлькіна каза і то лепей спявае...

Узяла мяне цікаўнасць. Хто гэта, думаю, так позна цягнецца? Сяджу, значыць, чакаю. Але гукі раптам зніклі і стала ціха. Ні спеваў тых, ні крокаў не чуваць. Заснуў ён там ці што? Сядзеў я так хвілін з пяць, а мо з дзесяць, як зноў пачуў спачатку нейкае мармытанне. А потым гэты ліхадзей як грымне «Яся» благім голасам, я аж падскочыў.

Праз хвіліну бачу: ідзе па дарозе, п'яны ў зюзю, мужычок, гадоў пад пяцьдзясят. Здаецца, я яго недзе бачыў, але не магу пазнаць, хто такі. Ведаю толькі, што не з нашай вёскі. Мо з Дубніцы, ці з Петрыкава, а цяпер з шынка дадому чухае. Я ўжо навучаны і першай справай да ног прыглядаюся. А ён, дзякуй богу, не босы, а ў лапцях. От бы, думаю, мне тыя лапаточкі. Я б у вёску збегаў і свае боты ў Сцяпана забраў.

А мужык у той час мяне мінае і бадзёра так, з песняй, ды з усяго маху спатыкаецца аб Сцяпанаў вузел — ды як грымнецца пасярод дарогі! Расцягнуўся і давай лаяцца.

Абрадаваўся тады я. Ну, думаю, галубок, нікуды ты ад мяне не дзенешся — будуць лапці мае! Ды як застагну з усяе сілы, што аж рэха пайшло па лесе. Мужык сціх. Відаць прыслухаўся.

— Гэй!.. Хто там, — кажа, — енчыць?

— Памажы, чалавеча... Ой-ой! Не магу на ногі ўстаць!

Той, відаць, абрадаваўся, што нехта з нагамі сябрук яшчэ горш за яго і давай намагацца. Але ж не так лёгка яму гэта далося. Крахцеў, крахцеў, і нарэшце-такі падняўся.

— Падыдзі да мяне, чалавеча. Памажы... — голас я зрабіў такі жаласлівы, што і дрэва б расчулілася.

Бачу, ён рукі наперад выцягнуў і крочыць да мяне, хістаючыся. Мне аж нейк жудасна стала. Але ж што рабіць, калі сам пазваў? Дабраўся ён такі да майго пагорка.

— Што ў цябе? — пытае, ледзь варочаючы языком.

— Ды вось як скруціла мне спіну. Сяджу, устаць не магу. Дапамажы, чалавеча, калі ласка, падняцца.

Стаў той чалавек мяне паднімаць, а сам ледзь на нагах трымаецца. Я трохі прыпадняўся



**Ну што, жыць будзеш доўга, шчаслівa. Дзетак у цябе трое, больш не будзе. Досыць. Хаця гэтых выгадуй. Пабагацееш, калі старым будзеш, а пакуль — жыві, не думай ні пра што. Кахай жанчын, пі віно, сяброў не забывай. Бо сяброў сам выбіраеш. Памятай.**

— ды і кульнуўся разам з ім на пагорак. Ледзь уніз не скаціліся.

— Не, — кажу, — так мы з табой будзем толькі тузаць адзін аднаго. Трэба табе паспаць крыху, сіл набрацца...

— Ото, так, — кажа, — але ж я дадому іду.

— Чаго табе цягнуцца аж дадому. Пераначуй у мяне. У хату я цябе запрасіць не магу, бо там цеснавата. А ў двары ў самы раз. Вунь, на лаву залазь...

Падпіхнуў я яго на пагорак і прапанаваў разуцца, каб ногі адпачылі. Ён паслухмяна сцягнуў абутак і аддаў мне свае лапці разам з анучамі, каб я іх развесіў на агароджы, а сам скруціўся, як той кот, на пагорку. Пакуль я нацягваў сабе на ногі яго лапці, ён ужо храпеў, як пшаніцу прадаўшы. Я нават не паспеў спытацца, хто ён такі і адкуль.

Абуўся я — і нарэшце адчуў сябе чалавекам. Гэта ж колькі часу тут праседзеў! Ледзь хадзіць не развучыўся.

Падабраў я на дарозе Сцяпанаў вузел. Абмяняю, думаю, яго на боты, калі ён упрэцца аддаваць. Неяк не-па людску — свае боты выменьваць, але што ж не зробіш, абы толькі іх вярнуць.

Іду я, значыць, у вёску, і ціха сабе чмурэю ад асалоды. Вельмі знудзіўся па вясковых хатах, па сялянскім паху і знаёмых гуках. А гукаў мне тут добра хапіла. Як толькі ўвайшоў у вёску, адразу пачалі брахаць сабакі. Відаць, адвыклі ад мяне і не пазналі. Такую вар'ятню ўчынілі — я аж спужаўся, што вяскоўцы прачнуцца. Але нічога, абышлося.

Я вырашыў найперш пайсці да Сцяпана. Але Гэльчына хата знаходзіцца акурат па дарозе, і я не змог яе абмінуць. Моцна, бачыш, па Гэльцы знудзіўся. Падышоў да яе хаты і думаў спачатку ў дзверы пастукацца, а потым успомніў, што яна часта вакно пакідае адчыненым. Дай, думаю, зраблю неспадзяванку, ціхенька ў хату ўлезу, каб пакасытаць ёй нос спрасонку. І хоць за гэта можна атрымаць па вуха, бо Гэлька на руку вельмі скорая, але я так і вырашыў.

Падышоў да вакна. А яно зачыненае. Здзівіўся я. Але стаў калупацца, каб ціха адчыніць. Пакуль калупаўся з шыбай, пачало віднець. Я і забыўся, што цяпер ночы такія кароткія. А ўспомніў, калі пеўня пачуў. Трэ, думаю, назад вяртацца. Нядобра будзе, калі хто мяне ўбачыць.

Вельмі мне не хацелася, але даваўся назад пайсці, не пабачыўшы Гэлькі і сваіх ботаў у Сцяпана не забраўшы. Уздыхнуў я цяжка ды і кінуў вузел у Гэльчыным двары, каб яго назад не цягнуць. Мо заўтра прыйду ды ад Гэлькі яго забяру... І падаўся сабе зваротным шляхам.

Прыходжу назад, а мой госць так і спіць на пагорку з босымі пяткамі. Прыгледзеўся я да яго ўважліва, бо стала святлей. І ўспомніў! Гэта ж Іван Дзежка! Царкоўны староста з Петрыкаўскай царквы. Я яго ў апошні раз бачыў на маіх хаўтурах, калі мяне хавалі... Гэта ж ён, гад, сказаў, што каб нябожчык па начах не цягаўся, асабліва той, хто пры жыцці з вядзьмарствам знаўся, яго трэ босым у труну класці, бо босы ён і кроку ступіць пасля смерці не здолее. Вось я і сядзеў тут, як дурань, столькі часу. Але нічога... Цяпер у мяне Іванавы лапці ёсць.

...Вунь ужо і сцямнела. Пайду да Сцяпана, свае боты забяру. А потым у тых любімых ботах буду ў вёску кожную ноч хадзіць...

# Адольф

Алесь ЕМЯЛЬЯНАЎ-ШЫЛОВІЧ

Валя жыў у Крутагор'і. Ад Мінска кіламетраў дваццаць-дваццаць пяць. Раней ён здымаў пакойчык у вёсцы Дупарава, дакладней, у адным з пяці дамоў, якія засталіся пасля з'яўлення побач мікрараёна з такою ж назвай. Але матэрыяльныя цяжкасці (лёгкасцяў у яго ніколі не было) змусілі пераехаць.

Электрычка адыходзіла праз паўгадзіны. Можна было сербануць гарбаты з нясмачным піражком з вакзальнага буфета. З чаго яны іх толькі робяць? Можа, як той жартаваў: «Вай, свежае мяса! Учора шчэ бегала, гаўкала».

У вагон, як заўсёды такой парой, не ўбіцца. І не дзіва. Са сталіцы дамоў ехалі тыя, без каго яна была б іншай: рабочыя рукі, ногі й галовы. Адзік ледзь знайшоў месца збоку, каб апусціць хоць палову свайго тулава на лаву.

— Пластыр, пальчаткі, шкарпэткі. Пластыр, пальчаткі, шкарпэткі! Купляйце, нядорага.

Жанчына з нібыта заўсёдна прастуджаным і зычным голасам — жывая крама — актыўна рэкламавала тавар. Алкаш за спінай распавядаў сабутэльніку пра нешта з прыватнага жыцця, каля дзвярэй маці спрабавала супакоіць малое, якое раўло на ўвесь вагон. З рэпрадуктара пачуўся неразборлівы голас машыніста.

Праз агульны гармідар і галас Адзік толькі выхапіў, што на некаторых станцыях цягнік не спыняецца, але дзе менавіта — не дачуў. А людзей усё прыбаўлялася. У апошнюю хвіліну, як заўсёды, набіўся паўнюткі вагон. Хтосьці вёз на лецішча рассаду. Красавік жа і пятніца.

«Вось чаму столькі народу! — сцяміў Адзік. — Дачы ж пайшлі ва ўсіх. Во што. Добра, хоць у нас нічога няма, бо тады хоць кладзіся й памірай на тых градах з перцамі ды памідорамі».

— Можа, саступіце месца пажылой жэншчыне? — пачуў Адзік акурат над вухам. Над ім схілілася не старая яшчэ баба, гадоў пад пяцьдзясят, у ярка-бліскучай хустцы. Яна абапіралася на сумку-каляску, а вольнай рукой трымала вялізны пакунак.

Адзік устаў.

— Калі ласка.

Стаяць было цесна і няўтульна, таму ён рэціраваўся ў суседні вагон. Там людзей аказалася не так шмат. Былі нават вольныя месцы. Ён апусціўся на першае, якое знайшоў. Па дыяганалі ад яго сядзеў цыган з падбітым вокам і чорнымі густымі вусамі. Адзік зірнуў на яго. Той усміхнуўся, высканіўшы жаўтавата-шэрыя зубы.

— Далёка едзеш? — запытаў ён раптам.

— Ды не, а што?

— Нічога. Дай руку.

Адзік насцярожыўся і сцяўся.

— Ды не бойся, мы сёння за так гадаем, грошы не бяром. Божы дзень. Дай гляну.

Адзік нерашуча працягнуў далонь.

Смугляк уважліва разглядаў лініі на левай руцэ, потым зірнуў на правую, на абедзьве і адрок:

— Ну што, жыць будзеш доўга, шчаслівa. Дзетак у цябе трое, больш не будзе. Досыць. Хаця гэтых выгадуй. Пабагацееш, калі старым будзеш, а пакуль — жыві, не думай ні пра што. Кахай жанчын, пі віно, сяброў не забывай. Бо сяброў сам выбіраеш. Памятай.

— Забудзеш іх, ага... Як жа ж... Тут сябе хутчэй забудзеш. Да іх і еду.

«Станцыя Энергетык» — прагучала зверху.

— А што, Крутагор'е праехалі ўжо? — расхваляваўся Адзік.

— Дык не спыняецца яна там. Машыніст жа яшчэ ў Мінску гаварыў.

— А каб цябе! — Адзік імгненна падскочыў, балазе сядзеў у канцы вагона, і апынуўся на пероне.

— Цьху ты, — вылаяўся ён. — Ну, Валя!..

Давядзецца ісці праз лес. Кіламетраў з пяць. Дарога была шырокай, Адзік нават сустрэў пару машын. Толькі на пачатку восьмай ён датупаў да Валінай хаты. Пагрукаў. Трошкі пастаяў. Штурхануў дзверы. Незачыненыя. З чаго? Святло не гарэла.

— Валя! — гукнуў Адзік, — ты дзе?

— Тут, — пачуўся нечакана ахрыплы цяжкі голас з пакою насупраць. Валя прамармытаў яшчэ нешта няўцямнае. Адчувалася, што ён быў нападпітку.

— Дзе цябе чэрці носяць, Адольф? Так нядоўга і капыты атрэсці. Прынёс?

— Што?

— Ну пляшку прынёс, кажу? Бачыш, херова мне. Башка гудзе. Дый добра б адзначыць дзень народзінаў твайго цёзкі.

— Якога?

— Ну ты даеш! Такіх людзей трэба ведаць. Гітлера...

— Не ведаю і ведаць не хачу.

— Шкада, ну добра. Значыць, не ўзяў?

— Ты ж знаеш, я год як у завязцы.

— Ай, у зас...цы ты. Хоць чарку за тыдзень не кульнуць, гэта ж, ну... Адно слова — дурань.

— Дык ты мяне паклікаў, каб я табе гарэлку прывёз? — абурыўся Адзік.

— Ой, ну вось толькі не трэба гэтых папрокаў. Цябе паўгода не дазвацца. Увесь час толькі і сядзіш у сваім Мінску. — Валя наўмысна зрабіў акцэнт на гэтым слове. — А на сяброў забіваеш. Як гэта называецца? З табою ж пагаварыць немагчыма толкам. У сацсетках ты не з'яўляешся, пазваню — скідваеш альбо абяцаешператэліць і маўчыш. Кудысьці бяжыш, ляціш, а я тут падыхаю без гутаркі.

— Дык вось у чым рэч? Паразмаўляць яму няма з кім. Я-то думаў, сапраўды канаеш. А нічога, што я адклаў усе справы, вырваўся да цябе, цёгся гадзіну па лесе з электрычкі. А яму пахмяліцца трэба. Бедненькі-гарэтненькі! Паміраe ён! Свіння ты, Валя!

— Дык скаканеш у магаз? На, — ён адлічыў пяць рублёў, — на клімавіцкую хопіць.

— Ды пайшоў ты! Алката. — Адзік выйшаў, пляснуўшы дзвярыма. Шкельцы ў вокнах жаласліва прастагналі на развітанне...

У панядзелак Адольф збіраўся на работу і разважаў, што яшчэ трэба ўзяць з сабою. Кітайская смартфонная класіка перапыніла ягоныя думкі. Тэлефанавала маці Валі.

— Слухаю, — адказаў Адзік.

— Адзічка, гэта Джульета Іванаўна. Добрай раніцы.

— Добрай раніцы. Штосьці здарылася?

— Здарылася. Валя памёр.

— Як?! — Адзік ледзь утрымаў слухаўку. — Мы ж бачыліся ў пятніцу.

— Ну вось, а назаўтра яго не стала.

— А чаму, што адбылося?

— Я ў суботу рана з начной прыйшла, а ён ляжыць ужо халодны. Лекары сказалі — сэрца. А яшчэ гаварылі, што каб выпіў учасна, то жывы застаўся б. Сёння пахаванне. У райцэнтры. Ну ты ведаеш. А другой. Зможаш?

Адзік не ведаў, што адказаць. Па-першае, таму, што не чакаў такога павароту, а па-другое, сёння роўна ў дзве гадзіны ён кроў з носу мусіў быць на працоўнай нарадзе. І адпрасіцца аніяк не выпадала. Смерць блізкага сябра не была прычынай для гэтага.

— Ой, ведаеце, Джульета Іванаўна, у мяне сёння вельмі важная сустрэча, акурат такой парой. Таму не атрымаецца. Даруйце. Я ўжо не паспею нічога адмяніць. Прыміце мае спачуванні.

— Я ведаю, вы апошнім часам мала бачыліся, ды й з Валем цяжкавата было размаўляць, але не думала, што вы настолькі аддаліліся адзін ад аднаго. Што ж, не дык не. Бывай, Адзік.

Адольф яшчэ пару секунд слухаў кароткі зумер, пасля націснуў чырвоную клавішу на экранчыку і паклаў тэлефон на стол.

Чарга перад кабінетам тэрапеўта заканчвалася на другім канцы калідора. Пашанцавала, што лекар патрапіў нармальны усяго за пяць баксаў выпісаў бальнічны. Начальнік, вядома, непрыемна здзівіўся і папярэдзіў, каб не больш за тры дні, бо работы дахалеры.

Адзіку больш і не трэба было. А палове другой ён ускочыў у электрычку. На адной са станцый прастаялі хвілін з дзесяць, чакаючы цягніка, які так і не прыйшоў. На пахаванне ён спазніўся.

— А, Адзік, прыехаў-такі. А як жа твая нарада?

— Не будзе. Прабачце, не паспеў, электрычка затрымалася.

— Ну, хадзі, калі прыйшоў, за стол.

Пасля хаўтур Джульета Іванаўна сказала:

— Характар у яго быў няпросты. І лад жыцця ён сабе абраў, мякка кажучы, не самы прыстойны. Але мёртвых толькі дурні судзяць. Няма чалавека. Валя вельмі сумаваў тут. Цяжка яму было. Ты адзін у яго застаўся з сяброў. Цягаліся, вядома, розныя булдосы, калі ў яго грошы з'яўляліся. Я спрабавала неяк паўшчуваць, ды дзе там... Знікне на тыдзень куды, тэлефон не бярэ. Дык я ўжо і перастала. Хай лепш дома, чым пад плотам. Вох, гора маё горкае ды бяда! — застагнала жанчына і пачала захліпацца.

Адзік абняў яе за плечы. Праз колькі хвілін яна супакоілася, уздыхнула і прамовіла:

— Хадзем, я тут знайшла нешта, думаю, табе будзе цікава.

Джульета Іванаўна выняла з шуфляды запэцканы, пажаўцелы ад часу агульны сшытак.

— Пачытай. Учора рэчы перабірала, і вось... Тут яго вершы. Ён іх нікому не паказваў, нават мне.

Адзік асцярожна ўзяў сшытак і пагартаў.

— Вазьмі на памяць. Хай будзе. Не хачу, каб ён проста ляжаў. Я вершаў не разумею, ніколі не разумела. А ты ж цікавішся паэзіяй, я ведаю.

— Дзякуй, пачытаю абавязкова. Але мне час. Трэба дамоў.

— Можа, застанешся? Куды ты цёмнача пойдзеш?

— Ды не. Яшчэ не так позна. Паспею на дзевяцігадзінную. Паеду. Трымайцеся. Да пабачэння.

Жанчына нічога не адказала. Толькі моўчкі праводзіла позіркам госця.

На пероне нікога не было. Электрычка праз дзесяць хвілін. Давялося мерыць крокамі платформу. Чарговы раз, калі Адзік праходзіў міма калоны, заўважыў варушэнне ў цемры і пайшоў у той бок. На яго жаласліва пазіралі вочкі-гузікі. Чарнявы, з паджарынамі, шчанюк пераступаў з лапкі на лапку і віхляў хвастом. Мужчына пакапаўся ў пакунку, які яму сабралі ў дарогу, і намацаў кіўбасу, адламаў кавалачак і даў сабачку. Той, відаць, даўно нічога не еў, бо праз колькі хвілін ад яе і хвосціка не засталося. Рэйкі загулі, і неўзабаве вялізны ліхтар электрычкі асвятліў станцыю.

— Ну, бывай, прыяцель, — развітаўся Адзік з новым знаёмым і накіраваўся да вагона.

Шчанюк забрахаў і пабег следам. Адзік ужо быў узяўся за парэнчы, але азірнуўся і схапіў сабаку за хіб.

— Дурненькі, ты ж мог пад цягнік трапіць. Што ж мне з табою рабіць? Ну, давай тады сябраваць, Дружок.

Шчанюк паглядзеў на новага гаспадара і смачна лізнуў яго ў нос.




# Няскончаны раман

«Дождж пайшоў у госці», — набраў ён першы сказ свайго, безумоўна, геніяльнага рамана. «Ага, пайшоў і аніяк не дойдзе», — падумалася жартам. На літкурсах не раілі пачынаць твор з апісання надвор'я. Закрэсліў. Пасядзеў яшчэ паўгадзіны. Ён ведаў, што пачатак і канцоўка — самае цяжкое. Сярэдзіна павінна з'явіцца сама па сабе. Так, прынамсі, распавядалі масцітыя шматтомныя ўлюбёнцы Каліопы, воркшопы каторых аўтар наведваў часта.

Малады, «падаючы надзеі» пісьменнік пачаў сноўдаць па пакоі ўзад і ўперад. Праз колькі хвілін гэта надакучыла юнаму таленту. Дзіўна, шмат хто з вядомых апісваў ці распавядаў у інтэрв'ю, як стваралі свае шэдэўры шляхам выходжвання па пакоі ці ў якім-небудзь парку каля дома. Наш герой часова асеў у цэнтры ўлюбёнага горада, якога ён ніколі дасюль не бачыў, але марыў пра яго — і вось, нарэшце, трапіў у літаратурную рэзідэнцыю, дзе можна будзе як след адпачыць і цалкам прысвяціць сябе творчасці. Але, паразважаўшы, ён адмовіўся ад ідэі з праходкай, бо дзеля таго, каб трапіць у бліжэйшы парк, давялося б выбірацца на двор, а гэтага вельмі не хацелася, дажджыла няслаба, дый халодна, ранняя вясна як-аніяк.

Ён адчыніў дзверы і выйшаў на калідор — выдатны, варта адзначыць, быў калідорчык: вузкі, доўгі, з рыпучымі масніцамі. Тое, што трэба — вось дзе можна сапраўды засяродзіцца і выдаць шэдэўр на гара. Падэфіляваўшы так пэўны час, не абы-які літаратар упэўніўся, што калідор — дрэнь і абсалютна не прыдатны для таго, каб нешта стварыць. Патрэбныя думкі аніяк не лезлі ў разбухлую ад эмоцый галаву. Трэба запарыць кавы — гэта дакладна дапаможа. Бальзак толькі так і пісаў: насёрбаецца гарачай арабікі — і вуаля, як кажуць там у іх, — куды захочаш нясі твор — у любым часопісе з рукамі адарвуць. Але спачатку ён напісаў такі некалькі кепскіх, нават безгустоўных раманаў. Ну, не ўсе ж адразу геніямі робяцца!

Пісьменнік пачаў спуск з чацвёртага паверха на першы (і чаму гэтыя дзівакі зрабілі кухню там?). Кавы хацелася да ўсрачкі, таму наш кракадзіл асадкі паскорыўся, каб дасягнуць жаданай мэты.

На кухні нікога не было. Цудоўна, значыць, ніхто не перашкодзіць. Звычайна, тут таўклося шмат народу, які невядома адкуль з'яўляўся і куды знікаў, але шуму было многа. Імбрык закіпаў да немагчымасці доўга. «Гэтак сканаеш заўчасна, не напісаўшы нічога», — падумаў быў незадаволены літаратар, але ягоныя пакуты хутка скончыліся, пачуўся чаканы шчаўчок, і кубак, да паловы запоўнены пахкім субліматам, распусціўся, дакладней, расстаў ад жарснага кіпеню.

Прагнучы хутчэй наталіць духоўную і творчую смагу, бясспрэчна, лепшы ў сваім пакаленні аўтар так апёк паднябенне, што нават пачаў трохі падвываць, але ўсе ахвяры — у імя мастацтва. Пасля таго, як апошняя кропля боскага напою апаўзла на донца, наватар-нонкамфарміст нават зажмурыўся ад задавальнення. «Зараз, зараз прыйдзе і да мяне муза! Зараз, напэўна, яшчэ не падзейнічала. Можа, сесці ў якую-небудзь позу, з тых, што практыкуюць ёгі, напрыклад, у позу лотаса? Заплюшчыць вочы, расслабіць мышцы, каб чакры раскрыліся, а потым закрыліся?»

Праз гадзіну сядзення стала зразумела, што муза сёння загуляла з кімсьці іншым.

«Спатрэбіцца больш моцны стымулятар», — вырашыў празаік-зацейнік. Як ні хацелася б яму выходзіць на вуліцу, але ж давялося апранацца і шлёпаць, мацюкаючыся, па лужах да бліжэйшага гіпера.

Людзей на ка́се было цьма. Ён зірнуў на гадзіннік: чатыры трыццаць тры. Ну лагічна, усе паўзуць з працы.

Выбар, што ўзяць, не стаяў і нават не лунаў у паветры; ён падышоў і цвёрда, як толькі мог, прамармытаў:

— Prašome absentas. Vienas butylkas.

— ??? — прадавачка вылупіла вочы на дзіўнага пакупніка.

— Каварітэ па-рускі.

— А, гэта... — зніякавеў майстра мастацкага слова. — Абсенту мне, пажалуста.

— Абсэнт не прадаваем. — Халодна, як нажніцамі, адчыконіла апошнюю надзею на стварэнне шэдэўру сусветнай літаратуры маладая абыякавая кабета.

— Тада каньяк prašome. Эгзюпяры.

«Ну ўсё, цяпер усё ў маіх руках», — думаў малады і пісучы, ідучы па вільготных вуліцах. Рассякаючы па Віленскай, ён так задумаўся, што не заўважыў раскіданую паўсоль тратуарную плітку. Ужо лежачы на ходніку, ён пачуў моцны пах спіртнога... Апошняя мара на геніяльны твор разляцелася ўдрызг, апошні ратунак выслізнуў, выпарыўся, як трохзоркавы трунак.

Няшчасны і прыгнечаны літаратар, ледзь не плачучы, пашкандыбаў у сваю каморку.

Нішто і ніхто не дапамог беднаму, без сумневу, таленавітаму маладому чалавеку, і нават дождж не прыйшоў у госці.



Фота ŠÁRKA VEINHAUEROVÁ

# Праравацца за межы…



Віктар СЛІНКА

***

I

*Церусіцца сена за санямі.*
*Мяса воўчае — ды на ваўчыны*
*след, —*
*Конь узбіўся, заіржаў, спыніўся.*
*Лейцы ўсё-ткі ты вазьмі, вазьмі,*
*Кажухом закрый сівушны дух,*
*Пра сябе спявай ты сваю песню:*
*«Баба коле дровы, коле дровы,*
*Мерзнуць, мерзнуць пальцы*
*ў мужыка».*
*У нізіне, там, дзе снег глыбейшы,*
*Курапаткам начаваць лацвей.*
*А на ўзгорку снег саням*
*нішчымны,*
*Тыя рэжуць палазамі рунь.*
*Хутка хутар твой адкрые поле.*
*Добра чугу прадзеда надзець,*
*Марыць пра мінулыя часіны,*
*Ганарыцца пачарнелым срэбрам.*

*II*

*У крыві павінна быць шляхецтва.*
*Коннік з месца возьме наўскапыт.*
*Толькі вось скажы —*
*пры чым тут ты?*
*Гэтага не ведаў Караткевіч,*
*І шчаслівы, што не ведаў ён:*
*Тыя паркі, восеньскія паркі,*
*У якія праз пяцьсот гадоў*
*Прыйдуць юнакі — і іх дзяўчаты,*
*Забіраць з сабой захочаш ты.*
*Гэта значыць — звесці ўсё*
*да дрэўца.*
*(Не абавязкова ўласнаруч.)*
*З нашае аб'яўяцца крыві*
*Толькі прывіды — блукаць*
*у змроку?*
*Кожны дзень — ужо не дзень*
*шчаслівы*
*Твой, не зваяваны шчэ нікім,*
*А — маскальскі паслугач.*
*Навечна?..*
*Помніш ты: паліла маці сшыткі*
*Па дарозе ў школку — ад ваўкоў?*
*Помніш ты, як «Рабінзона Круза»*
*Ты па-беларуску прачытаў?*
*Ці жадаць табе, каб тая зграя*
*Сёння сані запыніла тут?*
*Мне адно твайго гнядога шкода:*
*Мала еў духмянае травы.*

***

*Як будзем зберажонае лічыць*
*За знойдзенае, знойдзенае —*
*лішнім,*
*Саміх сябе — ацтэкамі і мая,*
*Паветра смак — за найвялікшы*
*дар, —*
*Ці здолеем хаця б засведчыць лёс?*
*Калі з хадуляў мы саскочылі —*
*чужых! —*
*І зможам не зрабіцца ў рэшце*
*рэшт*
*Размоклым лісцем у каналах*
*чорных, —*
*Тады нас болей не пераканаць,*
*Што лепш за ўсё распальваецца*
*ў печы*
*Сухім і даўганосым Бураціна,*
*І што з сабачай місы*
*шмат лацвей*
*Для ўмацавання еднасці*
*й братэрства*
*Таксама есці і гаспадару.*
*О, Праўда! Прывялі цябе ізноў,*
*І скручаная дротам*
*далікатнасць,*
*Пяшчотнасць рук тваіх*
*несправаваных, —*
*Цяпер яны без клопату*
*тым больш?*
*А мы — гульцы; ніхто з нас*
*не паспеў*
*Да той калоды з рукава дадаць*
*Надзеяю і шчырасцю краплёны,*
*Бяспройгрышны і вырашальны*
*туз.*

***

*Калі радасці альбо*
*нягоды*
*выраўняюцца ў адну*
*лінію і паўстануць*
*між табою і светам*
*горным хрыбтом,*
*зведаеш:*
*весці падлік — страчваць дары,*
*таму што*
*занадта блізка,*
*каб там магло быць*
*нешта яшчэ,*
*злучаны між сабой*
*спарон з насалодай,*
*драўніна і попел,*
*джала і мёд.*
*Але ж — ёсць:*
*душа немаўляці,*
*поўныя кошыкі садавіны*
*і смак,*
*што вядзе ўсё далей*
*ад жыцця — да жыцця.*

*А ў выніку*
*маем адно:*
*кранальная недатыкальнасць*
*намнога бліжэй*
*да ліпкага бруду,*
*чым здольны падумаць*
*мы, бо*
*паміж імі стаіць*
*толькі маленькі цвыркун*
*са сваёю скрыпкай*
*у каморцы таты Карла,*
*а гаспадар*
*глядзіць на палена,*
*выбіваючы*
*патухлую люльку*
*на негабляваны стол.*

**Раздарожны камень**

*Праравацца за межы — і слухаць*
*Самотны блюз*
*Альбо*
*Галаву прасунуць*
*У прамавугольнік*
*Пюпітра,*
*Прывязаць да падстаўкі ногі*
*І гэтак паўзці*
*Да Бога Музыкі?*

*Здзівішся*
*Невымерна, як уведаеш,*
*Што гэта — у адзін бок.*

***

*Спаткацца —*
*Не значыць*
*Нешта ўзнавіць*
*Альбо вярнуць.*

*Рэстаўраваны будынак*
*Канцэртнай залы, —*
*Цяпер там нішто не помніць*
*Нашага пацалунка.*

*Але можна*
*Ствараць*
*Сваю музыку ў кожным дні*
*Не паасобку — разам,*
*І кропка — кропка апоры,*
*Працяжнік — працяг.*

**Паэзія-3**

*…Адмыкае вам дзверы адчай,*
*Але й радасць…*
*Ды розныя дзверы.*
*Хатай крэўнікаў*
*Твой гарадскі неўпрыкмет*
*Сагрэты пакой.*
*Прадзедаў разгарні жыццяпіс,*
*у якім —*
*Ні распушчаных нерваў,*
*Ні юродства, а праца адна:*
*нешта сам —*
*І гуртом, талакой.*

*…Гэты голуб лясны — і гняздо,*
*вуркатанне*
*Над раем птушыным,*
*І ў салатавай камізэльцы —*
*сінічка*
*Ля лаўкі ў нагах;*
*Так праходзіш двары —*
*і ў чарговым заўваж*
*Зацвітанне шыпшыны,*
*Крок дзявочы пазнай, траўня*
*подых*
*Адчуй, — на ейных губах.*

*…Перабелены верш!.. Мо ён ведае*
*Смутку і шчасця вытокі…*
*Праз цябе працякуць —*
*стануць роднымі? —*
*Існыя плыні… ды токі…*
*Вось — закінуты парк…*
*Дрэмлюць дрэвы*
*Над чорнай жывою затокай.*

***

*Пройдзеныя сцежкі абміні.*
*Дыхай глыбей — і радзей.*
*Так не заведзена між людзьмі,*
*Але…*

*Лесу сіло*
*Ды выгін ракі.*
*Тхне ад згарчэлых балот*
*Доляй такой, пахам такім, —*
*Да твару… зношаны бот.*

*Гэта — не трэба*
*І тое — не,*
*Мовіш на ўсё і для ўсіх.*
*Толькі сабе, калі ты ў цане,*
*Заўсёды «так» — назусім.*

*…Сам жа*
*Вечна застанься*
*Цаной,*
*І — перад тварам сваім;*
*Покуль майно не зглумілі лайном,*
*Ды слова і дух —*
*На дым.*

***

*Твой голас — голас з табой;*
*Мэта ў разрывах туману.*

*Справа — бетон і жалеза: слупы,*
*Сетка-рабіца паміж імі;*
*Злева — тыя ж слупы*
*І — гіпсакардон.*
*Пад нагамі — асфальт,*
*З краю вышчарблены*
*Не людзьмі*
*І не часам, — будоўляй.*
*Спуск — павольна-пахілы;*
*Марудная роўнядзь; потым —*
*Прамежкі-прыступкі.*
*Маці й дзіцёнак цябе абагналі.*
*Нехта ж, лішак маючы*
*вольнага часу*
*І недахоп глуздоў,*
*Ад камля — да сярэдзіны росту*
*прыдурка*
*Акорыў жывую алешыну,*
*агаліў яе ствол;*
*Тая й засохла.*
*…Справа — дзіцячы садок,*
*Злева — нейкі вайсковы*
*[амаль што турэмны]*
*Будынак.*
*І — вострa*
*Пахне стрыжань асадкі*

*У тваёй руцэ.*

***

*Н. К.*

*Поруч — повязь, і повень ракі;*
*А дарункі рассыпаны ў сюжах?*
*Вы — сабралі іх, а скразнякі*
*Не адзенуць у лёд калюжын.*
*Гэтак собіла Вам — душой*
*У двары прытуляць каменьчык*
*І сабою, нібы мяжой,*
*Аддзяляць ад пакуты меншых.*

***

*з яшчэ не пажоўклай лістотай*
*свецяцца вербачкі ў атачэнні*
*дарослых чорных апалых*
*дрэў захварэлых на ломкасць*
*галін*
*лішайнік і мох на ствалах*

*што́ вам нагрукала сэрцам лета*
*о вербачкі*
*а да таго вясна*
*калі вы здольныя так?*
*ведаю толькі адно:*
*добра мне тутака з вамі*
*і вы не дарма*

*плямамі снег па целе тваім*
*восеньскі парк-леапард*

***

*жанчына косы распляла*
*адклала грэбень*
*і воўну чэша*

*амаль да столі лыжы дастаюць*
*а стрэльба — да пляча гаспадара*
*(усё гэта ў маленькай прыбудове)*
*ды за сцяной — паветра вышыня*
*з васьмі акенцаў пазірае лёд*
*застылы ладан*
*захоўваюцца ветразі ў царкве*
*так толькі ўзімку*
*ёсць*
*такі закон*
*закон які зацвердзіў*
*Гулацінг*

# Вясновы Парыж

## Падарожныя замалёўкі



Адам ГЛОБУС

### Небяспечныя рэчы

На даглядзе ў аэрапорце паставілі апарат «Рукі ўгору!». Я так яго назваў, бо цяпер трэба высока ўздымаць рукі, калі цябе скануюць. Папярэдзе мяне тры разы ўздымаў рукі чалавек з Закаўказзя. Ён абураўся тым, што трэба здаваць металічныя грошы. Чамусьці яму было шкода расстацца нават на кароткі час са звонкімі манеткамі. Калі ён з трэцяй спробы прайшоў «Рукі ўгору!», яму ветлівыя даглядчыцы паведамілі, што ў сумцы маюцца забароненныя рэчы. Іх трэба або здаваць у багаж ці выкінуць. Чалавек з Закаўказзя напружыўся. Ён перапытаў, і яму паўтарылі пра забароненыя рэчы. «Якія канкрэтна рэчы я павінен здаць у багаж?» — «Відэлец!» — жорсткім голасам сказаў даглядчык. Пачуўшы пра відэлец, я страціў цікаўнасць да небяспечнай валізы чалавека з вечна праблемнага Закаўказзя.

### Дождж

У Парыжы і шэры, і дробны, і бясконцы дождж прыносіць радасць. Бо ён спакойны. Бо не сёння дык заўтра спыніцца ягоная падманная бясконцасць. Бо шэрасць у яго празрыстая і срэбная. Бо ён — парыжанін.

### Пабла Пікаса

Пачынаць падарожжы па музейным Парыжы варта з галерэі Пабла Пікаса, вядома, калі ў душы ты — мастак.

Натуршчыкі і асабліва натуршчыцы Пікаса нават на фотаздымках падобныя да карцінных вобразаў. Разглядаеш фотапартрэты натуршчыкаў, і складаецца адчуванне, што іх зрабіў сам Пабла Пікаса. Зусім іншае адчуванне пакідаюць карціны, у іх няма моднай фатаграфічнасці. Ёсць падабенства, ёсць жывапіснасць, ёсць графічнае рашэнне, але няма фотадакументалістыкі. Нават дзіву даешся, што яе няма.

Пікаса ў Парыжы госць. Ён прызнаны і паважаны, ён агульнавядомы і ўсімі любімы, ён блізкі, але не свой. Пікаса арганічны ў Барселоне. Там ён натуральны, нязмушаны і трагічны. У Парыжы Пікаса працаўнік, у Барселоне — малады чалавек поўны веры ў сваю зорнасць. У Парыжы Пікаса адзін са шматлікіх геніяльных мастакоў, а ў Барселоне ён найвялікшы з вялікіх. У Парыжы свой — Селін, а не Пікаса.

На палотнах і малюнках Пікаса шмат чытачак. Хацелася б верыць, што яны зачытваюцца вершамі. У чалавечым свеце зашмат жорсткасці і замала лірычнасці. Таму я веру ў тое, што чытачкі Пабла Пікаса зачытваліся верлібрамі Гіёма Апалінэра.

### Парыж і прэзідэнства

Прэзідэнт Францыі? Не гучыць! Кароль Францыі — гучыць! Яшчэ як гучыць. Пераканаўча гучыць. Як і «Рускі цар!» — гучыць. Прэзідэнт СССР — малапрыстойнае нешта, аднаразова-кандомнае. Прэзідэнт ЗША — ідэальна гучыць. Канцлер Германіі — ідэальна. Султан Брунэя — ідэальна. Англійская каралева — ідэальна. Папа Рымскі — ідэальна. Я ўсёй душой за дэмакратыю, за сумленныя выбары, за адукаваны свет. І ўсё ж… Прэзідэнт Францыі — не гучыць, а хочацца, каб гучала, каб у словах і дзеяннях была гармонія. Гуляю па вясновым Парыжы, горад рыхтуецца да выбараў, французы зноў пойдуць галасаваць за новага кіраўніка дзяржавы, яны выберуць сабе прэзідэнта ці прэзідэнтшу… І ўсё ж… Не гучыць.

### Майстэрня над Сенай

Мне давалі званне «парыжанін на тры месяцы», а я сціпла пагадзіўся на адзін. Трэба паспрабаваць, а раптам не прыжывуся. Прыжыцца ў Парыжы не так і проста. Калі ў цябе няма вялікіх запатрабаванняў, можна і пад мостам пажыць, але я не з такіх. Беспрытульнік — не мой вобраз. Мне далі ў Парыжы прытулак. Між іншым, выдатны прытулак. Далі майстэрню не горшую, чым я маю ў Мінску. Высокі паверх, шмат святла, з гаўбца відаць Сена. У Мінску мне страшэнна не хапае ў майстэрні гаўбца, а тут і гаўбец, і рэчка, і краявіды казачныя за вакном. Такая правільнасць паўсюль і ва ўсім, што нават малюваць страшнавата. Не ведаеш, з чаго пачынаць. Добра, што наконт літаратуры была папярэдняя прапісаная дамоўленасць: абяцаў напісаць парыжскія казкі. А малюнкі? Намаляваў кубак з чорнай каваю. Майстэрня без кавы — не майстэрня. Пакуль маляваў кубак кавы, прыдумаў першы мастацкі ход: буду маляваць у Парыжы за тых сваіх сяброў-мастакоў, хто ў Парыж не даехаў. Хацеў — і не атрымалася. Памалюю за Мішу Нацэўскага, за Юру Яўменава, за Мішу Пракоф'ева… З імі мне будзе не так сумна аднаму на гаўбцы, над Сенаю.

### Мовы і Парыж

Парыж — горад, у якім усе мастакі жывуць з дзяцінства. Яны ходзяць у Луўр, яны гадзінамі разглядаюць вітражы ў саборах, яны разам з Шардэнам пішуць нацюрморты і побач з Радэнам малююць аголеных натуршчыц, з Пабла Пікаса яны робяць адкрыцці, а з Жоржам Бракам вучацца прадаваць малюнкі як даражэй… Ты мне скажаш: «А мова? На якой мове размаўляюць твае мастакі, калі з дзяцінства яны жывуць у Парыжы?» Адкажу… Ну якая мова ў мастака? Пляма, кропка, лінія ды рыска. Вось і ўся яго мова.



### Папяровыя шклянкі

Парыж вярнуўся да папяровых пакетаў і папяровых аднаразовых «шкляначак». Замест пластыка французы зноў выкарыстоўваюць кардон. Прыемна… Усё прыемна: і глядзіцца добра, і ў руках трымаеш з асалодаю. Нават папяровая «склянка» з дармовым супам у руках бяздомнага выглядае добра. Так добра, што ажно самому захацелася пакаштаваць той дармовы суп. Спыніўся і паразглядаў парыжскіх жабракоў. Скажу, што апрануты яны лепей за мінскіх валацуг. Як і ў Мінску, у Парыжы большасць вулічных людзей — старыя, зарослыя барадамі мужчыны. Як і мінскія бадзягі, парыжкія бадзягі любяць кардон і паперу. Любоў да паперы ў мяне — агульная рыса з вулічнымі людзьмі ва ўсім свеце.

### Выстава

У парыжскай майстэрні развесіў выставу малюнкаў. Каб раней, дык выпіў бы гарэлкі, а так наліў сабе ў шклянку газаванай мінералкі з мятай. Мінералка «Пер'е» — выдатны напой. Вада багоў. Жан-Поль Сартр казаў, што «Пер'е» мае металічны прысмак. Так і ёсць, з мятай у вады прысмак халоднага металу, прысмак халоднай рыцарскай зброі. Карацей, я гэта зрабіў: займеў маленькую персанальную выставу ў сталіцы мастакоў, у Парыжы. «Цяпер, — як некалі казаў мой тата, — усе зайздроснікі хай зробяць стойку на галаве!» Засталося прыдумаць назву для выставы… «27 малюнкаў Адама Глобуса» — думаю, лепей і не трэба.

> **Прэзідэнт Францыі? Не гучыць! Кароль Францыі — гучыць! Яшчэ як гучыць. Пераканаўча гучыць. Як і «Рускі цар!» — гучыць. Прэзідэнт СССР — малапрыстойнае нешта, аднаразова-кандомнае. Прэзідэнт ЗША — ідэальна гучыць. Канцлер Германіі — ідэальна. Султан Брунэя — ідэальна. Англійская каралева — ідэальна. Папа Рымскі — ідэальна**

### Ван Гог і парыжскае сонца

Каб я меў здольнасці такія, як у Ван Гога, дык абавязкова напісаў бы чырвона-залатое сонца над вечаровай Сенай. Можа, Ван Гог і напісаў падобны краявід. Хутчэй за ўсё, ён яго зрабіў. Я нават пераканаы, што тэмпераментны галандзец, стоячы пасярод Парыжа, пісаў сонца над рэчкай, пісаў мост, пісаў Нотэр-Дам… Шкада, што з парыжскага перыяду, які адбыўся ў творчасці Вінцэнта Ван Гога, мала што захавалася. Але гэта не перашкаджае мне любавацца вечаровым Парыжам, спынацца і ўяўляць, як гэты ці той краявід мог напісаць рудабароды геній.

### Свечка

У касцёльнай цішыні запальваю свечку. Самую танную. Не думаю, што Хрыстос будзе лічыць грошы, ахвяраваныя на свечкі. Можа, Ён і свечкі не лічыць. Не важна… Мне прыемна запаліць свечку ў цішыні парыжскага пустога касцёла. Запальваеш, ставіш пад гіпсавую Дзеву Марыю, думаеш пра бацькоў-нябожчыкаў. Што можа быць больш маім за згадкі пра бацькоў у прасторным і ціхім касцёле? Бадай, нічога.

### Спробы

У Парыжы добра відаць, як іншыя гарады рабілі спробы стаць падобнымі да яго. Спрабаваць спрабавалі, але не сталі яны Парыжамі. Не стаў Парыжам Амстэрдам, не стаў Пецярбург, не стала Варшава… Падобныя спробы варта ўхваліць, а не ганіць, бо менавіта ў Парыжы нарадзіліся вялікія архітэктурныя стылі. Тут зазіхацела ракако, тут паўстаў ампір, тут расквітнеў рамантызм і тут узнік мадэрнізм. Нават самы найкарацейшы пералік зробленага ў Парыжы ўражвае і будзе яшчэ доўга здзіўляць разумную частку чалавецтва.

### Холад і Нотэр-Дам

Выйшаў з майстэрні, каб памаляваць вялікі сабор з натуры. Прагноз прарочыў кепскае надвор'е. Надзеў я куртку і шапку. Выйшаў да Сены, стаў і малюю. Вецер вырывае паперу з рук. Халодна і сыра. Вось-вось з нізкага неба пасыплецца напрарочаны сіноптыкамі дождж. Тут я заўважыў, што ў Нотэр-Дам няма чаргі. Зазвычай, на прысаборным пляцы ляжыць даўжэзная змяюка чаргі, а тут — пусты пляц. Я прыспешыў хаду. Забег у сабор. Стаю пад скляпеннямі і адчуваю, што на мяне ўсе недабразычліва паглядаюць. Хай сабе! Мне што? Узняў я галаву, каб вітражнай ружай палюбавацца, тут і адчуў, што на галаве маёй сядзіць шапка. Зайшоў у Нотэр-Дам і так расхваляваўся, што на шапку забыўся. Зняў я шапку. Схаваў яе ў кішэню. Падумаў, каб я працаваў у Нотэр-Даме, дык працаваў бы ў шапцы. Прахалодна ў саборы. У час службы я шапку здымаў бы, а так, калі ніхто не бачыць, сядзеў бы з галавой у цяпле.

### Гюго і пахаванне

Наведаў музей Віктора Гюго. Выйшаў з яго са змрочным настроем. Самае гнятлівае ўражанне пакінула спачывальня раманіста. У ёй Гюго памёр. Стаіш у змрочна-чырвонай маўзалейнай спачывальні і пераносішся ў дзевятнаццатае стагоддзе, у час смерці рамантыка.

Працяг на стар. 16 (10) »

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 2 (138) | 23 лютага 2018 | № 6 (569) Новы Час

Ягонае спакутаванае цела толькі што вынеслі з пакоя — хаваць, а ты тут застаўся і невядома нашто стаіш у здранцвенні. Наглядчыкі ў музеі маюць таксама нейкі ўрачысты і пахавальны выгляд. Яны ўсе ў чорным, і такое ўражанне, што крыху п'яныватыя. Яны такія, якім і трэба быць на пахаванні. Адным словам, я ішоў у музей, як на свята, а трапіў на ўрачыстае пахаванне найвялікшага з рамантыкаў.

## Параўнанні

Беларуская літаратура, прынамсі, яе лепшая частка — песенная і казачная, беларускія казачнікі і паэты сквапныя на словы і шчодрыя на паўторы. Французская літаратура шматтомная, шматраманная і шматслоўная. Французы любяць доўгія сказы, яны нават кароткую літаратурную форму называюць максімай.

У беларусаў сасіскі таўшчынёю з вялікі мужчынкі палец, а ў французаў сасіскі худыя, як алоўкі, але смачнейшыя (зрэшты, калі добра пашукаць, можна і ў французаў знайсці сасіскі таўшчынёю з вялікі палец).

Беларускія міліцыянты пачалі з'яўляцца на вуліцах з аўтаматамі, французскія паліцыянты таксама разгульваюць па вуліцах Парыжа з аўтаматамі ў руках, а яшчэ ў Парыжы паліцыянты ездзяць на роварах, а ў Мінску я яшчэ не бачыў міліцыянтаў на роварах, здаецца ж, быў у нас велазавод, маглі б ужо і мы пасадзіць міліцыянтаў на два колы.

Беларус можа прылегчы на гарадской лаўцы, каб хвілінку адпачыць. Ён ведае пра рызыку атрымаць заўвагу ад якога амапаўца ці міліцыянта, але стома бывае такой неадольнай, такой свінцовай, такой сонаствааральнай, што беларус пераадольвае страх і кладзецца на лаўку. Французу з гэтым лягчэй, француз можа спакойна легчы на любую гарадскую лаўку, можа легчы на парыжскі ходнік, можа нават у гамак легчы і пазіраць з таго грамадскага гамака на Нотэр-Дам.

Беларус пад сваімі беларускімі мастамі праспешвае хаду, нават пад сталічнымі мінскімі мастамі мы праходзім як хутчэй; пад парыжскімі мастамі наадварот адчуваеш утульнасць, так і хочацца там спыніцца і застацца, шмат хто і застаецца, і жыве.

## Панядзелак

Лежачы ў парыжскай студыі, падумаў, што на свеце ёсць месцы, дзе заўсёды толькі адзін дзень на тыдні — нядзеля. На беразе Чорнага мора, у горадзе Сочы, для ўсіх, хто ў ім знаходзіцца, ёсць толькі нядзеля. Для адпачыннікаў гэта вольная, поўная красамоўных водараў нядзеля, для астатніх — нядзеля працоўная. Падобныя нядзелі ёсць і ў Сіцазе, што пад Барселонаю. Пэўна, ёсць яшчэ іншыя месцы на зямлі, дзе насуперак календарам штораніцы пачынаецца нядзеля. Такім месцам некалі была Ялта... Мне казалі, што была, бо сам я па той Ялце пахадзіў у дзяцінстве толькі паўдня на экскурсіі. У беспрацоўных і адпачыннікаў нядзеля сем дзён на тыдні наўпрост тамака, дзе яны знаходзяцца. З мастакамі зусім іншая сітуацыя. У мастакоў няма ніякіх выходных, як іх няма і ў паэтаў. У мастакоў сем дзён на тыдні працоўны дзень. Так і ў мяне ў парыжскай студыі ў нядзелю — панядзелак, і заўтра — у панядзелак будзе зноў панядзелак.




## Норы

Штодня я спыняўся каля пацучыных нораў і з замілаваннем, інакш і не скажыш, назіраў за вясёлымі гульнямі парыжскіх пацукоў. Ну дзе ты яшчэ такое дзіва пабачыш? Адкажу! Там, дзе няма вулічных катоў і сабак. Каб у Парыжы гулялі вулічныя сабакі і каты, дык пацучыная вольніца імгненна скончылася б. Так, у вялікім дзесяцімільённым горадзе няма вулічных катоў. Іх адлоўліваюць. Такі ж лёс і ў сабакі, які застаўся на парыжскім бульвары без гаспадара. Ад падобнай здагадкі мне зрабілася так сумна, што я, замест таго, каб ісці ў Луўр, пайшоў у заакраму. Наглядзеўся я тамака на катоў па 2000 еўра, на какаду за 2690, на марскіх парсючкоў па 39... Па краме разгульваў чорна-белы мардаты кот, якога можна было нават пагладзіць. Другі кот грэўся, лежачы на цёплай накрыўцы акварыўма з чырвонымі рыбкамі. А вось пацукоў у заакраме я не пабачыў. Звычайна ў падобных крамах заўсёды прадаюцца белыя пацукі, а тут не было, але праз гэта не замаркоціўся. Галоўнае: я нагледзеўся на парыжскіх катоў і сабак.

## Языкі

Убачыў жабрака з высалапленым языком. Бліскуча-ружовы шырокі язык звісаў з ніжняй губы і ляжаў на пароcлым шэрай шчэццю падбароддзі. Жабрак мяне ўразіў, бо арганічна дапаўняў мост каля Нотэр-Дама. Праз паўгадзіны на вуліцы Рывалі я сустрэў старую ў бэзавым капелюшы. Яна аблізвала вострадзюбым языком пасінелыя вусны. Праз дзень каля Ратушы я пабачыў яшчэ аднаго старога з высалапленым языком. У Мінску я не сустракаў людзей з такой хваробаю. Можа, у нас холад мацнейшы, можа, нашы маразы прымушаюць людзей трымаць языкі за зубамі, а можа, нашы людзі не дажываюць да такой хваробы, калі язык з рота пачынае вывальвацца...

## 5 еўра

У недарагой ангельскай краме прыдбаў сабе новыя цёмна-сінія нагавіцы. Парыжане любяць апранацца ў цёмна-сіні. Каб не вылучацца ў сваіх вайскова-зялёных нагавіцах, я памяняў іх на сінія. Пяць дзён прахадзіў у сініх, а потым дзеля простай разнастайнасці зноўку надзеў зялёныя. Якая была радасць — знайсці ў старых нагавіцах 5 еўра. Здавалася б — 5 еўра не вялікія грошы, а знаходзіш іх у кішэні старых нагавіцаў і радуешся напоўніцу. Некаму падобная знаходка падасца неістотнай, а мне дык і такія 5 еўра ўзнялі настрой. Цяпер думаю... На што іх пусціць? На паперу для малявання ці на цюбік чорнай фарбы? Думаю, што пушчу на шчыльную, фактурную, белую паперу.

## Мінчане і парыжане

Мінчанін часцяком шморгае носам, бо халодныя дажджы і вірусы надоўга не пакідаюць нашу сталіцу; парыжанін пакашлівае, бо паветра ў Парыжы, што б мне хто не казаў, — жорсткае.

Мінчанін не толькі сам чакае на скрыжаваннях зялёнае святло, ён яшчэ і асуджае ўсіх тых, хто таго святла не можа дачакацца. Парыжанін можа перабегчы вуліцу пад чырвоным светлафорам, ён яшчэ можа выпіць шклянку чырвонага, сесці пасля гэтага за стырно аўтамабіля і спакойна паехаць на чырвоны светлафор.

Мінчанкі паселі на ровары; глядзіш на іх і радуешся, бо жанчына на ровары выглядае эратычна. Парыжанкі вакол Луўра і Гранд-Оперы ездзяць на самакатах, жанчына на самакаце маладзее. Можа, мне гэта толькі падалося, што маладзее жанчына на самакаце, але калі сонца, калі лёгкі ветрык, калі яна ляціць па гладкім і чыстым асфальце — яна і сапраўды адчувае сябе маладой і прывабнай.

Мінчанкай быць лёгка; прыехала ў беларускую сталіцу, пасялілася, і ты — мінчанка. Большасць мінчанак думаюць, што яны і беларускі, а гэта не праўда. Падобнае і з парыжанкамі: прыехала, пасялілася і стала парыжанкай. Так і ёсць. Самая знакамітая парыжанка — Мона Ліза. Усе яе ведаюць, усе парыжанкі забягаюць да яе павітацца. Ліза ўсміхаецца. Вядомая непадробная чароўная ўсмешка парыжанкі. Толькі Мона Ліза не францужанка. Яна столькі часу пражыла ў Парыжы, а нават слова па-французску не сказала. Парыжанка можа цэлы век пражыць без французскай мовы, а ў францужанкі і адзін дзень без роднай мовы не пачнецца.

Мінчанка не пачне, седзячы пасярод касцёла, размаўляць па сотавіку. У Парыжы я на свае вочы бачыў і чуў, як у касцёле святога Луі жанчына гучна і радасна гаварыла ў тэлефон. Сувязь была добрая. Парыжанка зусім не спяшалася скончыць размову. Дзякуючы цудоўнай акустыцы я чуў і разумеў (!) яе кожнае слова, парыжанка гаварыла па-польску.

## Віно

Парыж пахне віном. Смачным, духмяным, вінаградным напоем дыхае на цябе вуліца, поўная кавярняў і рэстарацый. Ідзеш і хмялееш ад вінных пароў, ад вясны, ад вечаровага вінаколернага сонца... Мінск ніколі не пахне віном. Нават мінскія вінзаводы пахнуць толькі яблыкамі ды бражкай. Каля вінзавода, што некалі стаяў на вуліцы Прытыцкага, прайшло маё школьніцтва. Я выдатна памятаю восеньскія водары антонаўкі. Цэлыя горы спелых яблык ляжалі на пляцы пасярод шэрых карпусоў. Яны пахлі мёдам і вёскай, але яны не пахлі віном. У Мінску шмат смачных водараў. Пякарні моцна пахнуць свежым хлебам. Каля бровараў стаіць такое смачнае паветра, што здаецца, яго трэба есці лыжкай. Марозныя мінскія ранкі пахнуць спіртам. Да сваіх мінскіх водараў я даўно прывык, праходжу і не адчуваю. Галава занятая іншым. У Парыжы я магу крыху і адпачыць, і спыніцца, і пастаяць у вінным, п'янкім, чыста французскім водары.

## Пустышка на асфальце

У Парыжы столькі ўсяго вялікага і значнага, запамінальнага і ўрачыстага, пафаснага і галавазакрутнага, што губляешся, у які бок ісці. І леваруч, і праваруч, і наперадзе цябе чакаюць сустрэчы з неверагодным і невераемным. Таму ты і глядзіш на ходнік. Глядзіш пад ногі. Глядзіш і бачыш пустышку на асфальце. Зграбная зялёна-блакітная пустышка з белай шаўковай стужачкай, такая яна чыстыя, што хочацца ўзяць гэтую пустышку. Не бярэш — і крочыш далей да манументальнага і залатога, да высокага і прасторнага. Ідзеш і згадваеш нейкую драбязу, накшталт таго, што чэлес па-парыжску — зізі. Ты чуў, як знаёмы хлопчык Клод сказаў свайму сябруку Жану, што ў ягонага таты вялікі зізі. Жак не разгубіўся, ён адказаў Клоду з гонарам, бо ў ягонага таты да вялікага зізі ёсць яшчэ і вялікі жывот. Ты ў Парыжы, трэба думаць пра Паскаля і Мантэня, а ты думаеш пра пустышку і чужыя зізі. Ты амаль што пачаў думаць пра Паскаля, калі пабачыў жанчыну з чорнымі кучаравымі бакенбардамі. Замест таго, каб згадваць Паскалеўскія афарызмы, ты не можаш забыць жаночыя бакенбарды. Ты пра іх думаў бы яшчэ доўга, каб не пабачыў бабулю, якая круціцца вакол дзіцячага вазка. У вазку, як на троне, сядзіць таўстун. Гэта ён выплюнуў пустышку на парыжскі асфальт. Гэта ён давеў мне, што нічога больш важнага за ягоную пустышку ў вялікім горадзе няма.

## Гарачыня

У Парыжы такая гарачыня, што ў шмат якіх гарадскіх фантанаў у горле паперасыхала.

## Цыбульны суп

Да мяне ў студыю завітаў жывапісец Раман Заслонаў. Пасля адкрыцця сваёй выставы на Венецыянскім біенале Раман вырашыў крыху адпачыць і пагуляць па травеньскім Парыжы. Мы пахадзілі па маляўнічым яўрэйскім раёне Марэ. Пазаглядвалі ў розныя дарагія і танныя крамы. Да нашай кампаніі далучыўся сын Рамана — Піліп. Мы пачалі абмяркоўваць рэстарацыі. Наш выбар спыніўся на традыцыйнай французскай рэстарацыі «Філосафы». Там Раман і пачаставаў мяне цыбульным супам. Варта зазначыць, што ў Парыжы трэба абавязкова пачаставацца цыбульным супам. Я не гурман, але французскі цыбульны суп, з'едзены ў рэстарацыі «Філосафы», зрабіў на мяне вялікае ўражанне, амаль такое, як і калаж Анры Матыса «Маркота караля». Ты можаш абурыцца... Дзе той суп, а дзе Матыс? Такія рэчы нельга параўноўваць! Не параўноўвай. Я наогул сумняваюся, што ты бачыў «Маркоту караля» ў арыгінале. Ха-ха! Карацей, суп быў выдатны. Мая жонка, якая далучылася да нас у «Філосафах», замест супу замовіла сабе салату з бураком. Салата была самая звычайная, а цыбульны суп мяне пацешыў. У юнацтве я чытаў, што скульптар Радэн любіў і штодня еў цыбульны суп. Цяпер я выдатна разумею Радэна. Пасля вячэры мы схадзілі на востраў Святога Луі. Раман спытаў: «Трыццаць гадоў назад ты мог сабе ўявіць, што цябе запросяць пажыць і папрацаваць у Парыж, што ты праедзеш сюды, а тут у Францыі буду жыць і працаваць я, што мы з табой будзем гуляць каля Сены і глядзець на Нотэр Дам? Мог?» Раману я сказаў, што не мог. У маладосці, калі мы разам з Раманам вучыліся ў інстытуце, я і сапраўды не мог такую карціну ўявіць, але ў таемным кутку душы я на такое спадзяваўся і верыў, што нешта падобнае са мной здарыцца і я пакаштую ў Парыжы цыбульны суп.

## Ножык

Чым больш у цябе жаданняў, тым больш праблем і непрыемнасцяў. Думаеш: спраўдзіцца жаданне, і радасць ахопіць з галавы да ног. Як жа-ж, ахопіць... Таму я стрымліваю жаданні, мінімалізую сваё «хачу» да самага неабходнага. У дарозе патрэбен нож. Без нажа-складанчыка, ці як у нас яго называюць — сцізорыка, я ў дарогу не выпраўляюся. Ёсць цяжкасці з пералётамі. Усе ножыкі і нажніцы цяпер трэба здаваць у багажны адсек. Здаю. Прывык. Нож свой я дагледжаю, таму ён і служыць доўга. Служыў... Забыўся я свой нож у парыжскай майстэрні. Застаўся ён ляжаць на паліцы ў варэльні. Во, некаму радасць будзе — знайсці швейцарскі сцізорык. Некаму радасць... Мяне гэта суцяшае, але не так каб моцна. Адсутнасць нажа мяне занепакоіла. Адна справа стрымаць жаданне пра нешта такое, чаго ў цябе не было, зусім іншая сітуацыя, калі хочацца вярнуць страчанае. Знайшоў я свой ножык у інтэрнэт-краме і замовіў дастаўку, а ў горадзе коркі на дарогах. Дастаўшчык тэлефануе: «Можа, вы зробіце ласку, выйдзеце ў двор па ножык?» Выйшаў я пад дождж і вырашыў падбегчы да машыны, каб не намокнуць. Падбег... Тры крокі ступіў і падвярнуў нагу. Забалела нага страшна, але звязка не парвалася. Расцягнулася, але жыць буду. Ножык я ўсё ж прыдбаў, жаданне сваё спатоліў, але з радасцю праблемы. Суцяшаюся тым, што расцягнутая звязка лепей за парваную.

**Малюнкі аўтара**

# Жыццёвы крыж творцы — быць вуснамі Бога

**«Напачатку было Слова, і Слова было ў Бога, і Слова было Богам. Яно было на пачатку ў Бога: усё праз Яго пачалося, і без Яго нішто не пачалося з таго, што пачало быць» (Ян, 1:1–3).**

Я не выпадкова пачаў з цытаты Біблії. На маю думку, «Каложскі Дабравест» — паэтычны зборнік духоўнай лірыкі 11 аўтараў — і з'яўляецца тым самым Божым Словам, праз якое ўсё пачалося. Тым Словам, якое ўсяляе надзею і веру, якое вядзе пасродкам рытму і рыфмы ў іншы, адрозны свет, Божы свет, дзе ў рэшце рэшт душа знаходзіць доўгачаканы спачын і супакой, прыемную ўсцішанасць.

Сам назоў зборніка вельмі трапна і дасціпна адпавядае сваёй напаўняльнасці, сутнасці — «Каложскі Дабравест». Ён як той звон старадаўняй Каложы, які заклікае вернікаў да набажэнства, супольнай малітвы, заклікае нас да роздуму пра нашае мінулае, пра нашу штодзённасць і будучыню. І чытач разам з паэтамі, творы якіх увайшлі ў гэты зборнік, можа паспрабаваць знайсці адказы на пытанні, якія раз-пораз узнікаюць у кожнага: дзеля чаго мы прыйшлі ў гэты свет, у чым наша наканаванасць, што ёсць пачатак, а што канец, і што ёсць Бог.

Вершы зборніка пакліканы да аб'яднання, сабаравання вернікаў усіх канфесій: будзь ты праваслаўны, каталік, пратэстант ці нават мусульманін — ва ўсіх нас адзін Бог. Так, магчыма, мы і звяртаемся да яго па-рознаму, выконваем розныя рытуалы, але ўсе мы просім Яго аб адным і тым жа: аб любові, аб здароўі, аб шчасці, аб дабрабыце. Так і творы, якія сабраны пад гэтай вокладкай, выконваюць па сутнасці тую ж функцыю: функцыю малітвы. А калі ўжо зусім проста — гэта кранальная, шчырая, нязмушаная размова з Богам.

Размова на мове, на якой сам Бог звяртаецца да нашага народа, на мове, якую ён даў нам дзеля кумунікацый. У нашай краіне склалася так, што афіцыйнымі з'яўляюцца дзве мовы. Але мова, дадзеная нам Богам, не расейская. Наша мова — беларуская! Менавіта на гэтай мове размаўляе з намі Усявышні, на гэтай жа мове мелі б зносіны з Ім і мы. Толькі словы на гэтай мове здольныя крануць нашу душу, здольныя прымусіць яе затрымцець, завібаваць... здольныя прымусіць яе затрымцець, завіхацца і агаліць сваю сапраўдную сутнасць.

Некаторыя, мяркую, мне запярэчаць, што гэта не так. Але толькі словы, прамоўленыя па-беларуску, выклікаюць нават у расейскамоўных беларусаў слёзы. Малітва на гэтай мове кранае сэрцы ўсіх беларусаў, таму што гэта ёсць мова нашай душы, мова, дадзеная нам Богам. Мы можам усё сваё жыццё размаўляць і думаць выключна па-расейску і нават не здагадвацца аб сваёй сапраўднай сутнасці душы.

Вершаваныя творы зборніка напісаны «на мове душы». І толькі тады Божае Слова здольнае ацаліць нашыя сэрцы і душы ад рознага кшталту хваробаў і ачысціць нас ад грахоў і пошасці нячыстага. Мне здаецца, што калі б расейскамоўныя беларусы прачыталі гэты зборнік, дык абавязкова пераканаліся б у гэтым і знайшлі б у маіх словах «зерне рацыі».

Я настойліва раю бы прачытаць гэтыя творы ўголас, так, каб адчуць рытм, «вібрацыю». Слова, прамоўленае ўголас, уздзейнічае інакш. Спярша, вылецеўшы з нашых вуснаў, яно скіроўваецца да адрасата гэтага паслання, а потым вяртаецца назад, адоранае, прасякнутае цеплынёй і любоўю.




Яшчэ адным плюсам гэта зборніка з'яўляецца тое, што побач з творамі ўжо вядомых паэтаў, якія падарылі нашай краіне шмат цудоўных вершаў, змешчаны творы маладых талентаў нашай зямлі, якія робяць першыя крокі ў гэтай галіне. Што праўда, гэтыя крокі даволі ўпэненыя і цвёрдыя. І побач з такімі аўтарамі, як Данута Бічэль, Зніч (Алег Бембель), Юрка Голуб, і іншыя выглядаюць вартымі пераемнікамі і прадаўжальнікамі традыцый сваіх старэйшых калег. І няма аніякага сумневу, што яны падораць усім нам яшчэ шмат выдатных твораў, якія годна рэпрэзентуюць нашу краіну ў сусветнай літаратуры.

Апроч некаторых твораў слынных і маладых паэтаў нашага краю, зборнік знаёміць чытача з кароткай біяграфіяй творцаў і іх творчымі ўнёскамі ў скарбонку нашай літаратуры.

Творы аўтараў, хоць і аб'яднаныя цудатворным пакровам хрысціянскай духоўнасці і непахіснасцю веры ў Бога, усё ж вельмі розныя. Адны спрабуюць зразумець Сусвет і Бога праз пазнанне саміх сябе і сваёй сапраўднай сутнасці, як Алег Бембель:

*...і ўбачыў за зззяннем бясконцых кругоў*
*дапытлівых думак спакусна-прыгожых —*
*аб тайнах апошніх абіцеляў Божых —*
*Дом Божы ля каменя сэрца майго...*

Другія знаходзяць духоўную падтрымку і сілкаванне сваёй веры і творчасці ў далёкім мінулым. Магчыма, дзякуючы гэтаму яны бачаць тую несправядлівасць, якая пануе на абшарах нашага краю. Да прыкладу — Данута Бічэль. У некаторых ейных радках адчуваецца востры боль і неспакой паэтэсы за лёс нашай Радзімы, за нашу будучыню. Здавалася б, мы цяпер жывем у вольнай і незалежнай Беларусі, але разам з тым нібы ў палоне. Скаваныя кайданамі, ланцугамі ворага, мы маўкліва назіраем за тым, як неўпрыкмет вынішчаюць нашу памяць і нашу мову:

*Ад нараджэння духоўных пачаткаў,*
*каб задыхнуліся мы ў цемнаце,*
*вораг душу вынішчае ў нашчадкаў,*
*мову і памяць адняў у дзяцей.*
*( «Правілы паводзін для школьнікаў»)*

Але ўжо ў вершы «Спас» з ейных грудзей вырываецца заклік не галасіць і не плакаць па Спасе Хрысце, а значыць, і па нашым краі. Хрыстос не памёр, Ён вечна жывы! Не памерлі, і мы і наш край, беларусы! Ісус наш паратунак і наша будучыня! Ён перамог забыццё, адолеў і скарыў смерць, паўстаў з магілы насуперак катам і ворагам Божым. А цяпер Ён, Хрыстос, дапаможа і нам, беларусам, абудзіцца, паўстаць, уваскрэснуць з мёртвых. У ім наша сіла і наша збавенне, Ён наша паходня-штандар, якая выведзе нас з палону цемры да святла і волі:

*Не насіце жлобы па Спасе,*
*жывым чалавеку!*
*Тут маліліся продкі на полацкай*
*мове спрадвеку!*
*Святы Спас уваскрэснуць склікае,*
*скідае прымусы!*
*Незалежныя, вольныя,*
*вечныя мы — беларусы!*
*(«Спас»)*

Трывожныя погляды на нашу будзённасць і будучыню гучаць і ў паэта Анатоля Брусевіча. Дык што тады чакае нас, калі мы гатовы славіць каго заўгодна, а саміх сябе паліваем брудам, саміх сябе лічым амаль не смеццем гэтай зямлі. Наша краіна ператварылася ў краіну абсурду, дзе амаль кожны спрабуе прымераць на сабе кагосьці іншага і ўсё жыццё гатовы быць гэтым іншым, але толькі не самім сабою:

*Таму не пачуем гімну,*
*Якім паспаліты люд*
*Чужую славіць айчыну,*
*Сваю затаптаўшы ў бруд.*
*(«На струнах...»)*

Трэція, як Вольга Агапонава, глядзяць на будучыню і прышласць нашага народа праз прызму веры. Гэтыя радкі, на маю думку, вельмі трапна і цудоўна характарызуюць нас на нашым гістарычным раздарожжы:

*«Даруецца ці не мая бяздзейнасць?» —*
*Ён пракрычаў з маленнем багавейным,*
*І ўбачылі тут у плямах... іншы крыж,*
*Які народы памянялі на прэстыж,*
*Пакінуць не змаглі, а несці адракліся...*
*( «Апошні Суд»)*

У апошняй частцы верша Вольга нагадвае ўсім нам, што напрыканцы жыцця ўсіх чакае Вышэйшы Суд, дзе мы будзем несці адказнасць за свае ўчынкі. І гэты Суд чакае не толькі кожнага асобнага чалавека, але цэлыя народы і нацыі:

*Спадае мішура з вачэй*
*Людскога роду.*
*Пад крыжам... беларус стаіць*
*І бачыць... Бога!*
*( «Апошні Суд»)*

Апроч высокага, якое ўласціва ўсім паэтам, у зборніку знайшлося месца і «простаму», чалавечаму: любові да блізкіх і родных людзей. Людзей, якія ўжо сыйшлі з зямнога жыцця, але ўсё ж па-ранейшаму працягваюць жыць у памяці тых, хто іх любіў і любіць. А самае галоўнае — верыць, як Алена Бабіч, што яны не памерлі, а жывуць у іншым вымярэнні, нябачным нашаму воку:

*І як гаварылі,*
*і як маўчалі,*
*і як дабрыню*
*прыняла за ліха,*
*і як ты казаў,*
*каб цябе хвалілі,*
*і як ты праз тыдзень*
*памёр ціха.*
*(«Дзядуля»)*

Таксама Алена вельмі прыгожа апісала нашу мізэрнасць і бездапаможнасць перад сіламі прыроды, а значыць, і перад тым, хто стварыў усё існае, перад Богам:

*Гэтым днём раскідала неба*
*Што хацела, куды глядзела,*
*Нават гонар змяшала з глебай,*
*І ад болю здурнела цела.*
*(«Прычашчэнне»)*

Непакоіць аўтараў вершаваных радкоў і «малая», але ж вельмі блізкая Айчына. А гэта — нішто іншае, як родная вёская, якая гібее, паміраe. Так, непазбежную смерць свайго роднага куточка апісаў Павел Каспяровіч:

*Ані бацькі няма, ані маці,*
*Толькі прывіды ходзяць па хаце.*
*І бягуць па заснежаным следзе,*
*Можа, едзе хто там, можа, едзе.*
*( «Рэквіем па беларускай вёсцы»)*

Будучы святаром, аўтар не абмінуў і таго, што чакае кожнага пасля скачэння жыццёвай місіі. Таму заклікае чытачоў ужо цяпер задумацца аб тым, што ён хоча для сябе: вечныя пакуты пекла ці незямную асалоду раю:

*Ці справа стаяць, ці злева,*
*Авечкаю быць ці казлом,*
*Каму прысвячаць свае спевы,*
*Ісці за дабром, альбо злом.*
*(«Ні надыход снегападу»)*

Падсумоўваючы ўсё вышэй сказанае, зазначу, што «Каложскі Дабравест» — гэта не проста зборнік вершаў на духоўную тэматыку, а нешта большае. У ім — падтрымка кожнага з нас, якую паслаў нам наш Войча праз сваіх найлепшых сыноў і дачок. Жыццёвы крыж якіх — умацоўваць веру і надзею на лепшае будучае ўсіх нас — шараговых абывацеляў. Такое іх наканаванне: быць гонарам і сумленнем нашага народа, выкрываць усе хібы і заганы нашага сучаснага і мінулага, паказваць шлях у лепшае заўтра, зазываць свой народ да шчырай і плённай працы на карысць нашага агульнага дома — Беларусі.

**Сяргей Блінкоўскі**

## Джэймс М. Бары. Пітэр Пэн

Гэта першы пераклад на беларускую мову самага знакамітага твора англійскага пісьменніка Джэймса Мэцью Бары пра хлопчыка Пітэра і чароўную краіну Неверляндыю, у якой ён жыве.

Кніга пра тое, як туды трапілі Вэндзі, Джон і Майкл — дзеці з нашага свету, — і пра прыгоды, якія іх там напаткалі.

Пераклаў яе на беларускую Уладзь Лянкевіч. Кніга аздоблена аўтарскімі ілюстрацыямі мастачкі Кацярыны Дубовік.

«Пітэр Пэн» — не з тых кніг, якія збіраюць пыл на паліцах. Яе пачынаеш любіць у дзяцінстве, але з цягам часу разумееш усё глыбей. Перакладчык прызнаўся, што гісторыя вартая таго, каб пераасэнсоўваць яе дарослым. Менавіта таму яна настолькі прыдатная да чытання ўголас — і дзеці будуць рады, і бацькі не засумуюць.

Кніга пра Пітэра Пэна па-беларуску змяшчае каля 70 аўтарскіх ілюстрацый Кацярыны Дубовік.



# Зараслава Камінская. Русалкі клічуць

**Больш за 50 гадоў спатрэбілася, каб імя і творы мастачкі Алены Кіш прагучалі ў Беларусі...**




У 2011 годзе Галіна Адамовіч прысвяціла ёй дакументальны фільм «Маляваны рай». Праз два гады ў Менску прайшла выстава яе твораў, летась яе працы натхнілі дызайнерак на стварэнне цэлага брэнду шаўковых хустак. А зусім нядаўна ў продаж трапіла першая мастацкая кніга, прысвечаная Алене Кіш!

«Яна рабіла сваё, нягледзячы ні на што. Нават калі яе лічылі вар'яткай, яна рабіла тое, што любіла», — кажа пра гераіню сваёй містычна-дэтэктыўнай аповесці аўтарка.

Зараслава Камінская — выпускніца журфака БДУ. Жыве ў Менску, працуе рэкламшчыцай. Аповесць «Русалкі клічуць», якая выйшла ў серыі «Пункт адліку» Саюза беларускіх пісьменнікаў у выдавецтве «Кнігазбор» — яе дэбют. Кніга выйшла дзякуючы вучобе Зараславы ў Школе маладога пісьменніка пры СБП. Умовай паступлення на другі год была ідэя кнігі. Зараслава вырашыла, што напіша пра Алену Кіш.

«Яна была самародкам, талентам, які аціналі толькі пасля смерці. Яна пражыла ўсё жыццё адна, у самоце. Хадзіла па вёсках і малявала дываны. Не за грошы, а за кавалак хлеба. Яе лёс і творчасць адразу мяне зацікавілі, як толькі я сутыкнулася з ёю», — прызналася Зараслава.

Алена Кіш нарадзілася ў 1889 годзе на Случчыне. Пра яе жыццё вядома надзвычай мала. Яна была мастачкай-вандроўніцай, малявала дываны з казачна-экзатычнымі сюжэтамі. У 1949 годзе ўчыніла самагубства, утапіўшыся ў рацэ. Упершыню яе імя шырока прагучала ў 1978 годзе дзякуючы мастаку Уладзімеру Басалыгу, які сабраў і прадставіў яе працы на І Рэспубліканскай выставе народных дываноў.

«Яна захапіла мяне. Гэта чалавек, які рабіў сваё, нягледзячы ні на што. Нават калі яе лічылі на вёсцы вар'яткай, яна рабіла тое, што любіла. Кіш жыла мастацтвам нават пасля вайны, калі была галеча. Яна малявала тады, калі, здавалася, мастацтва і не патрэбнае. Але сваёй творчасцю яна паказала, што мастацтва патрэбнае і ў цямнейшыя часы. Мастацтва Алены Кіш простае, і гэтым яно падкупляе. Мяне ўражвае яе моц і талент», — кажа аўтарка.

У аповесці «Русалкі клічуць» пераплятаюцца некалькі часавых пластоў. У адным галоўная гераіня — сама Алена Кіш напрыканцы 1940-х. Другі распавядае пра прыгоды студэнткі Лізы ў наш час. У арандаванай кватэры дзяўчына знаходзіць выразкі са старых газет і дазнаецца пра Алену Кіш. Захопленая яе гісторыяй, Ліза трапляе на след дываноў мастачкі ў адной з вёсак, дзе пасля вайны спынялася Кіш. Яна — у цэнтры «палявання» на спадчыну мастачкі на фоне таямніцаў, здрады, кахання і забойства.

Гераінямі другога плану ў аповесці Зараславы Камінскай сталі русалкі. Аўтарка сцвярджае, што ў беларускай міфалогіі русалка, з аднаго боку, слабая істота, самагубца, якая ўтапілася праз нешчаслівае каханне. З іншага боку, русалкі — гэта забойцы, якія маглі заказытаць і зацягнуць за сабою ў возера...

«Такая дваістасць ёсць у кожным. Гэты шлях ад ахвяры да моцнага чалавека, які можа супрацьстаяць завядзёнцы ці думкам большасці, — Ліза яго прайшла, але Алена Кіш не паспела прайсці. Таму гэта кніга пра пошукі сябе. Пра шлях, які пачынаецца там, дзе ты не ведаеш, хто ты і што рабіць», — упэўненая Зараслава Камінская.

**Дзмітры Гурневіч**

# Аліна Длатоўская. Ген зямлі

**Дэбютная серыя «Пункт адліку» папоўнілася адразу некалькімі празаічнымі кнігамі, аўтарамі якіх з'яўляюцца выпускнікі Школы маладога пісьменніка пры СБП.**




Зборнікі сталі плёнам навучання на другім курсе Школы. Сёння мы прадстаўляем аповесць «Ген зямлі» Аліны Длатоўскай. Пра пакуты творчасці, жанр антыўтопіі і незалежнае жыццё літаратурных персанажаў Аліну распытала яе каляжанка па Школе і па кніжнай серыі Ніна Лістота.

***— «Ген зямлі» — гэта назва твора, аднак ці можна неяк акрэсліць само паняцце?***

— Ген зямлі — гэта адчуванне сябе беларусам. У кнізе ёсць на тое намёк, што, з аднаго боку, гэта ці то формула, ці то мутацыя ДНК. Але насамрэч гэта ўнутранае адчуванне: яно, аднак, не ва ўсіх людзей праяўляецца...

***— Можна сказаць, гэта абуджэнне нацыянальнай свядомасці?***

— Так, але яно замаскіраванае ў штосьці больш фантастычнае, пададзенае ў больш цікавым ключы. Бо ў большасці з тых, у каго прачынаецца «ген зямлі», з'яўляюцца звышздольнасці. Напрыклад, яны могуць чытаць думкі, разумець чужое мінулае, маюць суперпамяць, бачаць прывідаў і гэтак далей.

***— У якім кантэксце, па месцы і па часе, адбываецца дзеянне ў кнізе?***

— Гэта недалёкая будучыня або сучаснасць, аднак у нейкім паралельным сусвеце, нешта каля нас. Гэта былая Беларусь, якая ў адзін момант уваходзіць у Аб'яднанне Еўрапейскіх Рэспублік. У ім знаходзяцца Расія, Беларусь, Украіна, Літва, Польшча. Аб'яднанне гэтае адбылося, каб супрацьстаяць тэрарыстычнаму ціску, бо, маўляў, гуртам мы мацней. Але калі толькі знешні ціск быў падаўлены, Расія паступова пачала падмінаць пад сябе ўсе астатнія краіны, каб зрабіць адну дзяржаву з агульнай мовай, культурай, ідэалогіяй. Стваралася адна нацыя, а болей быццам бы нічога не было патрэбна.

***— Ты вырашыла стварыць нешта падобнае да антыўтопіі. Чаму абрала менавіта такі жанр?***

— Сапраўды, можна сказаць, што гэта менавіта такі жанр ці нешта блізкае да яго. Аднак я не ставіла сабе канкрэтнай мэты. Першаснымі былі персанажы. Мне трэба было памясціць іх у нейкі кантэкст. Бо я ведала, хто такія гэтыя героі, што ў іх ёсць пэўныя здольнасці і што здольнасці павінны неяк раскрыцца. Менавіта пад персанажаў мэтанакіравана стваралася сітуацыя. Атрымаўся пэўны сусвет — і ў многім ён дапрацоўваўся ў Школе маладога пісьменніка разам з маёй куратаркай Ганнай Бутырчык...

***— На фінальны занятак другога года Школы маладога пісьменніка ты прыйшла без гатовага твора...***

— Калі мы з выпускнікамі Школы прэзентавалі свае творы на пачатку чэрвеня, у мяне не было напісана нават трацiны. Спачатку не хацелася нават ісці на «абарону дыплома»... Я была вельмі здзіўлена, што ў астатніх выпускнікоў ужо былі цэлыя рукапісы. Я не чакала пачуць нейкі станоўчы водгук на сваю працу. І калі Алесь Пашкевіч спытаў у мяне: «Ці зможаш за лета дапісаць аповесць?» — я зусім механічна адказала, што змагу. Пэўна, у той момант я падумала, што ўсё паспею. Аднак я працую ў сферы турызму, дзе самая гарачая — летняя пара. Увесь чэрвень афармлялі візы на фестываль у Італіі — быў вельмі напружаны час; на цэлы ліпень я з'ехала праводзіць фестываль у Балгарыі. Такім чынам, у мяне застаўся толькі жнівень. Я вярнулася дадому і ўзгадала, што павінна стрымаць абяцанне... Такім чынам я пачала працаваць: у мяне такая методыка, спачатку пішу, затым шмат крэслю. На два тыдні спазнілася з дэдлайнам. Але кніга ўсё-такі выйшла!

***— Як думаеш, на каго разлічаны «Ген зямлі», хто яго патэнцыйныя чытачы?***

— Я сама пачала размаўляць па-беларуску, калі мне было 14 гадоў. Усё пачалося з таго, што да нас у школу прыйшла проста ачмурэнная настаўніца беларускай мовы Алеся Мікульская (раней мы ставіліся да беларускай мовы як да нейкага дадатковага прадмету). Яна пачала распавядаць нам пра Багдановіча, пра Караткевіча, пра Коласа і пра Купалу. Прычым расказвала так, быццам гэта яе сябры! Мы пачалі чытаць па-беларуску, размаўляць... Але я люблю, скажам так, «лёгкую» літаратуру, — мне хацелася фэнтэзі, фантастыкі. Як на мой густ, гэта вельмі класныя жанры, хоць сёння да іх часам ставяцца пагардліва... Таму сваю кнігу я пісала для такіх вось чатырнаццаціцігадовых Аліны ці Васі, якім хочацца пачытаць нешта падлеткавае на беларускай мове.

***— Што такое пісьменніцтва для цябе?***

— Па-першае, гэта працэс, без якога я проста не магу — працэс выпускання герояў з галавы на паперу, бо інакш яны ўчыняць там вэрхал. Па-другое, гэта спосаб данесці свае думкі, погляды да іншых людзей. Па-трэцяе, гэта хобі, якое прыносіць мне задавальненне.

**Гутарыла Ніна Лістота**

# Ніна Лістота. Каханні.

**Гэты дэбют у прозе маладой журналісткі і паэтэсы Ніны Лістоты спачатку быў яе праектам падчас навучання ў Школе маладога пісьменніка.**

Задума цікавая: сабраць рэальныя гісторыі кахання, якія аўтарка чула ад выпадковых знаёмых і блізкіх сяброў. Задача на самай справе нялёгкая. Па-першае, трэба ўмець слухаць, і каб чалавек захацеў з табой падзяліцца... А па-другое, трэба не перэтварыць пачутае ні ў пошлую байку, ні ў слязлівы расповед для глянцавага часопіса. Аўтару ўдалося «збалансаваць» на мяжы.

«Дваццаць гісторый кахання рэальных людзей... Дваццаць спроб даведацца, што ж такое яно, каханне па-беларуску. Унікальнасць зборніка ў тым, што вы патрапляеце не толькі ў мастацкі свет, але і нібыта ў рэаліці-шоў»... Героі — самыя розныя. Ёсць вядомыя музыканты, мастакі, тэатралы, ёсць тыя, хто працуе ў сталовай, касметычным салоне ці бальніцы. Для кагосьці каханне — выпакутаванае, аплочанае дарагой цаной. Хтосьці яго губляе, растрачвае. Часам няўменне дараваць прыводзіць да трагедыі. А як сумясціць творчасць і сямейны побыт? Вось апантаная мастачка выбірае творчасць — муж-інжынер такі нецікавы, праўда? А аказваецца, губляе і сваё мастацтва. Малады хлопец няўдала нырнуў. Страціў магчымасць хадзіць. Але па інтэрнэце знайшоў дзяўчыну, з якой стварыў сям'ю... Каханне мае розныя аблічы, а сутнасць у яго адна...

**Людміла Рублеўская**




Літаратурная Беларусь

Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

# «Навінкам» — 20:
## Эдзік Тарлецкі, Мітрыч і Рональд Мак Дональд

Алег НОВІКАЎ

**Газеце «Навінкі» — самаму буйному сатырычнаму праекту часоў незалежнасці — 25 лютага спаўняецца 20 гадоў. Аўтар і адзін са стваральнікаў праекту паспрабаваў апісаць, як выглядаў цыкл падрыхтоўкі да друку аднаго нумару газеты.**



Вулічная рэкламная акцыя рэдакцыі газеты

### Дзень першы. Пятніца. Здача нумару

Здаваць газету ў друк трэба было ў пятніцу зранку. Аднак на маёй памяці ніводнага разу нумар не быў здадзены своечасова, хаця супрацоўнікі заставаліся на працы ўсю ноч. Калі нарэшце кур'ер адпраўляўся ў друкарню з макетам, памяшканне рэдакцыі (як правіла, прыватная кватэра) нагадвала начлежку. Па кутах у розных позах ляжалі супрацоўнікі, якія заснулі падчас творчага працэсу (часам не без дапамогі моцных напояў). Прыкладна апоўдні пачынаўся рух. Людзі прачыналіся, аднак ніхто не думаў разыходзіцца. Наадварот, перапоўненыя гонарам ад сваіх працоўных подзвігаў, усе пачыналі святкаваць заканчэнне цяжкага працоўнага тыдня. Рэй вёў культурны аддзел (Дзмітрый Серабракоў і Андрэй Белавокі). «Культуролагі» прачыналіся раней за ўсіх і адразу распачыналі працу над наступным нумарам — рыхтавалі рубрыку, дзе апісвалі якасці айчынных «чарнілаў», якія тут жа дэгуставалі.





Прэс-канферэнцыя, прысвечаная кампаніі «Legalize Navinki» за рэгістрацыю газеты

Менавіта дзякуючы Серабракову газету ледзь не зачынілі пасля таго, як яна атрымала рэгістрацыю. Той напісаў тэкст пра тое, што Бабруйск ахапіла серыя самазабойстваў, усе ахвяры якіх, быццам, перад суіцыдам слухалі запісы Аляксандра Саладухі. Маўляў, спявак сваімі песнямі выклікаў старажытнага скандынаўскага бога Сало, які заклікаў накласці на сябе рукі. Калі мы пабачылі тэкст, дык схапіліся за галаву, аднак было ўжо позна. Хутка ў газеце «Знамя Юности» з'явіўся артыкул пра тое, якім ударам для Саладухі была зацемка Серабракова. Саліст, калі верыць артыкулу, нават не мог знайсці сілы, каб выйсці на сцэну. Мы чакалі самага кепскага, аднак дзіўным чынам скандал сам сабой прыціхнуў.

### Дзень другі. Субота. Планёрка.

Планавалі чарговы нумар на наступны дзень, у суботу. Паводле рытуалу, спачатку неабходна было раскласці на стале свежы выпуск — і тут жа гэта адзначыць. Ужыванне разнастайных напояў не перашкаджала бурліваму абмеркаванню зместу наступнага нумару. Журналісты нейкім чынам паспявалі прыдумаць цэнтральную тэму наступнага нумару і сюжэт фотакоміксу на апошнюю старонку — візітную картку «Навінак». Атмасфера спрыяла вывяржэнню фантазіі. Прыдумляліся самыя неверагодныя сюжэты. Як, напрыклад, пра тое, што на Новы год пасля лазні Лукашэнка замест Ельцына ўляцеў у Белы дом, дзе ўдала пазаляцаўся да Мадлен Олбрайт, альбо пра тое, што ўрад БНР збег у Бразілію, дзе займаецца беларусізацыяй абарыгенаў.

У планёрках меў права ўдзельнічаць любы чалавек, які прыходзіў у рэдакцыю, а такой публікі было багата. Магчыма, памыляюся, аднак суботнія вечарыны былі самыя ўгарныя. Адзін з такіх творчых працэсаў скончыўся трагічна: неяк грамада заўважыла, што ў двары ідзе міліцыянт, ды пачала спяваць: «Наша служба и опасна и трудна». Міліцыянт пачуў тэму і накрыў «маліну». Хутка рэдакцыі давялося шукаць новае памяшканне. Усяго за пяць гадоў існавання газета змяніла дзевяць адрасоў.

### Дзень трэці. Нядзеля. Культпаход

Вельмі часта ўік-энд «навінкаўцы» прысвячалі розным культурным імпрэзам, якія, бывала, самі ж і арганізоўвалі. Увогуле, культурнае жыццё Мінску на мяжы стагоддзяў было не такім багатым, як сёння. Фактычна, пасля 1996-га адбылася ціхая зачыстка рок-клубаў, якія былі цэнтрамі моладзевага пратэстнага руху. У выніку ў сталіцы засталася працаваць адзіная кропка — клуб «Альтэрнатыва» на Сурганава.

Невялікая культурная праграма кампенсавалася ўгарам імпрэзаў. Найбольш брутальным быў фестываль «Раздавім фашысцкую гадзіну!», які рэдакцыя праводзіла з 1996 года і які ператварыўся ў арэну боек паміж скінхэдамі і антыфашыстамі (тыя абралі рэдакцыю ў якасці свайго штабу).

Яскравай старонкай гісторыі газеты была спроба арганізаваць па нядзелях клуб «Свиное рыло» (ён павінен быў працаваць на базе кафэ «Валерыя»). У сваіх марах мы збіраліся стварыць нейкі элітарны клуб футурыстаў-імажыністаў, аднак, як і трэба было чакаць, атрымаўся партовы прытон. Калі піяністы — сябры рэдакцыі — былі захопленыя творчым працэсам, здаралася, яны гралі на піяніна нагамі, а наведвальнікі намагаліся падпаліць сталы. Натуральна, доўга гэтая весялуха не працягнулася.

### Дзень чацвёрты і дзень пяты

Хаця па графіку напачатку тыдня рэдакцыя павінна была выходзіць на працоўную вахту, ніхто ў гэтыя дні асабліва не працаваў. Але не таму, што не хацелі, а таму што не мелі магчымасці.

Справа ў тым, што праз нейкі час газета стала сапраўдным атракцыёнам, вядомым далёка па-за межамі Беларусі. Як прыклад — шпіёнскі раман «Вяртаваць прэзідэнта», які пабачыў свет у Піцеры на пачатку нулявых. Падзеі ў рамане, які напісаны ў жанры тупога шпіёнскага дэтэктыву, адбываюцца ў Беларусі, дзе апазіцыя плануе атруціць Бацьку. На дапамогу яму прыходзіць нейкі расійскі Джэймс Бонд. Аўтар яўна апісваў Беларусь паводле пэўных штампаў. Адзін са штампаў — існаванне ў краіне контркультурнай газеты «Навінкі», якая арганізуе незвычайныя перформансы.

Пра «Навінкі» таксама шмат пісалі ў Польшчы і Чэхіі. Міф пра «Навінкі» зацікавіў суполку маладых маскоўскіх кінематаграфістаў, якія ў 2000 годзе прапанавалі нам супрацоўніцтва. У выніку той кааперацыі нарадзіўся фільм «Случай з пацаном»

Пабачыць экзатычны праект жадалі шматлікія правінцыялы, непрызнаныя геніі, і нават замежныя дэлегацыі. Натуральна, госці прыходзілі не з пустымі рукамі. Найбольш экзатычнымі наведвальнікамі, напэўна, была суполка актывістаў ЛГБТ пад кіраўніцтвам Эдуарда Тарлецкага.

Сяброўству папяраэдніча незвычайны эпізод улетку 2001-га, калі Павал Севярынец склікаў Кангрэс беларускай моладзі. Пры гэтым ён папярэдзіў, што ўдзел такіх «вычварэнцаў», як Тарлецкі, непажаданы. Навінкаўцы ў адказ прабраліся на мерапрыемства Севярынца, дзе, апранутыя ў жаночыя сукенкі, абвясцілі пра правядзенне «Кангрэсу разбэшчанай беларускай моладзі». Тарлецкі быў уражаны нашым нахабствам.

Сексуальныя меншавікі з'яўляліся ў рэдакцыі ў бліскучых жаночых вопратках і султанах з пер'яў, цягнучы з сабою скрыню піва. Паступова мы прызвычаіліся да таго, што ўвечары прыедуць «дзеўкі» Тарлецкага з халяўным алкаголем. Коўзаючыся па рэдакцыі, млява чакалі, калі пад пад'ездам спыніцца таксі і ў пакой уваліцца шумны балаган «вычварэнцаў».

### Дзень шосты. Серада. Пачатак працы

Вяртацца ў працоўны працэс пасля фестываляў было вельмі цяжка, аднак іншага выйсця не было. Памятны выпадак, калі ў такія дні рэдакцыю наведаў Мітрыч — чырвоны скінхэд і аматар здаровага ладу жыцця. У рэдакцыі яго чакала наступная сцэна: навінкаўцы сядзелі і глядзелі на трохлітровы слоік з медычным спіртам. Спірт прынеслі ў рэдакцыю з мэтай матываваць журналістаў на працу, аднак пасля гэтага творчы працэс канчаткова затармазіўся. Мітрыч, які ненавідзеў алкаголь, узяў слоік і рашуча выліў спірт у ракавіну, разумеючы, што зараз яго чакае жорсткая расправа. Аднак навінкаўцы, наадварот, сустрэлі гэты ўчынак апладысментамі.

Праца ў сераду ішла надзвычай марудна. Вельмі дапамагалі ў такія дні людзі, якія заставаліся ночыць і нават жыць у рэдакцыі — часам яны прыдумлялі вельмі файныя тэмы. Праўда, ад гэтай публікі можна было чакаць усяго што заўгодна. Неяк такія «пастаяльцы» прыцягнулі ў рэдакцыю пластыкавую фігуру клоуна Рональда Макдональда, якую «пазычылі» каля рэстарана «МакДональдс», што быў непадалёк. Двухметровы Рональд доўгі час валяўся ў рэдакцыі «Навінак», замінаючы праходу. Праз нейкі час яго выкінулі на сметнік. Гэты выпадак хутка аброс сапраўднымі легендамі. Распавядалі, што ў Мінску анархісты, скраўшы клоуна Рональда, адрэзалі яму пальцы і дасылалі ананімна ў дырэкцыю кампаніі, патрабуючы забяспечыць вольны доступ да прыбіральняў для панкаў і іншых прадстаўнікоў андэграўнду.

### Дзень сёмы. Чацвер. Запарка

У чацвер да супрацоўнікаў нарэшце даходзіла фантастычная думка: прыйшоў час рабіць нумар! Рэдакцыя ператваралася ў сапраўдны бедлам. Атмасферу ў рэдакцыі ў ноч здачы нумару ілюструе выпадак з брэсцкім мастаком Анатолем Адорскім, якога спецыяльна выклікалі ў Мінск для стварэння карыкатураў. Анатоль сядзеў на кухні, куды час ад часу забягаў нехта з енкам: "Дзе мастак?". "Я мастак", — адказваў госць. "Вы мастак? Цудоўна. Хутка будзе замова", — казаў журналіст і знікаў. Такая сцэна паўтарылася некалькі разоў. У выніку пра Анатоля забыліся — і ён дарма прасядзеў усю ноч у рэдакцыі.





Прыкладна ў тры-чатыры гадзіны ранку стомленыя працай і градусам навінкаўцы пачыналі паступова засынаць наўпрост за кампутарамі. Заставаліся самыя стойкія, якія ўмудраліся вычытаць газету і раздрукаваць макет. Аднак хутка і яны сыходзілі ў сон, каб праз некалькі гадзін прачнуцца і пачаць рыхтаваць наступны выпуск.

***P.S.** Нягледзячы на апісаную вышэй вар'яцкую мадэль арганізацыі працы, «Навінкі» ўмудрыліся рэгулярна выходзіць да 2003 года, калі і былі зачыненыя, у тым ліку, за зняваргу кіраўніка дзяржавы.*

**Фота з асабістага архіву аўтара**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### БРАЗІЛІЯ. Карнавал за дыктатуру

Славуты бразільскі карнавал, што праходзіць у лютым, не абышоўся без палітыкі. Папулярнае мерапрыемства вырашылі выкарыстаць сябры правай групоўкі «Direita São Paulo», якія спрабавалі арганізаваць свой блок на танцораў у Сан-Паўла. Танцуючы самбу, актывісты мелі намер давесці, што вайсковая дыктатура, якая панавала ў краіне ў 1964–1985 гадах, была не такім ужо і кепскім эпізодам у гісторыі краіны. Пры гэтым падкрэслівалася, што акцыя, якую назвалі «Самае вялікае антыкамуністычнае паці», — адказ на спробы палітызацыі карнавалу з боку левых. Апошнія ў рытмах танцу, наадварот, заклікаюць шанаваць памяць ахвяр вайскоўцаў. Дэпартамент мэрыі Сан-Паўла, які адказвае за карнавал, праўда, такой логікі не зразумеў і забараніў правым іх удзел у свяце. Мясцовая прэса падтрымала рашэнне. У карнавале таксама ўдзельнічаюць анархісты, якія б дакладна паспрабавалі атакаваць блок, арганізаваны «Direita São Paulo». Тым не менш апісаная спроба перагледзець спадчыну дыктатуры сведчыць пра крызіс бразільскай дэмакратыі, якой апошнім часам уласцівыя бясконцыя карупцыйныя скандалы з удзелам вышэйшага кіраўніцтва краіны.

**Паводле партугальскай прэсы**

### УКРАІНА. Мікалая Лукашэнку — у прэзідэнты

Украінская грамадскасць вельмі арыгінальна адрэагавала на нядаўні ролік, дзе Мікалай Лукашэнка віншуе кітайцаў з кітайскім Новым годам на мове Канфуцыя і Маа. У той час, як беларусы ўспрынялі ролік збольшага іранічна, ва Украіне ён выклікаў хвалю рэўнасці на адрас Мінска. Жыхары паўднёвай краіны-суседкі ўбачылі ў віншаванні ад Мікалая знак таго, што Пекін канчаткова вызначыўся з тым, на каго рабіць стаўку ў рэгіёне. Праўда, пры чым тут кітайскамоўны Мікалай, незразумела. Кітайцы яшчэ некалькі гадоў таму выключылі Украіну са сваіх буйных транзітных праектаў. Цікавая гісторыя з віншаваннем праз прызму культу Лукашэнкі і сярод тых украінцаў, якія ідэалізуюць беларускую мадэль. Як вядома, Лукашэнка — самы папулярны замежны палітык ва Украіне. Некаторыя мясцовыя лукашэнкафілы нават прапануюць разглядзець варыянт пераходу Мікалая Лукашэнкі ва ўкраінскае грамадзянства і яго абранне на пасаду прэзідэнта краіны.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ТУРКМЕНІСТАН. У краму — толькі з даведкай

Туркменістан даводзіць, што застаецца лідарам у галіне прымусовых адміністратыўных практык сярод постсавецкіх рэспублік. Як піша прэса, у некаторых райцэнтрах краіны набыць прадукты цяпер можна толькі з даведкай пра тое, што пакупнік не мае запазычанасці за камуналку. Тое, што ўлада толькі зараз дадумалася да такога незвычайнага прыёму барацьбы з неплацельшчыкамі, тлумачаць сітуацыяй на прадуктовым рынку. Краіна ўжо некалькі месяцаў пакутуе на дэфіцыт мукі, што выклікала рост цэнаў як на муку, так і на хлеб. Яшчэ раней былі ўведзеныя нормы продажу на згаданыя тавары. Напрыклад, хлебу можна набыць не больш 4 боханаў у адны рукі. Аднак падаецца, гэта не мяжа. Незалежная прэса піша, што рыхтуюцца інспектары, якія будуць правяраць запасы прадуктаў у насельніцтва. Калі ў сям'і прадуктаў выявяць больш за норму, лішкі будуць канфіскоўваць.

**Паводле ўзбекскай прэсы**

### КНДР. Алімпійцаў чакае ГУЛАГ?



Калі верыць брытанскім таблоідам, спартсменаў КНДР, якія ўдзельнічаюць у зімовай Алімпіядзе ў межах адзінай карэйскай зборнай, ахапіў страх. Яны баяцца, што ў выпадку правалу ў Гульнях, на радзіме ім гарантаваны суровы турэмны тэрмін. Прынамсі, раней такі лёс чакаў усіх атлетаў Паўночнай Карэі, якія не здолелі зарабіць на турнірах медалі. Не было літасці нават для футбалістаў зборнай КНДР, якія ў 1966-м на Чэмпіянаце свету ў Англіі выйшлі ў другі раўнд і мелі за плячама сенсацыйную перамогу над Італіяй. Дома футбалістаў усё роўна чакаў суд і прыгавор па артыкуле «Знявага нацыянальнага гонару». Цяперашнія алімпійцы КНДР пакуль не зарабілі ніводнага медаля, што і выклікае сумныя пачуцці наконт будучыні. Як піша прэса, іх адзіная надзея — капрызны характар правадыра Кім Чэн Ына. Ён вядомы не толькі як жорсткі кіраўнік, але і вельмі экстравагантная асоба, якая можа адступіць ад правіла.

**Паводле брытанскай прэсы**



Фота www.yuga.ru

# Ці будзе Кубань украінскай?

Алег НОВІКАЎ

**Сто гадоў таму Кубань ледзь не стала часткай Украіны. Аднак у Кіеве спадзяюцца, што ўсё яшчэ наперадзе.**

Славутая «Розпрягайте, хлопці, коней» і іншыя ўкраінскія песні ў рэпертуары цяперашніх кубанскіх казакоў могуць здзівіць толькі прафанаў. Украінскі кампанент быў вельмі важны ў стварэнні кубанскага казацтва, якое фармавалася і за кошт запарожцаў. Напрыканцы XVIII стагоддзя Кацярына Другая ліквідавала Запарожскую Сеч, прапанаваўшы казакам прыняць удзел у каланізацыі Кубані. Апынуўшыся па-за Украінай, былыя запарожцы не забыліся пра свае карані. Пра гэта сведчыць гісторыя абвешчанай імі роўна сто гадоў таму Кубанскай Народнай Рэспублікі (КНР).

Кубанская Народная Рэспубліка, якую абвясцілі 16 лютага 1918 года, была адным са шматлікіх дзяржаўных праектаў, якія нараджаліся, як грыбы пасля дажджу, у полымі Грамадзянскай вайны. Хаця Кубанская Рада — галоўны орган маладой рэспублікі — была ідэалагічна стракатым аб'яднаннем, ініцыятыву там захапілі прыхільнікі арыентацыі на Украіну.

Украінафілам спрыяла тагачасная кан'юнктура. Германія, якая пасля Брэсцкага міру захапіла Беларусь і Украіну, выступала куратарам усіх антыбальшавіцкіх праектаў. Хутка паміж кубанцамі і Кіевам, дзе панаваў пранямецкі гетман Павел Скарападскі, завязаліся кантакты.

Спрыяла тым кантактам і папулярная ў асяроддзі ўкраінскіх нацыяналістаў ідэя інтэграцыі Кубані ў склад Украіны. Напрыклад, бацька ўкраінскага нацыяналізму Міхаіл Міхноўскі ў сваім Дэкалогу бачыў усходнімі межамі Украіны горы Каўказу.

Калі верыць гісторыкам, прыкладна ўвесну 1918 года ў Кіеве быў складзены план далучэння Кубані да гетманскай дзяржавы. Паводле яго, кубанцы падымуць праўкраінскае паўстанне на Тамані, якое Кіеў падтрымае, даслаўшы каля 15 тысяч жаўнераў. Паўстанне сапраўды выбухнула, аднак яго наступствы былі дыяметральна супрацьлеглыя плану. Антыбальшавіцкі выступ казакоў згуляў на руку Дзянікіну, які захапіў Кацярынадар. Дзянікін жа бачыў Расію выключна «адзінай і непадзельнай».

Не дзіўна і тое, што сітуатыўны антыбальшавіцкі саюз паміж белымі і кубанцамі цягнуўся нядоўга. Хутка лідар «кубанскіх» Мікола Рабавол быў забіты ў растоўскім гатэлі акурат пасля прамовы пра небяспеку, якую нясе адраджэнне манархізму. Інцыдэнт выклікаў незадаволенасць і масавы сыход казакоў з фронту, што ў выніку дапамагло Леніну спыніць наступ белых у 1919-м.

**Нягледзячы на фіяска КНР, думка пра тое, што Кубань — гэта Украіна, заўжды была папулярная ва ўкраінскім палітыкуме. Расійска-ўкраінскі канфлікт спрыяў рэнесансу планаў стогадовай даўніны**

Кубанская Народная Рэспубліка фармальна працягвала існаваць, і нават спрабавала далучыцца да Грузіі. Пасля прыходу на Паўночны Каўказ чырвоных усе рэшткі кубанскай дзяржаўнасці былі знішчаныя. Апошняя кропка была пастаўленая, напэўна, у 1930-х гадах, калі ў Кубані была ліквідаваная ўкраінская нацыянальна-культурная аўтаномія.

Нягледзячы на фіяска КНР, думка пра тое, што Кубань — гэта Украіна, заўжды была папулярная ва ўкраінскім палітыкуме. Расійска-ўкраінскі канфлікт спрыяў рэнесансу планаў стогадовай даўніны. Прычым, іх агучваюць нават на ўзроўні міністраў. Напрыклад, міністр інфраструктуры Уладзімір Алеян падтрымаў ідэю Крымскага мосту, паколькі канструкцыя, маўляў, дапаможа далучыць украінскі Крым і ўкраінскую Кубань. У мінулую нядзелю ў Кіеве адбыліся масавыя беспарадкі радыкалаў, якія скандавалі: «Крым, Данбас і Кубань — гэта Украіна!».

Праўда, за амбіцыйнымі планамі няма ніякай канкрэтыкі або дарожнай карты. Далучэнне Кубані ў Кіеве разглядаюць, як правіла, як следства калапсу Расіі, чаго даўно чакаюць. Пры гэтым таксама апускаецца вельмі важны момант. У 1918 годзе Кубань была гатовая выключна на федэралісцкія адносіны з Кіевам. Сёння ж патрабаванне федэралізацыі разглядаецца ва Украіне ледзь не як замах на дзяржаўную бяспеку.

Нарэшце, аптымізм украінскіх нацыяналістаў слаба карэлюецца з этнічна-нацыянальным складам цяперашняга кубанскага насельніцтва. На цяперашні момант менш чым два працэнты насельнікаў кубанскага краю лічаць сябе ўкраінцамі. Гэта без уліку таго, што сярод іх, натуральна, ёсць людзі розных палітычных поглядаў. Наадварот, Кубань выклікае асацыяцыю з вельмі кансерватыўным у палітычным плане рэгіёнам Расіі. Дастаткова ўзгадаць, што кубанскія казакі часцяком выкарыстоўваюцца пуцінскай адміністрацыяй для ціску на дэмакратычную грамадскасць.

Тым не менш, нават лаяльныя расійскія публіцысты заклікаюць Крэмль трымаць кубанскае пытанне пад асобным кантролем. Як сведчыць практыка, цяпер, дзякуючы медыя, за адносна невялікі час можна стварыць новую ідэнтычнасць для рэзідэнтаў той ці іншай тэрыторыі.

# Знаёмцеся: пераемніца Ангелы Меркель!

Алег НОВІКАЎ

**Падобна, Ангела Меркель вызначылася з пераемніцай. Знаёмцеся — Анегрэт Крамп-Карэнбаўэр, якую вельмі часта (па першых літарах імя і прозвішча) называюць АКК. Пра прычыны выбару на карысць АКК і яго наступствы «Новаму Часу» распавядае нямецкі журналіст Пітэр Бурк.**



Фота Reuters

***— Нечакана для ўсіх 19 лютага Ангела Меркель прапанавала аднапартыйцам абраць на пасаду генсека прэм'ера зямлі Саар Анегрэт Крамп-Карэнбаўэр. Пасада генсека — другая па значнасці ў партыі (вышэй, паводле партыйнага статуту, толькі старшыня). Ці азначае, што Крамп-Карэнбаўэр сапраўды пачалі рыхтаваць у пераемнікі Меркель?***

— Падаецца, так. Пра гэта сведчыць і тое, што рашэнне прынята менавіта зараз, калі вырашаецца пытанне, быць або не быць вялікай кааліцыі кансерватараў і эсдэкаў. Актыў эсдэкаў не жадае блоку з кансерватарамі і дамогся правядзення ўнутрыпартыйнага апытання на гэты конт. Калі пераможуць праціўнікі кааліцыі, давядзецца абвяшчаць пазатэрміновыя выбары. У такім выпадку кандыдатам ад эсдэкаў на пасаду канцлера будзе маладая і дынамічная Андрэа Налес, на фоне якой Меркель выглядае трошкі архаічна. Напэўна таму канцлер вырашыла перастрахавацца і прапанавала кандыдатуру Анегрэт, якая здолее павесці хрысціянскіх дэмакратаў на выбары і скласці канкурэнцыю Налес.

***— Доўгі час асноўным кандыдатам у пераемнікі Меркель лічыўся намеснік аднаго з міністраў Енс Шпан. Чаму выбар быў зроблены менавіта на карысць Крамп-Карэнбаўэр, якая працавала на пасадзе прэм'ера Саара?***

— Сама Меркель кажа, што выбар быў прадыктаваны выключна рацыянальным разлікам. Паколькі ўрад у Саары вельмі паспяховы, а за АКК там галасуюць пад 40 працэнтаў, цалкам лагічна было прызначыць яе на пасаду генсека. Аднак прэса мяркуе інакш: Меркель абрала Анегрэт, бо тая бліжэй ёй па поглядах, чым той жа Шпан. Падчас крызісу з мігрантамі Крамп-Карэнбаўэр не здрадзіла Меркель. Абедзве належаць да прыхільнікаў палітычнага цэнтру. У гэтым плане выбар Меркель шмат каму не падабаецца. Працягваючы дрэйфаваць у цэнтр CDU, маўляў, пакідае правы фланг правым папулістам.

***— Як можна характарызаваць пераемніцу Меркель?***

— Акрамя таго, што яна — пяшчотная і адказная маці (у яе сям'і трое дзяцей), яе ведаюць як палітыка, які пастаянна імкнецца да кантактаў з людзьмі. У свой час яна праславілася ўдзелам у мясцовым карнавале ў касцюме Грэтэль — персанажу з казак братоў Грым. Калегі, і нават апаненты, характарызуюць яе як цудоўную ўдзельніцу перамоваў, якая можа слухаць візаві і шукаць кампраміс.

***— Ці была Крамп-Карэнбаўэр фігуранткай нейкіх скандалаў?***

— Будучы паслядоўнай каталічкай, яна крытыкавала аднаполыя шлюбы, параўнаўшы іх з манагамнымі шлюбамі, што не спадабалася левым партыям. Крытыкі казалі, што так дэбаты весці неэтычна. Яна таксама выступае за абмежаванне права на аборты, што, натуральна, ёй прыгадаюць.

***— Інтранізацыя Анегрэт адбылася на фоне беспрэцэдэнтнага палітычнага крызісу ў Германіі. Больш за 150 дзён партыя Меркель не можа сфармаваць урад…***

— З улікам таго, што ў суседніх Нідэрландах або Бельгіі ўрады часам таксама фармаваліся на працягу гадоў, на першы погляд, нічога жахлівага тут няма. Аднак трэба памятаць, што Германія — гэта вітрына агульнаеўрапейскага праекта. Нестабільнасць у ФРГ, безумоўна, уплывае на стан ЕС. Акрамя таго, сацыёлагамі фіксуецца заканамернасць: чым даўжэй крызіс, тым больш выбаршчыкаў губляюць вядучыя дэмакратычныя партыі — як сацыял-дэмакраты, так і кансерватары. За той час, як цягнуцца кансультацыі наконт фармавання ўрада, абедзве палітсілы пазбавіліся каля 15 працэнтаў электарату, які паступова пераходзіць у лагер радыкалаў.

***— Якія погляды мае магчымая пераемніца Меркель наконт міжнародных пытанняў, напрыклад, украінскага?***

— Пакуль Анегрэт не да міжнародных праблем. На апошніх выбарах хрысціянскія дэмакраты, як часта жартуюць, «пацярпелі перамогу» — атрымалі галасоў больш за іншыя партыі, аднак найменш за сваю гісторыю. Таму для АКК, па яе словах, у прыярытэце вяртанне даверу людзей да CDU. Яна абяцае вярнуць рэйтынг партыі на ўзровень 40 працэнтаў, што патрабуе шмат працы са структурамі. Што тычыцца яе папярэдніх заяў на тэму міжнароднай праблематыкі, то перш за ўсё згадваюцца крытычныя ацэнкі цяперашняга турэцкага рэжыму. Увесну 2017-га яна забараніла чыноўнікам урада Эрдагана весці кампанію сярод грамадзян Турцыі ў Саары. Важна ўзгадаць, што яе родны Саар — былая частка Францыі, і мясцовыя палітыкі вельмі шмат працуюць на агульныя нямецка-французскія праекты.

***— Ці здольная АКК стаць клонам Ангелы Меркель?***

— Наўрад ці. Арэол Меркель як дасведчанага і саліднага палітыка паўстаў у часы, калі Германія і Еўропа не ведалі крызісу. Калі пачаліся больш цяжкія часы, Меркель нарабіла шмат памылак. Аднак немцы прабачаюць Меркель, якая дасюль сімвалізуе былую стабільнасць. Анегрэт не мае аўтарытэту, падобнага на аўтарытэт Меркель, і ёй давядзецца адказваць за памылкі. А яны дакладна будуць, паколькі Германія — не маленькі Саар. Праўда, магчыма, гэта і добра. Позна ці рана, але прыйдзецца адыходзіць ад стратэгіі Меркель — намагацца любым чынам заставацца ў камфорце і пазбягаць рашучых крокаў.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Павел Грудзінін



Лічылася, што алігарх і кандыдат у прэзідэнты Расіі ад КПРФ пайшоў у палітыку выключна па загаду Крамля, якому патрэбна ўзняць у грамадстве інтарэс да выбараў.

Таму нечаканай была медыятака на «караля суніцаў» (мянушка Грудзініна) на вядучых каналах тэлебачання. Яму ўзгадалі і класавую прыналежнасць, і рахункі за мяжой, і нават эксплуатацыю супрацоўнікаў сваёй кампаніі «Калгас імя Леніна». Атакі на Грудзініна тлумачаць тым, што ён не выканаў сваёй місіі: замест таго, каб матываваць на выбары новых выбаршчыкаў, пачаў забіраць галасы ў фанатаў Пуціна.

Аднак, падаецца, палітыка сапраўды захапіла бізнесмена. Прэса піша, што ён мае намер заставацца ў палітыцы нават пасля выбараў прэзідэнта ў сакавіку. Быццам, у атачэнні Грудзініна збіраюцца абвясціць новы праект, які будзе вымагаць адстаўкі Генадзя Зюганава (старшыні КПРФ) і дэмакратызацыі партыі. За аснову новага руху, кажуць, будзе ўзяты досвед «Momentum» — ініцыятывы брытанскага левага лейбарыста Джэрымі Корбіна, якая, крытыкуючы партыйных бонзаў, здолела захапіць кіраванне ў партыі. Сам Джэрымі Корбін цяпер увогуле прэтэндэнт нумар адзін на пасаду прэм'ера.

Ці рызыкне Грудзінін пайсці шляхам Корбіна, пакуль сказаць цяжка. Між тым, у Крамлі, калі верыць публікацыям, у шоку ад ідэй Грудзініна. Ён стаў фактычна адзіным расійскім палітыкам, які за апошнія гады атрымаў агульнанацыянальную пазнавальнасць.

### Віктар Орбан



Прэм'ер-міністр Венгрыі звярнуўся да парламента са штогадовай прамовай, якая стала сапраўднай інфармацыйнай бомбай.

Як піша прэса, венгерскі прэм'ер падчас выступу перайшоў усе межы. Чаго толькі вартыя словы пра тое, што за апошнюю кадэнцыю ён ліквідаваў пагрозу, якую ўяўлялі для венграў Берлін, Парыж і Брусэль. Таксама Орбан ускляў адказнасць на еўрачыноўнікаў за крызіс еўрапейскай хрысціянскай рэлігіі, якую цяпер абараняе выключна Будапешт. Орбан, напрыклад, лічыць, што Венгрыя са сваёй міграцыйнай палітыкай выратавала Еўропу ад цывілізацыйнай катастрофы, спыніўшы на сваёй мяжы некалькі сотняў мільёнаў мігрантаў-мусульман з Азіі. Інакш, калі верыць палітыку, зараз мусульмане складалі б большасць насельніцтва ў кожнай еўрапейскай краіне — з усімі наступствамі. У фінале прамове Орбан заклікаў венграў не адпачываць на лаўрах, а рыхтавацца да бітвы, паколькі «на гарызонце збіраюцца цёмныя хмары».

Як лічыць лідар «Fidesz», лёс грандыёзнай бітвы паміж хрысціянствам і ісламам можа быць вырашаны ў сакавіку ў Італіі, дзе іншы папуліст, экс-прэм'ер Сільвія Берлусконі мае шанец вярнуцца да ўлады. Нягледзячы на тое, што большасць каментатараў называюць прамову Орбана парадам ілюзіяў, «Fidesz» з 40 працэнтамі галасоў падтрымкі застаецца лідарам выбарчай гонкі.

### Джастын Трудо



Прэм'ер Канады і лідар мясцовай ліберальнай партыі моцна пасварыўся з канадскімі індзейцамі.

Пачаць трэба з таго, што ў 2015-м годзе, калі Трудо балатаваўся ў прэм'еры, ён на кожным кроку абяцаў пашырыць правы «першай нацыі» (так называюць у Канадзе індзейцаў). У прыватнасці, абяцалася вырашыць пытанне беспрацоўя сярод маладых чырванаскурых. Пасля перамогі на тыя абяцанкі Трудо трошкі забыўся, але на мінулым тыдні нейкім белым фермерам быў забіты падлетак з племені Крыў. Кіраўнік дзяржавы быў вымушаны пракаментаваць трагедыю, што прымусіла індзейцаў нагадаць былыя абяцанні.

Пры гэтым індзейцам цяпер мала новых сацыяльных праграм і федэральных субсідый. Яны патрабуюць перагледзець Акт аб правах «першай нацыі», які быў прыняты 36 гадоў таму. Індзейцы, у выпадку прыняцця папраўак, змогуць дамагацца патрабаваць грошы за здабычу сыравіны, паколькі ўсе канадскія землі гістарычна належаць абарыгенам.

Такі падыход не падабаецца мясцовым адміністрацыям і бізнесу. Між тым, некаторыя з правадыроў індзейцаў лічаць, што і гэтага мала. На іх думку, сімвалам гатоўнасці ўраду Трудо дамаўляцца з індзейцамі павінна быць змена назвы краіны. Назва «Канада», як вядома, хаця і паходзіць ад іракезскага слова «Kanata», але ўжывалася каланізатарамі.

Уладзімір ВАЛОДЗІН

# Як спаганяліся падаткі па-сталінску

**Сталінскі тэрор 1930-х гадоў быў шматгранны. Адначасова з масавымі расстрэламі і масавымі асуджэннямі на працяглыя тэрміны ў ГУЛАГу практыкавалася і масавае асуджэнне на адносна кароткія тэрміны зняволення за нязначныя правіннасці. Адным з «народных» артыкулаў 1930-х гадоў быў артыкул 93 («Няплата падаткаў») КК БССР.**




Усе прыведзеныя ніжэй прыклады ўзятыя з дакументаў суда 3 участка горада Менска. Гэты суд судзіў пераважна сялян прыгарадных сельсаветаў, што дазваляе пабачыць асноўную катэгорыю ахвяр артыкула 93 — сялян-аднаасобнікаў, якіх абкладалі невыканальнымі падаткамі, каб падарваць гаспадарку і прымусіць уступіць у калгас.

У рэдакцыі 1931 года артыкул 93 КК БССР гучаў так: «а) Няплата не ўпершыню паасобнымі грамадзянамі ва ўстаноўлены тэрмін падаткаў або збораў па абавязковаму акладному страхаванню, калі ёсць магчымасць заплаціць іх і калі былі прыняты меры прымусовага адміністрацыйнага спагнання, выклікае — штраф да ўдзесяцірочнага размеру незаплачанага падатку або збору, або папраўча-працоўныя работы да аднаго года, або пазбаўленне свабоды да трох год.

б) Злосная няплата падаткаў, у тым ліку ўтойванне маёмасці праз перавод яе на чужое імя або праз выдачу фіктыўных абавязацельстваў хаця-б і ўпершыню, выклікае — штраф да ўдзесяцірочнага размеру незаплачанага падатку, або пазбаўленне свабоды не менш, як на адзін год без высялення або з высяленнем да пяці год.

Тыя самыя дзеянні, калі яны ўчынены кулакамі, апрача ўказаных мер соцыяльнай абароны, выклікаюць — канфіскацыю маёмасці».

## Два ў адным

Абвінавачанне паводле артыкулу 93 КК БССР звычайна спалучалася з абвінавачаннем паводле артыкулу 94 («невыкананне павіннасцей»), які падрабязна разбіраўся ў папярэднім матэрыяле (НЧ №№4,5) з гэтай серыі. Але былі і выняткі.

Суддзя Манько 21 мая 1936 года пры засядацелях Запольскім і Шаўлюкевічы і сакратары Сцяпурка асудзіў паводле артыкулаў 93 (частка «а») і 94 (частка 2) Васіля Мікітавіча Коўтуна, аднаасобніка вёскі Глебкавічы (у дакуменце — Глебкаўшчына) Каладзішчанскага сельсавета. Коўтун быў «вінаваты» ў тым, што не выплаціў падатак, страхоўкі, самаабкладанні і культзбор у суме 1958 рублёў 66 капеек. Яго прысудзілі да пазбаўлення волі ў агульных месцах зняволення на 1 год і 3 месяцы.

Прысуд селянін абскардзіў, і 1 чэрвеня 1936 года было вынесенае азначэнне касацыйнай калегіі па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР (старшыня пасяджэння, верагодна, Зяльманаў — невыразна напісана ў дакуменце, члены Самойліч і Луцкевіч). Паколькі «народны» суд не прывёў ніводнага доказу злачынства па артыкуле 94 КК БССР, то па гэтым артыкуле прысуд быў адменены. Было адзначана, што па артыкуле 93 (частка «а») прысуд «вынесены правільна», але «абраная судом мера пакарання немэтазгодна». Пазбаўленне волі было замененае на папраўчыя працы ў калоніі масавых работ на год.

Накладзеныя на Коўтуна падаткі пераўзыходзілі тагачасны сярэдні гадавы заробак рабочых прамысловых прадпрыемстваў. Хутчэй за ўсё, ён не змог бы яго выплаціць, нават калі б прадаў усю гаспадарку. Не дзіва, што абсурдна вялікія падаткі былі ім праігнараваныя — відаць, селянін да апошняга спадзяваўся, што ў чыноўнікаў пераможа здаровы сэнс, і памер падатку будзе зменшаны.



## За што плацім?

Апрача сельскагаспадарчага падатку сяляне мусілі аплаціць абавязковае акладное страхаванне будынкаў, коней, буйной рагатай жывёлы і пасеваў. У 1931 годзе быў праведзены аднаразовы збор на патрэбы гаспадарчага і культурнага будаўніцтва на вёсцы, які з 1932 года ператварыўся ў штогадовы культзбор. Самаабкладанне ў тэорыі было добраахвотным — сяляне павінны былі вырашыць, ці могуць і ці хочуць яны заплаціць дадатковыя падаткі сваёй «любай сацыялістычнай айчыне». Але на практыцы ні пра якую добраахвотнасць і гаворкі не было.

У 1930-я гады сяляне сыходзілі з вёскі ды імкнуліся перайсці ў разрад прамысловых рабочых. Аднак на практыцы з такіх «адыходнікаў» усё роўна патрабавалі выканання абавязковых паставак сельгаспрадукцыі і накладалі на іх сельскія падаткі. Такім чынам, падатак трэба было заплаціць двойчы: падаходны (з заробку) і сельскагаспадарчы (з гаспадаркі, нават калі фактычна яе не вёў).

Суддзя Манько пры членах-засядацелях Сянькевічы і Харужыцы і сакратары Ліпінскай 15 лютага 1936 года разгледзеў справу аднаасобніка пасёлка Ратамка Ратамскага сельсавета Казіміра Вікенцьевіча Карповіча. Карповіч «упарта ў працягу 1935 года не выконваў дзяржаўных абавязкаў, гэта значыць не заплаціў даведзены сельгаспадатак на 1935 год (172 рублі), самаабкладання 87 рублёў і страхоўкі 19 рублёў 67 капеек, і з гэтай сумы нічога не заплаціў. А таксама не выканаў мясанарыхтоўку за 1934 год 50 кіло і 1935 год 50 кіло. Тлумачэнні падсуднага Карповіча ў тым, што ён не мог заплаціць дзяржаўныя абавязкі і выканаць мясанарыхтоўку з той прычыны, што ён працаваў у Жлобіне і не знаў, якія абавязкі перад дзяржавай выконваць, нічым не абгрунтаваны з той прычыны, што жонка яго ўвесь час пражывала на гаспадарцы і добра ведала аб усіх даведзеных абавязках перад дзяржавай». Дзеянні Карповіча былі кваліфікаваны судом па арт. 93 (частка «а») і 94 КК БССР. Ён быў асуджаны да двух гадоў пазбаўлення волі ў агульных месцах зняволення.

Справу Карповіча 20 красавіка 1936 года разгледзела касацыйная калегія па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР у складзе старшыні Луцкевіч і членаў Самойліч і Дазорцава. Калегія вынесла азначэнне, што «прыгавор нарсуда па гэтай справе вынесен справядліва», і пакінула яго ў сіле.

## «Імем рэвалюцыі»

«Класава варожыя элементы» атрымлівалі больш жорсткія прысуды. 21 мая 1936 года суддзя Манько пры засядацелях Запольскім і Шаўлюкевічы і сакратары Сцяпурка асудзіў па артыкулах 93 і 94 Васіля Бурага, аднаасобніка вёскі Міханавічы Кайкаўскага сельсавета. 51-гадовы былы серадняк да рэвалюцыі служыў гарадавым у Менску, за што, відаць, і быў пазбаўлены выбарчага права. «У працягу 1936 года катэгарычна адмовіўся выконваць усе дзяржаўныя абавязкі, [...] а таксама не выплаціў за 1936 год падатак, самаабкладанне, страхоўку і культзбор. Усяго дзяржаве не заплаціў 1041 рубель 30 капеек. Акрамя таго, падсудны Буры Васіль у Стаханаўскую вясну катэгарычна адмовіўся прыняць і пасеяць план сева на 1936 год». Суд прысудзіў Бурага да двух гадоў пазбаўлення волі ў агульных месцах зняволення і паразіў у правах на 2 гады.

## «Гендэрная роўнасць» па-сталінску

Як правіла, жанчыны былі абвінавачанымі па артыкулах 93 і 94 у тых выпадках, калі яны лічыліся кіраўнічкамі сямейных гаспадарак. Гэта ў першую чаргу тычылася ўдоў і разведзеных.

23 верасня 1936 года суддзя Манько пры засядацелях Пазняку і Сіняўскім і сакратары Ліпніцкай асудзіў па арт. 93 (частка «а») і 94 (частка 2) 38-гадовую Алену Іванаўну Камінскую, аднаасобніцу вёскі Міханавічы Кайкаўскага сельсавета. Разведзеная беларуска мела на ўтрыманні трох дзяцей ад 6 да 10 гадоў.

Як лічыў суд, яна «ўпарта і сістэматычна не выконвае дзяржаўныя абавязкі, г.зн. у працягу трох год не плаціць падаткі, страхоўку, самаабкладанне, не выконвае дарожныя павіннасці, а таксама ў працягу трох год катэгарычна адмаўлялася прыняць і выканаць пасяўны план. Тлумачэнні падсуднай, што зямлю ў яе забралі ў калгас, нічым не абгрунтаваны і абвергнуты сведкамі з той прычыны, што зямлю ў яе ўзялі часткова, 1,26 га ёй даводзіцца на працягу трох год, але Камінская катэгарычна абсяваць гэтую зямлю адмовілася». Суд прысудзіў Алену Камінскую да пазбаўлення волі ў агульных месцах зняволення на паўтара гады, але «беручы пад увагу, што яна мае 3 дзяцей і што ізаляваць яе немэтазгодна, заменіць вызначанае пакаранне ўмоўна ў працягу аднаго года».

Алена Камінская — адна з нешматлікіх асобаў, якая паспяхова абскардзіла судовае рашэнне. Касацыйная калегія Вярхоўнага Суда БССР 15 студзеня 1937 года знайшла, што «прыгавор суда па гэтай справе падлягае адмене і сама справа спыненню». Па-першае, былі выяўленыя тры працэсуальныя парушэнні: узбуджэнне справы не было санкцыянавана пракурорам; справа не была прадметам абмеркавання распарадчага пасяджэння суда; суд не меў права ўзмацняць меру пакарання Камінскай у той час, калі як першы прыгавор нарсуда быў адменены Вярхоўным Судом па яе касацыйнай скарзе (на жаль, невядома, якім быў першы прысуд і па якім артыкуле). Апрача таго, з прыкладзенай да справы даведкі было бачна, што яшчэ ў 1933 годзе зямля ў Камінскай была «із'ята» і перададзена калгасу, а ў яе карыстанні засталося толькі 0,3 га сядзібы.

Такім чынам, бачна, што ў 1930-я гады сяляне Беларусі, як і астатніх частак СССР, не толькі прыстасоўваліся да калгаснай сістэмы, але і супраціўляліся ёй: да апошняга заставаліся ў аднаасобніках, сыходзілі працаваць у горад, адмаўляліся прымаць план пасеву, нарэшце, абскарджвалі (і часам з некаторымі вынікамі) драконаўскія судовыя прысуды.

## Рэабілітацыя? Невядома

Пастановай Вярхоўнага Савета Беларусі ад 6 чэрвеня 1991 года «Аб парадку рэабілітацыі ахвяр палітычных рэпрэсій 20–80-х гадоў у Рэспубліцы Беларусь» вызначае, што рэабілітацыі падлягаюць, сярод іншых, «сяляне, у тым ліку прызнаныя кулакамі, асуджаныя за няўплату павышаных падаткаў і адмову ад выканання павіннасцей і работ, якія маюць агульнадзяржаўнае значэнне, па артыкуле 93 і артыкуле 94 Крымінальнага кодэкса БССР 1928 года». Пастанова працягвае дзейнічаць.

Адпаведна, мусілі быць рэабілітаваныя і героі гэтай публікацыі. На жаль, праверыць, ці былі яны рэабілітаваныя, у апошні час стала немагчымым: Нацыянальны архіў Беларусі перастаў выдаваць інфармацыю з базы дадзеных «Неабгрунтавана рэпрэсіраваныя грамадзяне Беларусі». Дакладней, прыдумана езуіцкая схема: інфармацыя па рэпрэсаваным выдаецца толькі яго сваякам. Паколькі аўтар матэрыялу не з'яўляецца сваяком ані Коўтуну, ані Карповічу, ані Камінскай, то і звесткі пра іх не атрымаў.

**Таму «Новы Час» просіць звязацца з рэдакцыяй тых, хто з'яўляецца сваякамі герояў публікацыі ці хоць нешта пра іх ведае.**

# 100 гадоў БНР: Дакументы сведчаць

## Як з'явілася ідэя беларускай дзяржаўнасці

Таццяна ПРОЦЬКА

**Архіўныя крыніцы з'яўляюцца аўтарытэтнейшымі, яны выклікаюць больш даверу, павагі. Таму з багатых ведаў пра пачатак беларускай дзяржаўнасці — Беларускую Народную Рэспубліку — вызначым тыя, якія належаць да архіўных крыніц, захоўваюцца ў дзяржаўных архівах.**




Калаж Радыё Свабода

Найбольш сведчанняў пра дзейнасць БНР, яе арганізацыю і намеры ўтрымліваюць нацыянальныя архівы Літвы, Беларусі і Расіі. Да пачатку 1990-х гадоў усе гэтыя звесткі мелі абмежаваны доступ нават для даследчыкаў з дзяржаўных устаноў БССР. Галоўным чынам яны выкарыстоўваліся спецслужбамі (органамі дзяржаўнай бяспекі) і ў так званай контрпрапагандзе. У першым выпадку ў дакументах шукалі сувязі з «ворагамі народа» для тых, каго планавалі прызначыць на важныя ў савецкай дзяржаве пасады. У другім — з дакументаў выбіралі тыя моманты, якія дазвалялі абгрунтаваць наяўнасць варожасці з боку БНР да ўсяго савецкага, камуністычнага, яе сувязь з «імперыялістычнымі дзяржавамі».

Менавіта з гэтых — вызначаных з дапамогай спецслужбаў — момантаў складзеныя міфы пра БНР, якія былі шырока распаўсюджаныя ў савецкія часы.

Пасля распаду СССР некаторыя рэспублікі зрабілі даступнымі для даследчыкаў савецкія сакрэтныя фонды.

У 1998 годзе былі выдадзеныя два вялікіх тамы з апісаннем дакументаў БНР і ўказаннем іх месцазнаходжання ў Літве. Прафінансавалі выданне беларусы замежжа, зрабіўшы грамадскую падпіску, выкарыстаўшы спадчыну Аляксандра Лашука, атрымаўшы грошы ад Беларускага інстытута навукі і мастацтва, Беларуска-амерыканскага задзіночання, фундацыі імя П. Крэчэўскага, Беларускага хрысціянскага фонду, Скарбніцтва Рады БНР. На тыя часы беларускія і расійскія архівы БНР яшчэ заставаліся засакрэчаныя, былі недасяжныя, і складальнік выдадзеных зборнікаў Сяргей Шупа не ведаў іх зместу.

Сёння вядучыя беларускія архівы Расіі і Беларусі фонды БНР рассакрэцілі — яны чакаюць сваіх даследчыкаў.

Уведзеныя ў навуковы зварот дакументы БНР утрымліваюць розную інфармацыю пра гераічныя і не вельмі старонкі развіцця гэтай мадэлі беларускай дзяржаўнасці. Пра лёсы людзей, адданых ідэі дзяржаўнасці, пра іх мужнасць, паслядоўнасць і пра памылкі і здрады. Гэта цікавы матэрыял для сучасных беларусаў. Але мяне заўсёды цікавіла, якой хацелі бачыць выбітныя беларусы першай паловы XX стагоддзя беларускую дзяржаву, ці спраўдзіліся іх надзеі?

Прапаную чытачам разам паглядзець на змест некаторых дакументаў з архіву БНР, які захоўваецца ў Літве.

На пачатку XX стагоддзя тэрыторыя сучаснай Беларусі ўваходзіла ў склад Расійскай імперыі. Пасля паўстання Каліноўскага тут праводзілася адрозная ад іншых расійскіх губерняў палітыка. Сутнасць яе была простая — не даць сфармавацца на гэтых землях устойлівых аб'яднанняў з нацыянальна арыентаванымі мэтамі.

Акрамя таго, на развіццё беларускай дзяржаўнасці адмоўна паўплывалі як сусветныя, так і ўнутрырасійскія падзеі. Да першых адносіцца Сусветная вайна, якая спарадзіла бежанства, разбурыла існуючыя эканамічныя, грамадскія сувязі і ўтварэнні, прынесла на беларускія землі голад і галечу. Шмат беларускіх мужчын былі прызваныя ў расійскую армію, раскіданыя па розных франтах Сусветнай вайны. Тэрыторыя Беларусі аказалася падзеленай фронтам, частка яе была занятая расійскімі войскамі, частка — германскімі. Пазней памежныя тэрыторыі Беларусі сталі прадметам гандлю паміж дзяржавамі дзеля заканчэння як Першай сусветнай, так і савецка-польскай войнаў. Вядома, у гэтых умовах незалежная беларуская дзяржава не магла разлічваць на хуткую падтрымку з боку еўрапейскіх дзяржаў.

З унутрырасійскіх праблем найбольш адмоўна паўплывалі так званыя рэвалюцыі — Лютаўская і Кастрычніцкая. Утвораны пасля Лютаўскай рэвалюцыі Часовы Урад адмовіўся разглядаць нават пытанне беларускай аўтаноміі ў складзе рэспубліканскай Расіі.

Пасля Лютаўскай рэвалюцыі ў Расіі палітычныя сілы, якія заахваліся на тэрыторыі Беларусі, былі скіраваныя на вызначэнне межаў і характару аўтаноміі Беларусі ў складзе новай Расіі. Беларуская народная грамада і Беларуская народная партыя сацыялістаў рыхтаваліся да Устаноўчага сходу, які павінен быў вырашыць палітычнае кіраванне Расіяй і мог знайсці форму беларускай аўтаноміі. Беларуская сацыялістычная грамада, як найбуйнейшая палітычная арганізацыя Беларусі, таксама мела розныя думкі наконт палітычнага вызначэння беларускай тэрыторыі. Тыя сябры БСГ, што знаходзіліся ў Вільні пад нямецкай акупацыяй, лічылі неабходным дамагчыся ад Германіі «поўнай дзяржаўнай незалежнасці Беларуска-Літоўскага краю». А тыя, хто знаходзіўся на тэрыторыі з расійскімі войскамі, падтрымлівалі Часовы Урад і выступалі за стварэнне федэратыўнай рэспублікі Расіі, у складзе якой будзе нацыянальна-культурніцкая аўтаномія Беларусі.

Галоўнай падзеяй для тагачаснага палітычнага жыцця Беларусі стаў «Усебеларускі З'езд у Менску» (такая назва ў архіўных дакументах). Захаваліся пратаколы некаторых пасяджэнняў З'езду, якія былі надрукаваныя ў тагачасных газетах, і таксама іх арыгіналы. Менавіта на З'ездзе ў выступах — і вітальных, і пры абмеркаванні розных пытанняў — упершыню прагучалі згадкі пра неабходнасць беларускай дзяржаўнасці. Бо рабілася зразумелым: вырашыць пытанні, якія вызначылі ўдзельнікі З'езду, без утварэння незалежнай беларускай дзяржавы — немагчыма.

Найбольш актуальнымі для ўдзельнікаў З'езду былі наступныя праблемы (мова арыгіналу):

«Протокол №5

Частного Совещания Всебелорусского Съезда в городском театре 6-го декабря 1917 года в 3 ½ часа дня.

Председатель тов. Дыло. Секретарь тов. Куссе-Тюз

…Утверждается выработанное Бюро и подтвержденное Советом распределение Съезда на секции. Постановлено: распределить Съезд по следующим секциям:

1. СЕКЦИЯ ПОЛИТИЧЕСКО-НАЦИОНАЛЬНАЯ: 1) Война и мир. Международное положение. 2) Положение России; 3) Современное политическое положение и судьбы Белоруссии; 4) Национальное единство Белорусского Народа и его самоопределение.

2. АГРАРНАЯ: 1) Земельный вопрос: а) передача земли трудовому народу, б) форма землепользования, в) интенсификация сельского хозяйства в связи с разрешением аграрного вопроса.

3. ЭКОНОМИЧЕСКИ-ФИНАНСОВАЯ: 1) Экономическая разруха. 2) Восстановление экономической и хозяйственной жизни края. 3) Восстановление разоренных войной крестьянских хозяйств. 4) Финансы Белоруссии. 5) Кооперация.

4. КУЛЬТУРНО-ПРОСВЕТИТЕЛЬНАЯ: 1) Расстройство культурно-общественной жизни края. 2) Восстановление культурно-общественной жизни края. 3) Призыв культурных сил для работы на родине. 4) Очередные вопросы по национальному образованию Белоруссии.

5. ПО ОРГАНИЗАЦИИ ВРЕМЕННОЙ ВЛАСТИ: 1) Организация временной краевой власти. а) Краевой представительный орган. б) Исполнительно-административный орган. в) Высший судебный орган.

6. ГОСУДАРСТВЕННО-ПРАВОВАЯ: 1) Автономия Белоруссии и Федеративный строй Республики Российской. 2) Права и вольности Белорусского Народа и национальных меньшинств Края. 3) Краевое Учредительное Собрание Белоруссии.

7. ОРГАНИЗАЦИЯ НАЦИОНАЛЬНОЙ АРМИИ: 1) Организация Национальных белорусских войск.

8. БЕЖЕНСКАЯ и по ПРИЗРЕНИЮ: 1) Беженский вопрос, 2) Инвалидный вопрос.

Совещание принимает предложение чтобы доклады вносились в Комиссии и секции для рассмотрения и после этого от имени Комиссии представлялись Съезду».

У 1918 годзе ў Кіеве была выдадзеная 16-старонкавая брашура ўдзельніка З'езду А. Цвікевіча. У гэтай брашуры, у прыватнасці, вызначалася:

«Официально Съезд открылся после трех дней предварительных Совещаний — 8 декабря. В период времени с 8 по 16 декабря шла внутренняя организационная работа: создавались комиссии, фракции, вырабатывались доклады, резолюции, составлялся Наказ, шли выборы в Президиум Съезда, в Совет (Раду) Съезда… наконец, когда черновая, внутренняя работа была закончена, наступил торжественный день осуществления Съездом его исторически важных политических задач. Первым вопросом, стоявшим в порядке дня и оглашенным председателем Всебелорусского Съезда И.Середой, был вопрос о провозглашении Белоруссии Народной Республикой и об утверждении в ее пределах народной белорусской власти. Участники этого Съезда хорошо помнят, какой энтузиазм и какая гигантская вера в правоту своего дела царили в тысячной толпе депутатов, приступивших к решению судьбы своего родного Края. Все помнят, как величественно спокойно началось историческое заседание в ночь с 17 на 18 декабря. Никто и в мыслях не допускал, что могли найтись преступные насильники, осмелившиеся посягнуть на высокое Национальное Собрание в самый ответственный момент его деятельности. А между тем преступники эти нашлись. Тайком, за спиной у Съезда они готовили свое гнусное дело. Заговор против суверенного хозяина белорусской земли провели и осуществили пришельцы со стороны в лице "Совета Народных Комиссаров Западной области и фронта". Цепляясь за свою власть и боясь, что народ, взявшийся за дело творения своей государственности выкинет их из их застенка, они вооруженной силой разогнали Всебелорусский Съезд… Тем не менее, Всебелорусский Съезд первую часть своей задачи осуществил. В присутствии сатрапов из "Совета", под угрозой штыков и расстрела из броневика, он **единогласно** под восторженные клики тысячной массы депутатов и звуки Марсельезы вынес резолюцию "об утверждении в пределах Белорусской земли Республиканского строя", о неделимости Белоруссии и о закреплении за ее гражданами основных прав, завоеванных революцией».

Трэба адзначыць, што ідэя аб неабходнасці ўтварэння незалежнай ад Расіі беларускай дзяржавы надалей развівалася пад уплывам падзей, якія адбываліся ў Расіі. Бальшавіцкі пераварот, адмаўленне ад Устаноўчага Сходу як адзінай галоўнай формы для вызначэння дзяржаўнага кіравання і самае галоўнае — рашэнне пытання выхаду з вайны за кошт падзелу беларускіх тэрыторый паміж зацікаўленымі дзяржавамі вызначылі беларускую дзяржаўнасць адзіным сродкам для вырашэння пытанняў, агучаных З'ездам.

# Яны любілі Беларусь

## Прысвячаецца светлай памяці сяброў Ураду БНР



**Па гарызанталі:** 2. Люты моцны мяцелю, а ... — капяжом (прыказка). 6. Як з мужыка зробіцца ..., то колам галавы не дастанеш (прыказка). 7. Любоў ды ... — не патрэбны і клад (прыказка). 8. Ваенны начальнік, які наглядае за парадкам пры першым урадзе Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР), які сфарміраваўся 21 лютага 1918 года. ... Мінска быў Кастусь Езавітаў — педагог, ваенны дзеяч, дэпутат Першага Усебеларускага з'езду. Расстраляны ў Мінску ў 1946 годзе. Сёлета — 125 гадоў з дня яго нараджэння. 9. Дакумент, які пацвярджае тыя або іншыя правы і паўнамоцтвы прад'яўніка. 10. Азда-бленне з пер'я на галаўным уборы. 13. ... Варонка. Імя паэта, журналіста, аднаго з ініцыятараў абвяшчэння БНР, старшыні першага ўраду БНР — Народнага Камісарыята. 15. Раздзел карана. 17. Даўні народны звычай у беларусаў калектыўнай дапамогі ў гаспадарчых работах. 19. Аркадзь ... . Прозвішча выдатнага беларускага вучонага, прафесара, аўтара многіх школьных падручнікаў, першага старшыні ТБМ, які ў першым урадзе БНР займаў пасаду народнага сакратара асветы. Расстраляны ў турме Омска ў 1938 годзе. Рэабілітаваны. 22. «Практычная ... беларускай мовы». Падручнік, аўтарам якога быў Язэп Лёсік, пісьменнік, паэт, журналіст, педагог, публіцыст, акадэмік АН Беларусі, родны дзядзька Якуба Коласа. 3 мая 1918 года быў старшынёй Рады БНР другога Ураду. Памёр у турме Саратава ў 1940 годзе. Рэабілітаваны. Сёлета — 135 гадоў з дня яго нараджэння. 23. Масленіца (18 лютага) палізуха — ... і масла палізала (прыказка). 24. Дзень з алеем, а ... дні галеем (прыказка). 25. Прэм'ер-міністр у некаторых краінах.

**Па вертыкалі:** 1. ... Ластоўскі. Імя буйнога беларускага вучонага — гісторыка, акадэміка АН Беларусі, які ў 1919 годзе ўзначальваў Урад БНР. Расстраляны ў 1938 годзе ў Саратаўскай турме. Рэабілітаваны. У Глыбокім яму ўсталяваны бюст. Сёлета — 135 гадоў з дня его нараджэння. 2. «Зямная ... — прах і попел, як дым разыходзіцца, як вадзяная пара — гіне» (Еўфрасіння Полацкая). 3. Для мядзведзя зіма — ... ноч (прыказка). 4. Шлях, сродак для дасягнення чаго-небудзь (пераноснае). 5. Асоба, якая вядзе справаводства. ... апекі ў першым урадзе БНР была Пелагея Бадунова, якая клапацілася аб адкрыцці школ, прытулкаў для дзяцей. Расстраляная ў Мінску ў 1938 годзе. У Курапатах усталяваны памятны крыж з яе прозвішчам. Рэабілітаваная. 11. Прафесія Яфіма Бялевіча, які ў першым Урадзе БНР узначальваў сакратарыят фінансаў і юстыцыі. Загінуў у сталінскім магаданскім канцлагеры. Рэабілітаваны. Сёлета — 130 гадоў з дня яго нараджэння. 12. Падтрымка, дапамога (пераноснае). 14. Той, хто загадвае чым-небудзь. 16. У лютага два сябры — завея і ... (прыказка). 18. Абзац (састарэлае). 20. ... Краўцоў. Імя паэта, публіцыста, перакладчыка, сябра першага Ураду БНР, аўтара гімна БНР «Мы выйдзем шчыльнымі радамі». Па адной з версій, закатаваны ў Беластоку ў савецкай турме. 21. Лявон ... . Прозвішча публіцыста, мемуарыста, які ў першым Урадзе БНР працаваў дзяржаўным кантралёрам. Памёр у турме Уфы падчас следства. Рэабілітаваны.

**Склаў Лявон Целеш, г. Дзяржынск**

**Адказы на крыжаванку «Жыві ў шчасці, жыві ў свабодзе» (НЧ, №2 ад 26 студзеня)**

**Па гарызанталі:** 1. Харугва. 5. Галубка. 8. Час. 9. Мяснік. 10. Управа. 12. Свіслач. 15. Ігнат. 17. Пекла. 18. Вол. 19 Рог. 22. Апека. 23. Макар. 25. Арэол. 29. Лукішкі. 31. Аканом. 32. Марабу. 33. Бой. 34. Народзе. 35. Маскаль.

**Па вертыкалі:** 1. Хамуціус. 2. Рыса. 3. Вакса. 4. Максім. 6. Анучы. 7. Брат. 11. Адвага. 13. Пагалоскі. 14. Пецярбург. 20. Праўда. 21. Беларусь. 24. Квіток. 26. Алмаз. 27. Німфа. 28. Кадр. 30. Рана.



Новы час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/190 ад 30.04.2004. Замова №205

Падпісана да друку 23.02.2018. 8.00. Наклад 2500 асобнікаў. Кошт свабодны.